

# ГЕРОІ



# ЭЛАДЫ



## З МІФАЎ СТАРАЖЫТНАЙ ГРЭЦЫІ

РАСКАЗАЛА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
ВЕРА СМІРНОВА



ПЕРАКЛАД З. ПЕТРУШЭНІ



МАСТАК А. ШЭВЕРАЎ



МІНСК «ЮНАЦТВА»



1984



# ПРАДМОВА



Шмат вякоў назад на Балканскім паўвостраве пасяліўся народ, які потым пачалі называць грэкамі. У адрозненне ад сучасных грэкаў, мы называем той народ старажытнымі грэкамі, або элінамі, а іх краіну — Эладай.

Эліны пакінулі народам усяго свету багатую спадчыну: велічныя збудаванні, якія і да нашых дзён лічацца самымі прыгожымі на свеце, цудоўныя мармуровыя і бронзавыя статуі і вялікія творы літаратуры, якія людзі чытаюць і цяпер, хоць яны напісаны на мове, на якой даўно ўжо ніхто не гаворыць на зямлі. Гэта «Іліяда» і «Адысея» — гераічныя паэмы пра тое, як грэкі бралі ў асаду горад Трою, і пра вандроўкі і прыгоды аднаго з удзельнікаў гэтай вайны — Адысея. Гэтыя паэмы спявалі вандроўныя спевакі, і створаны яны каля трох тысяч гадоў таму назад.

Ад старажытных грэкаў засталіся нам іх паданні, іх старажытныя сказанні — міфы.

Грэкі прайшлі доўгі гістарычны шлях; спатрэбіліся стагоддзі, перш чым яны сталі самым адукаваным, самым куль-

турным народам старажытнага свету. Іх уяўленні пра будову свету, іх спробы вытлумачыць усё, што адбываецца ў прыродзе і ў чалавечым грамадстве, знайшлі сваё адлюстраванне ў міфах.

Міфы ствараліся, калі эліны яшчэ не ведалі граматы, складаліся паступова, на працягу некалькіх стагоддзяў, перадаваліся з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне і ніколі не былі запісаны як адна цэласная кніга. Мы ведаем іх ужо з твораў старажытных паэтаў Гесіёда і Гамера, вядомых грэчаскіх драматургаў Эсхіла, Сафокла, Еўрыпіда і пісьменнікаў больш позніх эпох.

Вось чаму міфы старажытных грэкаў даводзіцца збіраць з самых розных крыніц і пераказваць іх.

Паводле асобных міфаў можна аднавіць карціну свету, як уяўлялі яго сабе старажытныя грэкі. Міфы расказваюць, што спачатку свет насялялі страшыдлы і веліканы: гіганты, у якіх замест ног выгіналіся вялізныя змеі; сторукія, вялізныя, нібы горы; злосныя кіклопы, або цыклопы,— з адным бліскучым вокам пасярод ілба; грозныя дзеці Зямлі і Неба — магутныя тытаны. У вобразах гігантаў і тытанаў старажытныя грэкі ўвасаблялі стыхійныя магутныя сілы прыроды. Міфы расказваюць, што пазней гэтыя стыхійныя сілы прыроды ўтаймаваў і пакарыў Зеўс —бог неба, Грамавержац і Хмараганіцель, які ўпарадкаваў свет і стаў уладаром Сусвету. На змену тытанам прыйшло царства Зеўса.

Ва ўяўленні старажытных грэкаў багі былі падобны на людзей і адносіны паміж імі нагадвалі адносіны паміж людзьмі.

Грэчаскія багі сварыліся і мірыліся, увесь час умешваліся ў жыццё людзей, удзельнічалі ў войнах. Кожны з багоў меў сваю справу, «загадваў» пэўнай «гаспадаркай» у свеце. Эліны надзялялі сваіх багоў чалавечымі характарамі і схільнасцямі. Ад людзей — «смяротных» — грэчаскія багі адрозніваліся толькі тым, што былі бессмяротныя.

Як кожнае грэчаскае племя мела свайго правадыра, ваеначальніка, суддзю і гаспадара, так і сярод багоў грэкі лічылі правадыром Зеўса. Паводле вераванняў грэкаў, сям'я Зеўса — яго брат, жонка і дзеці — падзялялі з ім уладу над светам. Жонка Зеўса, Гера, лічылася ахоўніцай сям'і, роднага дому. Брат Зеўса, Пасейдон, уладарыў над марамі; Гадэс, або Аід, кіраваў падземным царствам мёртвых; Дэметра, сястра Зеўса, багіня земляробства, распараджалася ўраджаем. У Зеўса былі дзеці: Апалон — бог святла, апякун навук і мастацтваў; Артэміда — багіня лясоў і палявання, Афіна Палада, якая нарадзілася з галавы Зеўса,— багіня мудрасці, ахоўніца рамёстваў і ведаў; кульгавы Гефест —бог-каваль і механік; Афрадыта — багіня кахання і прыгажосці, Арэс — бог вайны, Гермес — вястун багоў, самы блізкі памочнік і любімец Зеўса, ахоўнік гандлю і мараплавання.

Міфы расказваюць, што гэтыя багі жылі на гары Алімп, якая была заўсёды закрыта ад вачэй людзей воблакамі, карміліся «ежай багоў» —нектарам і амброзіяй, і ўсе справы вырашалі на банкеце ў Зеўса.

Людзі на зямлі звярталіся да багоў — да кожнага па яго «спецыяльнасці», будавалі для кожнага з іх храмы і, каб

улагодзіць, прыносілі ім дарункі — ахвяры.

Міфы расказваюць, што, апрача гэтых галоўных багоў, уся зямля была населена багамі і багінямі, якія ўвасаблялі сілы прыроды.

У рэках і ручаях жылі німфы Наяды, у моры — Нерэіды, у лясах — Дрыяды і Сатыры з казлінымі нагамі і з рожкамі на галаве; у гарах жыла німфа Рэха.

У небе гаспадарыў Геліёс — сонца, які кожны дзень аб'язджаў увесь свет на сваёй залатой калясніцы, запрэжанай вогнедышнымі коньмі; раніцай пра яго выезд абвяшчала румяная Эас — зара; уночы над зямлёй смуткавала Селена — месяц. Вятры ўяўляліся ў выглядзе розных багоў: паўночны грозны вецер — Барэй, цёплы і мяккі — Зефір.

Жыццём чалавека распараджаліся тры багіні лёсу — Мойры: яны пралі нітку чалавечага жыцця ад нараджэння да смерці і маглі абарваць яе, калі хацелі.

Акрамя міфаў пра багоў у старажытных грэкаў былі міфы пра герояў. Старажытная Грэцыя не была адзінай дзяржавай, яна складалася з маленькіх дзяржаў-гарадоў, якія часта ваявалі паміж сабою, а часам заключалі саюз супраць агульнага ворага. У кожнага горада, у кожнай вобласці быў свой герой. Героем Афін быў Тэзей, адважны юнак, які абараняў родны горад ад заваёўнікаў і перамог у паядынку страшнага быка Мінатаўра, якому аддавалі на з'ядзенне афінскіх юнакоў і дзяўчат. Героем Фракіі быў славуты спявак Арфей. У аргіван героем быў Персей, які забіў Медузу,

адзін позірк якой ператвараў чалавека ў камень.

Потым, калі грэчаскія плямёны паступова аб'ядналіся і грэкі пачалі ўсведамляць сябе адзіным народам — элінамі, з'явіўся герой усёй Грэцыі — Геракл. Быў створаны міф пра падарожжа, у якім удзельнічалі героі розных грэчаскіх гарадоў і абласцей,— пра паход арганаўтаў.

Грэкі з даўніх часоў былі мараплаўцамі. Мора, што абмывала берагі Грэцыі (Эгейскае), было зручнае для плавання — на ім шмат астравоў, яно большую частку года спакойнае, і грэкі хутка яго асвоілі. Перабіраючыся з вострава на востраў, старажытныя грэкі неўзабаве дасягнулі Малой Азіі. Паступова грэчаскія мараплаўцы пачалі асвойваць і землі, што знаходзіліся на поўнач ад Грэцыі.

У аснову міфаў пра арганаўтаў пакладзены ўспаміны пра шматлікія спробы грэчаскіх мараходаў прабрацца ў Чорнае мора. Бурнае і без адзінага вострава на шляху, Чорнае мора доўга палохала грэчаскіх маракоў.

Міф пра паход арганаўтаў цікавы для нас яшчэ і таму, што гаворка ў ім ідзе пра Каўказ, пра Калхіду; рака Фазіс — гэта цяперашні Рыён, і там сапраўды калісьці знаходзілі золата.

Міфы расказваюць, што разам з арганаўтамі ў паход па залатое руно выправіўся і вялікі герой Грэцыі — Геракл.

Геракл — гэта вобраз народнага асілка. У міфах пра дванаццаць подзвігаў Геракла старажытныя грэкі расказваюць пра гераічную барацьбу чалавека з варожымі сіламі прыроды, пра вызваленне зямлі ад страшнага панавання стыхій.

Геракл, які валодае магутнай фізічнай сілай, у той жа час з'яўляецца прыкладам мужнасці, бясстрашша, воінскай адвагі.

У міфах пра арганаўтаў і пра Геракла перад намі паўстаюць героі Элады — смелыя мараходы, адкрывальнікі новых шляхоў і новых земляў, змагары, што вызваляюць зямлю ад страшыдлаў, якімі яе насяліў першабытны розум. У вобразах гэтых герояў выражаны ідэалы старажытнага свету.

У старажытнагрэчаскіх міфах адлюстравана «маленства чалавечага грамадства», якое ў Эладзе, паводле слоў Карла Маркса, «развівалася найбольш прыгожа і мае для нас вечнае хараство». У сваіх міфах эліны выявілі выдатнае пачуццё прыгажосці, мастацкае разуменне прыроды і гісторыі. Міфы Старажытнай Грэцыі шмат вякоў натхнялі паэтаў і мастакоў усяго свету. У вершах Пушкіна і Цютчава і нават у байках Крылова мы не адзін раз знойдзем вобразы з міфаў Элады. Калі б мы не ведалі старажытнагрэчаскіх міфаў, шмат што ў мастацтве мінулага — у скульптуры, жывапісе, паэзіі — было б нам незразумела.

Вобразы старажытнагрэчаскіх міфаў захаваліся і ў нашай мове. Мы не верым цяпер, што існавалі калі-небудзь магутныя веліканы, якіх старажытныя грэкі называлі тытанамі і гігантамі, аднак мы і цяпер называем вялікія справы гіганцкімі. Мы гаворым: «Мукі Тантала», «Сізіфава праца» — і без ведання грэчаскіх міфаў гэтыя словы незразумелыя.

Самі па сабе старажытнагрэчаскія міфы — народныя паданні, якія прыйшлі да

нас з далёкай мінуўшчыны,— поўныя паэзіі і глыбокага сэнсу. Свабодалюбівы Геракл, які ачышчае зямлю ад страшыдлаў, смелыя адкрывальнікі новых земляў — арганаўты, Праметэй, які паўстаў супраць бога і даў агонь чалавецтву,— усе гэтыя вобразы сталі здабыткам сусветнай літаратуры, і кожны культурны чалавек павінен іх ведаць.



# АРГАНАЎТЫ

## *Баран з залатым рунам*

Калісьці, у даўнія-даўнія часы, расказвалі грэкі, над горадам Архаменам праплывала высока ў небе хмара. Паветраная німфа Няфела (што і азначае па-грэчаску «хмара») убачыла на гары над горадам прыгожы палац з белымі калонамі і шырокімі тэрасамі. Ей захацелася даведацца, хто там жыве, і яна спусцілася ўніз, на каменныя прыступкі палаца.

Насустрач Няфеле выйшаў гаспадар палаца — архаменскі цар Афамант. Ён прывітаў прыгажуню німфу і запрасіў яе ў палац.

Няфела зайшла ў палац і засталася там жыць. Німфа пакахала чалавека і стала яго жонкай.

Мінула некалькі гадоў. У царыцы Няфелы нарадзіліся блізняты — хлопчык і дзяўчынка, Фрыкс і Гела. Цар Афамант радаваўся,

што ў яго нарадзіліся дзеці. У Архамене было вясёлае свята, жыхары горада цэлы дзень тоўпіліся каля палаца, каб прывітаць нованароджаных.

Толькі адна Няфела была неспакойная і нярадасная. Яна часта пачала задумвацца, сумавала, падоўгу стаяла на самай высокай тэрасе палаца і глядзела на неба. Душна, цесна стала ёй у прыгожым палацы, яе вабіла ў нябесныя прасторы, на волю. Неяк раз вечарам яна ўбачыла на небе хмары, засмяялася ад радасці, узнялася да іх, забыўшы пра ўсё на свеце, і вецер панёс яе далёка ад Архамена.

Дарэмна плакалі ў палацы маленькія Фрыкс і Гела і клікалі маці — німфа Няфела не вярнулася на зямлю.

Пуста і сумна стала ў палацы без царыцы. Дзеці раслі без маці.

На той час прыйшла да Афаманта прасіць прытулку адна царэўна, па імені Іно; яе сям'ю выгналі з горада, у якім яна раней жыла, бацькі і родныя яе ўсе памерлі, і яна засталася зусім адна, без даху над галавой і ежы, без аніякай дапамогі.

«Адна пайшла, не развітаўшыся, другая прыйшла нязва-

ная»,— падумаў цар Афамант і пакінуў у сябе царэўну. Ён парашыў ажаніцца з ёю, каб яна замяніла дзецям маці.

Неўзабаве Іно стала гаспадыняй у палацы Афаманта. Цар пакахаў яе, і людзі ў Архамене прывыклі да яе — яна ж была не німфа, а гэтакі ж чалавек, як і яны. Іно была ветлівая з усімі, кожнаму старалася спадабацца. Яна песціла Фрыкса і Гелу, але тыя адчувалі, што яна не любіць іх.

Потым у Іно нарадзіўся сын, а праз год — другі. Яна ўжо больш не звяртала ўвагі на пасынка і падчарыцу і зусім перастала клапаціцца пра іх.

Міналі гады. Афамант дужа састарыўся, і ўсе чакалі, што хутка Фрыкс стане царом у Архамене.

«Што ж будзе са мною і з маімі сынамі, калі сын Хмары стане царом у Архамене?» — думала Іно.

Царыца вырашыла пазбавіцца ад Фрыкса, але яна ведала, што багі караюць за забойства, і не хацела наклікаць на сябе гнеў багоў. Іно прыдумала каварны план.

Кожную вясну архаменцы засявалі свае палеткі, а насенне для пасеву атрымлівалі са свірнаў цара. У той год людзі, як заўсёды,

прыйшлі да цара па насенне. Іно падпражыла зярняты і выдала людзям насенне, непрыгоднае для пасеву.

Прыйшла пара, і зазелянелі палеткі вакол Архамена, ды толькі не збажынай, а пустазеллем. Насенне Іно не ўзышло. У краіне пачаўся голад.

Людзі не ведалі, чаму здарылася гэткае няшчасце, і думалі, што багі гневаюцца на іх. Вырашылі папытацца ў аракула — прадказальніка, які мог адгадваць усе таямніцы мінулага, сённяшняга і будучага. Царыца Іно падахвоцілася папытацца ў аракула, завошта разгневаліся багі. Але яна нічога ні ў кога не пыталася і сама падрыхтавала адказ.

Вось што сказала Іно народу:

— Багі разгневаліся за тое, што ў Архамене была царыцай німфа Няфела, якая самавольна пакінула неба і стала жонкай чалавека. Багі не хочуць, каб сын Няфелы стаў царом у Архамене. Забіце яго — і тады вашы палеткі будуць зноў даваць вам хлеб. Такая воля багоў.

Са страхам выслухалі архаменцы гэтую ліхую вестку. Шкада ім было забіваць ні ў чым не вінаватага царэвіча, але людзі былі па-

корныя багам. І вось прызначылі дзень, у які ўрачыста перад усім народам, на гары, калі ўзыдзе месяц, павінны былі прынесці ў ахвяру Фрыкса.

Надышоў гэты дзень. Ранымрана брат і сястра стаялі адны на высокай тэрасе палаца і сумна пазіралі на неба.

Гела абдымала брата, плакала і клікала маці:

— Памажы сваім пакінутым дзецям!

Змрочны стаяў побач з ёю Фрыкс і маўчаў — ён думаў, што маці забылася пра іх.

Раптам далёка-далёка на чыстым небе з'явілася хмарка. Гэта німфа Няфела, блукаючы па паветраных прасторах, пачула жаласны покліч дачкі і прыляцела, каб памагчы дзецям. Хмарка наблізілася, апусцілася — і маці абняла сваіх дзяцей. Разам з німфай з'явіўся перад імі баран з залатымі рагамі, з доўгай залатой воўнай.

— Дзеці,— сказала німфа,— я не магу вас узяць з сабою — людзі не могуць жыць на небе. Але я дару вам залатаруннага барана. Ён пералятае цераз горы, нібы птушка, плавае ў вадзе, нібы трытон, і бяжыць па зямлі хутчэй

за вецер. Смела сядайце яму на спіну, і ён занясе вас далёка адсюль. Верце яму. Ён пераплыве з вамі тры моры і адвязе вас у царства Ээта, сына Сонца. Ээт дасць вам прытулак і будзе вам замест бацькі. Бывайце! Спяшайцеся!

І німфа зноў узнялася ў неба.

Фрыкс і Гела селі на спіну залатаруннага барана, і ён панёс іх ад ліхой мачахі. Ён пераляцеў з імі цераз горы, дабег да мора, кінуўся ў ваду і паплыў. Мора было спакойнае, і баран з дзецьмі шпарка паплыў па хвалях. Дзеці моцна трымаліся за яго залатую воўну і адно за аднаго і не баяліся. Так пераплылі яны першае мора, і хвалі вынеслі іх у вузкі доўгі праліў, які злучаў гэтае мора з другім. Тут дзьмуў моцны вецер, і цячэнне было такое імклівае, што хвалі залівалі іх з ног да галавы. Гела са страхам пазірала на пеністыя грабяні хваль; у яе замірала сэрца і кружылася галава.

— Мацней трымайся за мяне,— гаварыў Фрыкс сястры.

Але Гела дрыжала і раптам, крыкнуўшы, выпусціла руку брата і саслізнула з барана ў ваду.

— Гела! — паспеў толькі крыкнуць Фрыкс.

Але дзяўчынка ўжо знікла ў віры. Фрыкс заплюшчыў вочы і паплыў далей адзін — прэч ад гэтага жудаснага месца.

А людзі потым назвалі тую частку мора, дзе патанула Гела, Геллеспонтам — «морам Гелы».

Дзівосны баран з залатым руном мінуў другое мора і па другім праліве выплыў у шырокае бурнае Чорнае мора. Доўга плыў ён уздоўж берагоў, міма чужых зямель, не падобных на Грэцыю. Нарэшце ён дабраўся да вусця вялікай светлай ракі, што ўпадала ў мора, і далей паплыў уверх па рацэ. На беразе з аднаго боку цягнуўся густы цёмны лес з магутнымі высокімі дрэвамі — гэта быў свяшчэнны гай Арэса, бога вайны. Удалечыні ўздымаліся ў неба вяршыні гор, укрытыя снегам. На другім беразе ракі відне́ўся вялікі горад — сталіца Калхіды, Ээтава царства.

Залатарунны баран вынес Фрыкса на бераг. Фрыкс увайшоў у горад і падаўся ў палац цара Ээта. Трымаючы за рог залатаруннага барана, сын Хмары прыйшоў да сына Сонца.

Ээт сустрэў Фрыкса ласкава і пасяліў у сваім палацы. Дзівоснага

барана зарэзалі ў гонар бога Зеўса, а залатое руно павесілі на свяшчэнным дубе ў гаі Арэса. Цар прыставіў страшнага дракона пільнаваць дуб, каб ніхто не мог украсці залатое руно. З таго часу пачало багацець царства Ээта. Зямля добра радзіла, і людзі жылі ў дастатку.

Падарожнікі, якія пабывалі ў Калхідзе, разнеслі па ўсім свеце чуткі пра дзівоснае залатое руно, якое прыносіць багацце. Шмат смельчакоў з блізкіх і далёкіх краін марылі падацца ў Калхіду, каб хітрыкамі або сілаю здабыць залатое руно. Ды гэта было небяспечна і цяжка, і доўга ніхто не адважваўся на такое падарожжа.

## *Чалавек у адной сандалі*

У Фесáліі, на беразе заліва, стаяў калісьці багаты і прыгожы горад Іóлк. Царом у ім быў стары Эзóн. Малодшы брат яго, Пéлій, чалавек круты і ўладалюбівы, звергнуў Эзона і сам пачаў кіраваць Іолкам. Эзон пакарыўся Пелію, але не захацеў пакідаць родны горад і застаўся жыць у Іолку як просты грамадзянін, а свайго маленькага сына Язона ён, баючыся Пелія, адаслаў у лес, на гару Пелíён.

На схілах Пеліёна ў лесе жыло дзікае племя кентаўраў. Гэта былі напалову людзі і напалову коні: у іх чалавечая галава і торс чалавека на конскім тулаве з чатырма нагамі. Кентаўры былі вельмі лютыя і наганялі жах на мірных жыхароў краіны, калі часам, нібы дзікі табун, як віхор спускаліся з гор, топчучы палеткі і знішчаючы пад сваімі капытамі ўсё жывое.

Але сярод гэтых дзікіх істот быў адзін стары кентаўр Хірон, які славіўся мудрасцю. Яму і аддаў Эзон на выхаванне свайго сына.

Шмат гадоў пражыў Язон у горнай пячоры ў Хірона. Стары кентаўр загартаваў яго цела, зрабіў юнака дужым і спрытным, навучыў яго валодаць кап'ём і мячом, адкрыў яму шмат таямніц прыроды і вучыў яго быць хітрым у барацьбе з ворагамі.

Пелій цараваў у Іолку. Нішто не пагражала цару ў падуладным яму горадзе, але нейкая трывога ўвесь час мучыла Пелія. Часта звяртаўся ён да аракулаў-прадказальнікаў, пытаўся ў іх, ці доўга ён будзе жыць і хто перашкодзіць яго царуванню.

Неяк раз ён спытаў у аракула, адкуль чакаць яму небяспекі.

Аракул адказаў:

— Бойся чалавека, у якога абута толькі адна нага.

Пелій запомніў гэта і з таго часу, сустракаючыся з незнаёмым чалавекам, перш за ўсё глядзеў на яго ногі.

Калі Язону споўнілася дваццаць гадоў, ён адчуў сябе дужым і моцным, адчуў, што гатовы да выпрабаванняў жыцця, і захацеў вярнуцца дадому. Ён развітаўся з Хіронам, выйшаў з Пеліёнскага лесу, спусціўся з гары і рушыў у Іолк.

Па дарозе яму трапілася маленькая горная рэчка, якая разлілася ад веснавых дажджоў. Ні моста, ні нават бервяна, перакінутага цераз рэчку, не было відаць. Язон прыпадняў шкуру леапарда, якая была ў яго замест плашча, і смела ступіў у ваду. Ён вырашыў перайсці рэчку ўброд.

Раптам ён пачуў — нехта кліча яго. Ён азірнуўся і ўбачыў: на камені каля вады сядзіць старая жанчына і са страхам пазірае на бурлівую ваду.

— Памажы мне перайсці на той бераг,— сказала яна Язону,— я ўжо даўно сяджу тут і чакаю, і ніхто дагэтуль не памог мне, старой.

Язон, не сказаўшы ні слова, узяў старую на рукі і, асцярожна ступаючы па камяністым дне, перанёс яе цераз рэчку. Па дарозе развязалася ў яго сандаля на левай назе, і вада знесла яе. Язон выйшаў на бераг, асцярожна паставіў жанчыну на зямлю і хацеў ісці далей, як раптам пачуў моцны, гучны голас:

— Дзякуй, Язон, я не забуду цябе!

Ён хуценька азірнуўся, але нікога ўжо не было каля яго. Здзівіўся Язон і пакрочыў далей, усё думаючы, хто была гэтая старая і як яна даведалася яго імя.

Неўзабаве Язон прыйшоў у Іолк і апынуўся на вялікай гандлёвай плошчы, дзе было шмат народу. Усе са здзіўленнем пазіралі на незнаёмага, маладога і прыгожага, з доўгімі, як у дзяўчыны, валасамі юнака з плямістай шкурай на плячах і ў адной сандалі.

Юнак пачаў распытваць, як яму знайсці дом бацькі.

Раптам застукалі капыты, загрукаталі колы, і на плошчы ў прыгожай калясніцы, запрэжанай цудоўнымі фесалійскімі коньмі, з'явіўся ўладар Іолка — Пелій. Натоўп расступіўся, і Язон застаўся

адзін перад калясніцай цара. Пелій увесь задрыжаў, калі ўбачыў перад сабой чалавека, адна нага ў якога была абута, а другая босая.

Цар спыніў коней і спытаў, нахмурыўшыся:

— Скажы, хто ты, адкуль ты родам і што табе трэба ў Іолку?

— Я не чужынец тут,— адказаў Язон,— я нарадзіўся ў Іолку. Я сын цара Эзона і прыйшоў вярнуць назад царства майго бацькі, якое ў яго адабралі сілком. Пакажыце мне дом майго бацькі, я хачу хутчэй яго ўбачыць.

Загрукатала калясніца і памчала перапалоханага Пелія. А жыхары Іолка, якія любілі старога Эзона, віталі юнака і правялі яго да дома бацькі.

Стары Эзон заплакаў ад радасці, калі ўбачыў, якім дужым і прыгожым стаў яго сын. Ён наладзіў вясёлы баль у сваім доме, каб разам з усімі роднымі і сябрамі адсвяткаваць вяртанне яго сына. Толькі аднаго Пелія не было на гэтым свяце. Змрочны сядзеў ён у сваім палацы, з трывогай чакаў прыходу Язона і думаў, як загубіць яго.

Язон прыйшоў да Пелія разам

з раднёй і сябрамі, і гэта яшчэ больш напалохала ўладара.

Язон сказаў Пелію:

— Я не буду біцца з табою. Мы не чужыя, мы адной з табой крыві: ты брат майго бацькі, ты мне радня. Я не хачу мячом вырашаць нашу спрэчку, хачу ўсё скончыць мірам. Аддай мне па-добраму ўладу, якую ты захапіў сілай, і я пакіну табе ўсе твае багацці, усю зямлю, з якой ты збіраеш ураджай, і ўсе твае статкі і табуны коней, і тваю калясніцу, і твой палац, і твае багатыя ўбранні. Ты будзеш дажываць свой век у дастатку і спакоі, і я не крану ні цябе, ні тваіх дзяцей.

Але Пелій так адказаў Язону:

— Твая праўда, сын Эзона, і я згодны аддаць табе тое, на што ты маеш права. Ды толькі ці справядліва гэта, што ты хочаш атрымаць усё гэта дарэмна. Я ж дваццаць гадоў цараваў у Іолку і за гэтыя гады таксама набыў права на яго. А ты хочаш, каб я аддаў табе Іолк без усякай платы з твайго боку? Ты малады і дужы, Язон, ты мог бы зрабіць мне паслугу. Даўно ўжо каменем ляжыць на мне кроўная родавая крыўда, а ты ж сам сказаў: мы не чужыя...

— Загадвай! — усклікнуў горда Язон.— Абяцаю зрабіць усё, што ты скажаш.

— Слухай! — сказаў Пелій.— Ці ведаеш ты пра залатое руно? Ці ведаеш ты, што бацька Фрыкса і твой дзед былі браты, як твой бацька і я? Ці ведаеш ты, што сталася з Фрыксам у Калхідзе?

І Пелій расказаў Язону, што спачатку цар Ээт любіў Фрыкса, выдаў за яго старэйшую дачку Халкіопу і зрабіў яго сваім наследнікам. Але потым Ээт зноў сам ажаніўся, і новая жонка нарадзіла яму сына Апсірта. Тады цар загадаў Фрыксу ісці прэч з Калхіды. Фрыкс запатрабаваў, каб цар аддаў яму назад залатое руно. Пачуўшы пра гэта, Ээт раз'юшыўся і забіў свайго зяця.

— Цень Фрыкса не дае мне спакою,— з няшчырым сумам гаварыў Пелій Язону,— ён прыходзіць да мяне ўночы і просіць і патрабуе, каб я выправіўся ў Калхіду і адабраў у Ээта залатое руно. Але я стары, і няма ў мяне здароўя на такое далёкае падарожжа... Гэта павінен зрабіць ты, Язон! Здабудзь залатое руно, і ты адпомсціш за Фрыкса і твой родны край стане самым багатым на свеце,

а я з радасцю аддам табе ўладу над Іолкам.

Так гаварыў Язону каварны Пелій, а сам думаў:

«Ідзі шукаць сваю пагібель! Дзе-небудзь ты знойдзеш яе — ці ў бурным моры, на чужым беразе, ці ў гасцях у каварнага Ээта — усё роўна ты загінеш, сын Эзона. Не бачыць табе Іолка, як не здабыць і залатое руно!»

Язон пачаў збірацца ў небяспечную і цяжкую дарогу.

Каб пераплыць тры моры і дабрацца да Калхіды, патрэбны быў вялікі карабель, быстраходны і моцны, якога яшчэ не было ў Грэцыі. А каб зрабіць далёкае падарожжа на вялікім караблі і сілаю або хітрасцю здабыць залатое руно, Язону патрэбны былі адважныя і дужыя таварышы — маракі і воіны.

З гэтымі думкамі падаўся Язон у Пеліёнскі лес — шукаць дрэва, якое магло б стаць асновай для яго карабля. Неўзабаве каля падножжа гары знайшоў ён сасну і ўзяўся секчы яе. Раптам ён пачуў звонкі голас:

— Я памагу табе, Язон. У цябе будзе карабель, якога яшчэ не мелі людзі. Я дам табе ў таварышы най-

лепшых герояў Грэцыі і сама павяду вас скрозь буры і туманы, і ты здабудзеш залатое руно.

Язон пазнаў голас — голас старой, якая дзякавала яму, калі ён перанёс яе цераз раку.

Гэта была сама багіня Гера, жонка вялікага Зеўса, якая вырашыла памагчы Язону. Яна загадала яму даручыць пабудову карабля іолкскаму будаўніку Аргу і папрасіла дачку Зеўса Афіну Паладу, заступніцу і ахоўніцу вучоных і рамеснікаў, кіраваць работай.

А пакуль будаваўся карабель, Язон аб'ехаў усю Грэцыю, збіраючы сабе спадарожнікаў для далёкага плавання.

## *Адплыццё*

З вялікай пеліёнскай сасны, што ссек Язон, зрабілі аснову карабля. Прыладзілі сасновыя рэбры, змацавалі іх тоўстымі бярвёнамі; на іх наслалі палубу. Абшылі карабель дошкамі; у борце прарэзалі круглыя адтуліны для вёслаў і абшылі іх скурай. Пасярэдзіне карабля паставілі высокую тонкую сасну з перакладзінамі і на іх умацавалі палатняныя ветразі. У карму карабля ўставілі кавалак свяшчэнна-

га дуба з Дадонскай дубровы. Гэты дуб быў чарадзейны: у шолаху яго лістоў людзі маглі пачуць свой лёс. Будаўнікі карабля спадзяваліся, што гэты кавалак дадонскага дуба падкажа мараплаўцам, што ім рабіць у цяжкую часіну. На носе карабля выразалі з дрэва прыгожую галаву багіні Геры, заступніцы адважных падарожнікаў, і пазалацілі яе: няхай ззяе і блішчыць яна спераду карабля, няхай здалёку бачаць усе, што сама Гера вядзе карабель Язона.

Шмат часу мінула, пакуль нарэшце быў пабудаваны карабель, прасмолены, аснашчаны і спушчаны на ваду.

І вось надышоў дзень, калі ў гавані Іолка стаў каля прычала цуда-карабель, лёгкі на хаду, устойлівы на хвалях, акрылены ветразямі, імклівы і прыгожы. Яго назвалі «Арго» — у гонар майстра, што пабудаваў яго.

Шумна і весела было ў Іолку. Пяцьдзесят самых лепшых грэчаскіх юнакоў, краса і сіла ўсёй Грэцыі, з'ехаліся сюды, каб на «Арго» плыць у далёкую Калхіду па залатое руно. Тут былі: магутны Геракл са сваім юным сябрам Гі́ласам, браты-блізняты Касто́р і Па-

лідэ́ўк, якія ніколі не разлучаліся, браты Пеле́й і Тэламо́н з Фесаліі, афінскі цар Эге́й, Лаэ́рт — цар вострава Іта́кі, юны Адме́т — сваяк Язона, сілач Іда́с і мудры Амфіяра́й, які ўмеў адгадваць будучае; прыйшоў са сваёй кіфарай[1] славуты грэчаскі спявак Арфей; прыляцелі на магутных крылах два сыны бога ветру Барэя — Калаі́д і Зет. І шмат іншых герояў сабралася ў прызначаны дзень у Іолку. Галоўным у паходзе быў Язон, рулявым карабля — умелы і вопытны марак Тыфіс, яго памочнікам — зоркі Лінке́й, які бачыў усё, нават глыбока пад зямлёй. Размеркавалі месцы для весляроў, а на кармавое вясло прызначылі двух самых дужых — Геракла і Анкея. Пагрузілі на «Арго» запасы харчоў, віна і прэснай вады, каб у дарозе было ўволю што піць і есці.

Апошнюю ноч арганаўты — так называлі яны сябе — правялі на беразе мора, каля свайго карабля. Яны весяліліся, слухалі расказы бывалых людзей і цудоўныя песні Арфея і доўга не маглі заснуць.

На досвітку Тыфіс пабудзіў

[1] Кіфа́ра — музычны струнны інструмент.

усіх: пара было адплываць. Весляры селі за вёслы, рулявы стаў каля руля.

Язон наліў поўную чашу віна.

— За шчаслівае плаванне! — усклікнуў ён і выліў віно ў мора — такі быў звычай маракоў перад адплыццём.

Весляры налеглі на вёслы, і «Арго» памчаўся па ціхім заліве. За Пеліёнскім мысам, калі выйшлі ў адкрытае мора, арганаўты паставілі ветразі. Дзьмуў спадарожны вецер, і лёгкі карабель шпарка паплыў уздоўж гарыстых берагоў Фесаліі.

Вось коні Геліёса вынеслі на неба сонечную калясніцу — узышло сонца. Радаснымі воклічамі віталі арганаўты першы дзень свайго плавання. На небе не было ні хмурынкі, мора спакойнае. Сэрцы поўніліся чаканнем і надзеяй, вернымі спадарожнікамі мараходаў.

Зазвінелі залатыя струны, і моцны голас Арфея заглушыў плюскат хваляў за бортам карабля.

Пачуўшы песню Арфея, на паверхню мора выплылі дэльфіны і рыбы і паплылі за «Арго», нібы статак, які паслухмяна ідзе за пастухом.

## *На востраве Лемнас*

Арганаўты доўга плылі ўздоўж берагоў Грэцыі, потым абагнулі апошні выступ Халкідскага паўвострава і выйшлі ў адкрытае мора.

Аднойчы вечарам яны ўбачылі наперадзе ў моры вогненна-чырвоны востраў. Спачатку яны падумалі, што гэта сонца, якое якраз заходзіла, так афарбавала высокія горы на востраве. Але надышла ноч, усё пацямнела навокал, а невядомы востраў нібы палаў у цемры перад імі, і чым бліжэй падплываў да яго «Арго», тым ярчэйшае было зарава.

Раптам з вяршыні гары, што ўзвышалася над вострававам, вырваўся слуп агню, узняўся высока ў неба і з шумам і трэскам, рассыпаючы мільёны іскраў і распаленых камянёў, абрынуўся ў мора.

Арганаўты стоўпіліся на палубе, любаваліся велічным відовішчам і пыталіся адзін у аднаго, што азначае гэты пажар сярод мора.

Надышла раніца, і агонь на востраве пагас, толькі густы дым ішоў з гары, як ідзе дым з коміна, калі ў доме паляць у печы.

«Арго» наблізіўся да берага.

Каб хвалі не знеслі карабель, арганаўты апусцілі на дно — мора было тут неглыбокае — вялікі камень, абвязаны моцным канатам. Другі такі канат быў прымацаваны на карме: канец яго кінулі на бераг, і адзін з весляроў зачапіў яго за выступ скалы і завязаў вузлом.

Павольна сыходзілі на бераг арганаўты. Страшна было ступіць на зямлю, унутры якой таіўся агонь: яна здавалася ім гарачай і зыбкай. Агледзеўшыся, яны ўбачылі ўдалечыні гарадскія сцены і накіраваліся туды, каб даведацца, як называецца гэты востраў і што за людзі тут жывуць.

Прыбыццё арганаўтаў ужо заўважылі ў горадзе: ледзь толькі яны адышліся ад берага, дзе прычаліў «Арго», як з гарадскіх варот выйшаў вялікі ўзброены атрад і, грозна падняўшы зброю, рушыў ім насустрач.

Арганаўты на ўсякі выпадак таксама пастроіліся ў баявы парадак і падрыхтаваліся да бою. Але зоркі Лінкей раптам засмяяўся і сказаў:

— Стойце, сябры, апусціце вашы мячы і коп'і: гэта жанчыны.

І сапраўды, гэта былі жанчыны ў воінскіх даспехах і са зброяй у руках.

Арганаўты спыніліся і здзіўлена разглядвалі незвычайных сваіх праціўнікаў. Убачыўшы, што чужынцы не збіраюцца нападаць на іх, жанчыны таксама спыніліся і, параіўшыся паміж сабою, паслалі наперад вястунку — даведацца, што гэта за людзі і чаго яны высадзіліся на востраве.

Арганаўты сказалі, што шлях іх ляжыць міма вострава, што яны і ў думках не маюць нічога кепскага, і папрасілі дазволу агледзець цудоўны востраў і папоўніць запасы харчоў і вады.

Ад вястункі яны даведаліся, што гэта востраў Лемнас.

Тут, у сярэдзіне вогнедышнай гары Масіхл, была кузня бога Гефеста, вечна палаў свяшчэнны агонь у горне. А калі ў божага майстра было асабліва шмат работы і яго аднавокія чаляднікі — кіклопы — моцна раздзімалі агонь, іскры ляцелі высока ў неба і ўвесь востраў дрыжаў і ўздрыгваў ад падземных удараў магутнага молата. Адсюль калісьці ўкраў тытан Праметэй маленькую іскру, каб падарыць людзям агонь.

Са здзіўленнем арганаўты даведаліся, што на востраве зусім няма мужчын.

У горадзе жылі адны жанчыны; яны працавалі ў полі і ў майстэрнях, выконвалі ўсю мужчынскую работу. Абараняць востраў ад нападаў павінны былі таксама жанчыны.

Кіравала ўсім гэтым жаночым царствам маладая царыца Інсіпі́ла.

Калі вястунка перадала ёй просьбу арганаўтаў, царыца загадала ўсім жанчынам сабрацца на плошчы, дзе яны звычайна абмяркоўвалі свае справы, і сказала:

— Мілыя сёстры! Мы дадзім чужынцам хлеба, садавіны і салодкага ле́мнаскага віна. Аднясём ім на карабель нашы дарункі. Але няхай яны як мага хутчэй плывуць адсюль, няхай не заходзяць у наш горад. Яны магутныя, гэтыя чужынцы, і мы не ведаем, што ў іх у галаве.

Але старая нянька царыцы, сівая Паліксо, запярэчыла:

— Паглядзіце на мяне: я сівая, я старая, я хутка памру. Калі старыя памруць, а маладыя састарацца, хто будзе запрагаць валоў у ярмо і араць зямлю, і сеяць хлеб, і жаць каласы ў полі? Хто абароніць горад ад нападу ваяўнічых суседзяў і вас саміх ад цяжкага рабства? Хто адрамантуе стары

дом і пабудуе новы? Хто будзе жыць пасля нас? Самі багі паслалі нам гэты карабель і на ім пяцьдзесят адважных і дужых герояў. Па ўсім відаць, што гэта добрыя людзі. Паслухайцеся маёй парады: запрасіце іх да сябе жыць, няхай яны застануцца на Лемнасе, няхай кіруюць горадам, няхай выберуць сабе жонак і жонкі народзяць дзяцей, няхай стануць прышэльцы вам роднымі і будуць вашай апорай у любой справе і абаронцамі ад усіх ворагаў.

Так гаварыла старая Палікcó, і жанчыны, падумаўшы, згадзіліся з ёю. Хуценька запрэглі коней у калясніцу, нагрузілі яе кашамі з садавінай і збанамі з віном і паслалі вястунку да арганаўтаў — аддаць ім дарункі і запрасіць іх на банкет да царыцы Іпсіпілы.

Арганаўты з радасцю прынялі запрашэнне, апранулі свае самыя лепшыя ўборы і выправіліся ў горад. Толькі Геракл з юнаком Гіласам, Амфіярай і спявак Арфей засталіся вартаваць карабель.

Ветліва сустракалі жанчыны герояў на вуліцах горада, шырока адчынялі перад імі дзверы.

Язона прывялі ў палац царыцы, і яна сказала яму:

— Мы рады табе і тваім таварышам. Будзьце гасцямі на нашым свяце. Праславім уладара нашага вострава бога Гефе́ста і жонку яго — багіню Афрады́ту!

Арганаўты разышліся па ўсім горадзе, і пачаўся вясёлы баль.

У час балю царыца сказала Язону:

— Бачыш, які цудоўны наш востраў, якая багатая наша зямля. Палюбі гэтую зямлю і, калі хочаш, застанься з намі, жыві ў гэтым палацы і будзь царом у нашым горадзе. І таварышам сваім загадай застацца на Лемнасе.

— Царыца,— сказаў Язон,— дзякуй за ласку і добрае слова, але я не магу застацца і быць царом на Лемнасе, хоць востраў твой і горад цудоўныя. Дарога мая далёкая і доўгая, і я павінен выканаць тое, што абяцаў. Я павінен здабыць залатое руно.

Царыца засмуцілася. Яна так ласкава пазірала на Язона, так весела гучалі песні ў горадзе, так бесклапотна танцавалі прыгожыя дзяўчаты на плошчах і вуліцах, а старая Па́ліксо так лагодна бурчала: «Куды спяшацца? Навошта спяшацца шукаць пагібель? Няхай небяспека сама шукае героя».

Баль змяняўся балем. Міналі гадзіны, і дні, і ночы, а арганаўты і не думалі вяртацца на свой карабель.

Доўга чакаў іх Геракл, нарэшце сам падаўся ў горад і пачаў сварыцца на сваіх бесклапотных таварышаў:

— Хіба для таго пабудаваны наш «Арго», каб хвалі білі яго аб лемнаскі бераг? Хіба для таго збіраў нас Язон па ўсёй Грэцыі, каб баляваць у гасцях у жанчын? Спадарожны вецер гоніць «Арго» ў дарогу, моцна напяты прычальны канат вось-вось парвецца. Хто не хоча быць пестам і дармаедам у жанчын — наперад, у дарогу па залатое руно! У дарогу, арганаўты!

Прысаромленыя, быццам пасля пахмелля, арганаўты зноў сабраліся разам і пачалі рыхтавацца да адплыцця.

Лемнаскія жанчыны прынеслі ім на карабель усё, чым багаты быў востраў, і плакалі, развітваючыся з героямі, бо палюбілі іх і не хацелі расставацца з імі.

— Жадаем вам шчасця і ў плаванні, і ў вашай небяспечнай справе,— сказала Язону царыца Іпсіпіла і ціха дадала: — Калі ты здабудзеш залатое руно і захочаш

вярнуцца на Лемнас, я аддам табе горад, і ўладу, і сваё каханне. Помні пра гэта.

Але слёзы былі ў яе на вачах, бо яна прадчувала, што арганаўты ніколі не вернуцца на Лемнас.

Геракл падняў з дна камень, які трымаў карабель на месцы. Адвязалі ад лемнаскай скалы прычальны канат, і, згарнуўшыся, нібы змяя, ён паслухмяна лёг каля ног рулявога.

Весляры былі на сваіх месцах. Язон падаў знак — у момант узняцелі вёслы, і «Арго» зноў рушыў у дарогу.

## *Мядзведжая гара*

Арганаўты плылі проста на ўсход і доўга не бачылі нічога вакол, апрача мора і неба. Потым наперадзе паказаўся бераг. Паміж дзвюмаградамі невысокіх прыбярэжных узгоркаў засінела вузкая паласа праліва. Хвалі з шумам грувасціліся ў праліве, і белая пена білася каля берагоў.

Арганаўты наблізіліся да таго месца, дзе патанула Гела, упаўшы з залатога барана.

— Гелеспонт! — сказаў рулявы Тыфіс.

Быстраходнаму лёгкаму «Арго» былі не страшныя ні віры, ні хуткае цячэнне, і арганаўты доўга плылі па вузкім доўгім праліве, з цікавасцю разглядаючы блізкі бераг. Калі мінулі праліў, вырашылі зрабіць прыпынак, перш чым плыць цераз Прапантыду — другое мора, што ляжала на іх шляху. Яны наблізіліся да берага.

Перад імі распасціралася нізкая зялёная раўніна, парослая сакавітай травою. Мора глыбока ўразалася ў гэтую раўніну і ўтварала ціхі заліў. Вузкая дарожка, нібы земляны масток, вяла ўгору, на высокую цёмную крутую гару, падобную на вялікага ўскудлачанага мядзведзя.

Ціха і спакойна было на беразе. Чарада тлустых авечак хадзіла па пашы; каля самага мора сушыліся на сонцы рыбацкія сеткі.

Арганаўты скіравалі свой карабель у заліў, знайшлі зручнае месца і прычалілі. Людзі, што жылі на беразе, сустрэлі іх ветліва. Гэта былі даліёны, дабрадушнае і мірнае племя.

Даліёны расказалі арганаўтам, што вядуць свой род ад бога мораў Пасейдона, што Пасейдон — іх заступнік і абаронца ад усіх во-

рагаў. Яны паказалі на высокую гару, якая навісала над залівам, і сказалі, што гэта Мядзведжая гара. На ёй жывуць шасцірукія веліканы; яны магутныя і лютыя, але баяцца Пасейдона і таму не чапаюць даліёнаў.

Неўзабаве з'явіўся на бераг і цар даліёнаў. Ён быў вельмі малады, амаль хлапчук, без вусоў і вельмі ласкавы, падобны на дзяўчынку. Яго звалі Кізік, як і зямлю, якой ён кіраваў. Кізік пачціва прывітаў герояў і запрасіў іх на банкет. Банкет быў надзвычай просты — засмажылі самых тлустых бараноў з царскай чарады і прынеслі садавіны і віна. Юны цар быў вясёлы, павёў гасцей на Мядзведжую гару — паглядзець на мора, расказаў ім, як лепш плыць далей, паказаў ім свае лугі і сады і падарыў з дзесятак найлепшых авечак на дарогу.

Арганаўты пераначавалі ў гасцінных даліёнаў і назаўтра раніцай сабраліся ў дарогу, развіталіся з Кізікам і селі на карабель.

Раптам вялікія камяні нібы сарваліся з Мядзведжай гары, паляцелі ў ваду каля «Арго»; пачуўся дзікі рык, і падарожнікі ўбачылі веліканаў. Яны былі вышынёй з

маладую сасну, і ў кожнага, нібы сукі ў дрэве, тырчалі шэсць доўгіх рук: дзве, як у людзей,— ад плеч, дзве каля паясніцы і яшчэ дзве па баках. Веліканы з шумам вывarочвалі камяні з гары, адрывалі цэлыя скалы і кідалі ў заліў, каб загарадзіць выхад караблю ў адкрытае мора. Каменныя глыбы падалі ў ваду і маглі разбіць «Арго». Даліёны ад страху разбегліся, пахаваліся, і самі арганаўты разгубіліся. Тады Геракл схапіў свой лук, стаў на носе карабля і пачаў пускаць у веліканаў стрэлы. Адзін за другім, нібы падсечаныя пад корань дрэвы, падалі веліканы з гары ў мора. Прыкрыўшыся шчытамі ад камянёў і асколкаў, арганаўты сышлі на зямлю і распачалі бой з шасцірукімі. Веліканы былі спераабіты, і, пакінуўшы іх на спажыву рыбам і птушкам, арганаўты адплылі ад Кізіка.

Цэлы дзень плыў «Арго», хутка аддаляючыся ад Мядзведжай гары. Калі надышоў вечар і карабель быў ужо далёка ад берага, у адкрытым моры раптам падзьмуў моцны вецер. Арганаўты ўзрадаваліся ветру, распусцілі ветразі і леглі спаць, не заўважыўшы, што вецер дзьме ў той бок, адкуль яны

спачатку плылі. Уночы бура прыгнала іх назад да Кізіка, але ў цемры яны не пазналі знаёмага берага і падумалі, што гэта нейкая новая краіна на іх шляху. Яны прычалілі да берага і сышлі на зямлю, грозна бразгаючы зброяй.

Даліёны ў начной цемры таксама не пазналі арганаўтаў. Пачуўшы плёскат вёслаў і звон мячоў, яны падумалі, што гэта марскія разбойнікі выкарысталі бурную цёмную ноч і напалі на Кізік. Мячамі і коп'ямі сустрэлі цяпер даліёны сваіх учарашніх гасцей. Да світання не спыняўся на беразе жорсткі бой. Арганаўты былі больш вопытныя ў баі і дужэйшыя, і шмат даліёнаў загінула. Сам юны цар быў насмерць працяты меткім кап'ём Язона.

Калі ж развіднела і стала ўсё добра відаць наўкол, праціўнікі з жахам убачылі, што ў цемры ночы яны біліся з сябрамі.

Тры дні і тры ночы аплаквалі арганаўты і даліёны сваю жудасную памылку і смерць цара. Яго пахавалі на беразе мора і на магіле насыпалі высокі пагорак. І доўга ўзвышаўся гэты пагорак, і маракі з караблёў, якія заходзілі ў гавань, адразу пазнавалі тое месца.

## *Сварка на караблі*

Сум агарнуў сэрцы арганаўтаў пасля таго злоснага жарту, які падстроіў ім вецер. Моўчкі выконваў кожны сваю дзённую работу; не чуваць было на караблі ні смеху, ні жартаў, ні расказаў бывалых маракоў. І Арфей не спяваў больш песень.

І мора было неспакойнае. Парывісты вецер увесь час мяняўся, сярдзіта дзьмуў і гнаў карабель то ў адзін, то ў другі бок. Цяжка было рулявому весці карабель, і вялікія хвалі перашкаджалі веслярам. Марудна плыў уперад «Арго».

Раптам зламалася вясло ў Геракла. Вясло адразу ж знесла цячэннем, толькі палка засталася ў руках у героя. Са злосці шпурнуў ён абломак у непрыветныя хвалі і пакінуў сваё месца сярод весляроў.

Язон сказаў рулявому:

— Кіруй да берага! Мы стаміліся змагацца з хвалямі, патрэбны адпачынак. І Гераклу патрэбна новае вясло. Ён знойдзе яго ў лесе на беразе. Прычалім да берага!

Рулявы паслухмяна накіраваў карабель да зямлі, і неўзабаве яны

прысталі да пустыннага берага, зарослага густым лесам.

Геракл накінуў на плечы львіную шкуру, якую ён насіў замест плашча, узяў свой меч, лук і калчан са стрэламі і рушыў у лес па новае вясло. Стомленыя весляры з радасцю апусцілі вёслы, прылеглі на траве адпачыць, пакуль згатуецца вячэра, а юнага Гіласа, выхаванца Геракла, якога ён вельмі любіў, паслалі пашукаць у лесе ручай і прынесці вады.

Весела падсвістваючы птушкам, Гілас ішоў па лесе і прыслухоўваўся. Вось збоку, за кустамі, ледзь чутна ляпечуць лянівыя рачныя струмені. Хлопчык расхінуў кусты, і перад ім бліснула лясная затока. Было так ціха і такой ласкавай здавалася рака ў зялёных берагах, што Гілас без усякай апаскі падышоў да вады і доўга любаваўся, як цудоўна адлюстроўваліся ў рацэ кусты і дрэвы, і сіняе неба, і хмаркі, што плылі над лесам, і ён сам з вялікім збаном у руках. Раптам ён убачыў у празрыстай вадзе красуню німфу з зялёнымі валасамі; яна вабіла яго і клікала да сябе на дно, дзе быў такі чысты пясок і мільгалі рознакаляровыя рыбкі.

Хлопчык спалохаўся, хацеў хутчэй зачэрпнуць вады збаном, нагнуўся, і ў той жа момант дзве тонкія рукі высунуліся з вады, абнялі яго моцна за шыю і пацягнулі за сабою. Збан выпаў у яго з рук, і Гілас з жаласным крыкам апусціўся ў ваду.

Арганаўты пачулі яго крык. Паліфем, сябар Геракла, выхапіў меч, кінуўся ў гушчар — ён думаў, што лясны звер напаў на хлопчыка, і заспяшаўся на дапамогу. Але нікога не знайшоў ён каля ракі, толькі разбіты збан ляжаў у вадзе каля берага.

А Геракл тым часам паглыбіўся ў лес і знайшоў маладую сасну, якая здалася яму прыдатнай для новага весла. Моцна абхапіўшы аберуч ствол, ён вырваў дрэва з коранем, узваліў сасну сабе на спіну і панёс на бераг мора, каб там абчасаць яе і зрабіць весла. Пачуўшы, што прапаў Гілас, Геракл кінуў сасну на зямлю і падаўся на пошукі свайго любімца. Але дарэмна Геракл, прыгнуўшыся да зямлі, шукаў сляды на траве і ў кустах — след Гіласавых сандаляў быў відаць толькі на пяску каля самай вады.

Не, не лясны звер зацягнуў Гіла-

са ў сваю нару, не драпежная птушка схапіла яго. З усяе сілы крычалі Геракл і Паліфем, паварочваючыся на ўсе чатыры бакі, клікалі: «Гілас! Гілас!» І пачулі ў адказ слабы водгук — не то ўздых, не то стогн, быццам аднекуль здалёк адзываўся ім голас Гіласа. Яны не маглі зразумець, адкуль чуўся той голас, кідаліся ў розныя бакі. А голас ішоў з вады, і калі б яны зазірнулі ў раку, яны ўбачылі б, як плакаў і рваўся да іх з дна бедны Гілас і як німфы стараліся суцешыць яго пацалункамі.

Але сябры не ведалі, што хлопчык быў гэтак блізка ад іх, і падаліся на пошукі ў лясныя нетры. Усю ноч яны блукалі па лесе і зайшлі так далёка ад берага мора, што ўжо не маглі чуць, што рабілася на караблі.

Арганаўты добра адпачылі ў тую ноч. На досвітку, як толькі ўзышла заранка, прачнуўся рулявы Тыфіс і ўбачыў, што дзьме спадарожны вецер. Тыфіс пабудзіў таварышаў і пачаў прыспешваць з ад'ездам. Арганаўты хуценька сабраліся. Вецер надзьмуў белы ветразь, і карабель памчаўся па хвалях.

Узышло сонца, асвяціла карабель, і арганаўты ўбачылі, што

месцы Геракла і Паліфема пустыя. І не было хлопчыка Гіласа. Гэта была першая страта ў дарозе, і арганаўты захваляваліся.

Што рабіць? Вярнуцца? Але ж вецер спадарожны... І яны ўжо ведаюць, як небяспечна вяртацца на старое месца. Плыць далей, кінуць таварышаў адных на чужой старане... «Не!.. Не!.. Няхай скажа Язон, што рабіць. Язон абраны старшым, Язон — начальнік, няхай распараджаецца Язон!» — так гаварылі арганаўты і акружылі Язона, патрабуючы, каб ён усё вырашыў.

Але Язон маўчаў, быццам не чуў, што яму гаварылі. Звесіўшы галаву, пануры сядзеў ён каля рулявога і думаў. Тады Тэламон, які больш за ўсіх любіў Геракла, гнеўна закрычаў:

— Чаго мы можам чакаць ад Язона! Паглядзіце, ён спакойны. Адзін ён спакойны. Я ведаю: ён заўсёды зайздросціў Гераклу, цяпер ён радуецца — ніхто больш не перашкодзіць яго славе. Можа, ён падстроіў усё гэта знарок. Ён ведаў, што Геракла няма з намі, калі адплываў карабель... І Тыфіс памагаў Язону ў гэтым... Не, я не хачу плыць далей з вамі! Назад!

Назад! Чуеш, рулявы! Паварочвай назад, кіруй да берага!

Бліскаючы вачамі, кінуўся Тэламон да Тыфіса і сілком хацеў вырваць у яго руль, каб павярнуць карабель. Дзьмуў моцны вецер, і паварочваць было небяспечна. Два сыны Барэя, крылатыя героі, схапілі Тэламона за рукі, хацелі ўтрымаць яго і гучна лаяліся.

Раптам наляцела вялізная хваля, ударыла ў борт, магутная рука схапіла за карму і спыніла карабель. Увесь павіты водарасцямі, кудлаты, строгі, з'явіўся перад арганаўтамі бог мора і грозна сказаў:

— Кіньце сварыцца! Помніце, куды і чаго вы плывяце. Не вяртайцеся, спяшайцеся ўперад! Не па злым пажаданні Язона, а па мудрай волі Зеўса засталіся на беразе вашы таварышы. Іншыя справы, другія подзвігі чакаюць Геракла. А вы плывіце з Язонам далей.

Сказаў — і знік у марской глыбіні. Адразу ж, як вецер, суцішыўся гнеў Тэламона, і яму зрабілася сорамна, што ён пакрыўдзіў старшага таварыша. Прысаромлены, падышоў ён да Язона і ціха сказаў:

— Даруй мне за дзёрзкія і грубыя словы! Іх парадзілі смутак і гнеў.

Язон дараваў Тэламону і памірыўся з ім. Зноў быў мір на караблі, арганаўты дружна веславалі, і «Арго» плыў па моры ўсё далей і далей.

## *У царстве бебрыкаў*

Паспешліва адплываючы з апошняй стаянкі, арганаўты забыліся папоўніць запасы прэснай вады, і хутка ім зноў давялося паварочваць да берага.

Набліжаючыся да зямлі, яны ўбачылі бедныя хаціны з камянёў і неабчасаных бярвёнаў і людзей у звярыных шкурах, дзікіх і ваяўнічых з выгляду. Заўважыўшы карабель арганаўтаў, дзікія людзі з крыкамі кінуліся да таго месца, дзе прычальваў карабель, стоўпіліся, нібы бараны, і з цікавасцю чакалі высадкі, не выказваючы ніякіх прыкмет гасціннасці. З натоўпу выйшаў чалавек вялізнага росту, у чорным плашчы, з цяжкай дубінай у руках.

Язон зразумеў, што перад ім правадыр гэтых дзікіх людзей, і, ступіўшы на зямлю, звярнуўся да яго.

— Вітаю цябе! — сказаў Язон.— Калі ласка, скажы нам, чыя гэта зямля і які народ тут жыве? Мы —

арганаўты, вольныя мараплаўцы. Плывём з грэчаскага горада Іолка ў далёкую Калхіду, каб здабыць залатое руно, якое прыносіць людзям багацце і дастатак. Не бойцеся нас, мы не зробім вам ніякай шкоды. Мы толькі набяром у нашы пасудзіны свежай вады і паплывём далей. Вялікі Зеўс загадвае ўсім людзям быць гасціннымі і даваць прытулак падарожнікам...

— Не ведаю ніякага Зеўса! — груба перапыніў Язона чалавек у чорным плашчы.— Я — Амік, у мяне свае законы. Калі ўжо лёс занёс вас да мяне, у царства бебрыкаў, дык ведайце, як я прымаю гасцей. Глядзіце! — І ён паказаў дубінаю: каля ўвахода ў паселішча на доўгіх жэрдках тырчалі высахлыя чалавечыя галовы.— Месца хопіць і для вас, марскія бадзягі! — засмяяўся дзікун.

Бебрыкі таксама ўсміхаліся, ім падабаўся жарт цара.

Амік гаварыў далей:

— Усіх чужаземцаў, якія ступяць на маю зямлю, я частую пасвойму. Вось! — І ён ганарыста ўзняў свой кулак велічынёй з галаву Язона.— Гэй вы, мараплаўцы, хто з вас самы дужы, няхай выходзіць са мною на кулачкі! Хто мяне

пераможа — будзе тут гаспадаром, каго я перамагу — з таго галаву здыму на памяць... Ну? Прымаеце мой пачастунак?

Ледзь стрымліваючы гнеў, слухалі арганаўты пахвальбу цара бебрыкаў. Язон не сказаў ні слова і пачаў здымаць з сябе зброю. Ды яго апярэдзіў Палідэўк.

— Мяне называлі калісьці лепшым кулачным байцом у Эладзе,— сказаў ён таварышам,— дазвольце мне ўціхамірыць гэтага бебрыка.— І, павярнуўшыся да Аміка, пачціва пакланіўся: — Дзякую за сардэчную сустрэчу. Не будзем марнаваць часу. Я гатовы!

Велікан паглядзеў на Палідэўка з усмешкаю: юны герой ледзь даставаў яму да пляча.

Але Палідэўк спакойна зняў з сябе шчыт, меч і шлем і аддаў у рукі брату Кастору, каб ён патрымаў іх у час бою.

Амік, сярдзіта буркнуўшы, адкінуў убок сваю дубіну з такою сілаю, што пыл узняўся слупам. Працаўнікі скінулі на траву свае плашчы і абматалі рамянямі рукі па локці.

Бебрыкі прагным натоўпам акружылі іх. Арганаўты горда стаялі стройнымі радамі воддаль.

— Ну, малы, зараз табе будуць канцы! — фанабэрыста сказаў Амік, размахнуўся і абрынуў свой цяжкі кулак проста на галаву Палідэўка.

Але Палідэўк своечасова ўхіліўся і стукнуў злёгку праціўніка ў жывот.

— О-хо-хо! —рагатнуў Амік.— Ты вёрткі, малыш, але не дражні мяне — я не люблю, калі мяне казычуць.— І, нагнуўшыся, з сілай выкінуў уперад кулак, каб ударыць юнака ў грудзі, пад сэрца.

Палідэўк адскочыў убок і з размаху стукнуў велікана ў скроню так, што ў галаве ў таго зазвінела і чырвоныя кругі паплылі перад вачамі. Бебрык раз'ятрыўся і, не памятаючы сябе, пачаў біць направа і налева, куды папала, трацячы дарэмна сілы, таму што юнак арганаўт кожны раз паспяваў ухіліцца, адскочыць назад і толькі стараўся знясіліць свайго праціўніка, а сам чакаў зручнага моманту, каб нанесці рашаючы ўдар. Нібы раз'юшаны бугай, кідаўся Амік ва ўсе бакі, цяжка дыхаючы, і пот буйнымі кроплямі каціўся з расчырванелага твару і падаў на зямлю, нібы дождж.

А юны грэк, лёгкі і гнуткі,

спрытна кружыўся вакол непаваротлівага бебрыка і раптам, імкліва напаўшы на яго, ударыў у скроню — раз і другі — з такою сілаю, што рассек яму чэрап.

Амік захістаўся, упаў на калені; кроў лінула ў яго з рота.

Узняўшы шчыты, гучна віталі пераможцу арганаўты.

Бебрыкі ж, як толькі ўбачылі, што цар іх забіты, кінуліся да Палідэўка з дубінамі. На выручку брату паспяшаўся з мячом Кастар і велікан Анкей са сваёй цяжкай сякерай. Давялося арганаўтам уступіць у нечаканы бой. Мячы скрыжаваліся з дубінамі. Бітва была нядоўгая. Бебрыкі ў жаху кінуліся наўцёкі; арганаўты гналіся за імі і вучылі гасціннасці.

— Мы прыйшлі да вас з мірам. Мы не хацелі рабіць вам зла,— гаварыў Язон.— Нам нічога не трэба было ад вас, акрамя добрага слова і свежай вады на дарогу. Запомніце ж цяпер нашу запаведзь: паважайце гасцей і чужаземцаў. Па нашых слядах прыплывуць іншыя — сустракайце іх як сяброў, памагайце тым, хто смела плыве ўперад па нязведаных морах, хто пракладае дарогу для ўсіх!

Язон загадаў зняць з жэрдак

мёртвыя галовы чужаземцаў, забітых Амікам, і пахаваць іх.

Перапалоханыя бебрыкі прынеслі арганаўтам багатыя дарункі і наладзілі баль. Героі перавязалі свае раны, забылі пра нядаўнюю бойку і весела балявалі на беразе перад паселішчам бебрыкаў.

Пераможна гучала залатая кіфара, спяваў Арфей, і людзі ў звярыных шкурах са здзіўленнем слухалі песні далёкай краіны.

## *Арганаўты ў Салмідэсе. Голуб Фінэя*

Усё далей і далей на ўсход плыў «Арго». Ужо шмат дзён былі арганаўты ў дарозе. Яны мінулі другое мора і хутка павінны былі ўбачыць трэцяе — апошняе на іх шляху, самае шырокае, бурнае і невядомае мора. Нават спрактыкаваны марак Тыфіс нічога не ведаў пра яго. Арганаўты доўга шукалі праходу з Прапантыды ў гэтае новае мора і, перш чым рушыць у апошні пераход, вырашылі адпачыць і спыніліся паблізу фракійскага горада Салмідэса.

Незвычайная цішыня сустрэла іх на беразе. Гавань была пустая і закінутая, гарадскія вуліцы бяз-

людныя, дамы зачынены наглуха.

Арганаўты прайшлі па бязлюдным горадзе і наблізіліся да царскага дома. Страшэннае запусценне панавала тут. Усе расліны ў царскім садзе загінулі. Куча агіднага бруду ляжала перад домам; сонца паліла яго, і нясцерпны смурод стаяў у паветры. На расчыненых варотах сядзелі дзве вялізныя худыя птушкі і, схаваўшы галовы пад крылы, спалі.

Са здзіўленнем глядзелі на ўсё гэта арганаўты і хацелі былі ўжо як мага хутчэй прайсці міма, як раптам пачулі чыйсьці слабы голас. Яны адгукнуліся. З дома выйшаў, хістаючыся, стары і рушыў да іх, працягнуўшы ўперад дрыжачыя рукі і асцярожна ступаючы, нібы сляпы. Ён і сапраўды быў сляпы і такі знясілены і худы, што страшна было глядзець на яго. Ён ледзь дайшоў да прышэльцаў, аслабеў і ўпаў перад імі на зямлю. Арганаўты паднялі яго, прывялі да ганка, пасадзілі і абступілі, чакаючы, што ён скажа.

Аддыхаўшыся, стары загаварыў ціхім і сумным голасам:

— Я пазнаў вас, героі Элады! Сэрца падказала мне, што вы — тыя, што адважыліся плыць па за-

латое руно цераз тры моры ў далёкую Калхіду. Арганаўты, таварышы і спадарожнікі Язона, гэта вы! Даўно ўжо я чакаю вас. Мне прадказана, што вы прыйдзеце і выратуеце мяне. Слухайце! Калісьці быў я царом у Салмідэсе. Маё імя Фінэй...

Пачуўшы гэтае імя, з крыкам кінуліся да старога Барэады, два крылатыя браты, сыны бога вятроў, і спыніліся, баючыся паверыць сваім вачам: гэта быў муж іх любімай сястры, фракійскі цар Фінэй.

— Так, я не чужы вам,— сказаў стары,— я быў жанаты на красуні дачцэ Барэя. Два мілыя сыны ў мяне былі, быў я багаты і шчаслівы. Я ўмеў прадказваць будучае, многія таямніцы былі мне адкрыты, але я не меў права гаварыць пра іх. А я быў добры і мяккасардэчны і пачаў гаварыць людзям пра іх лёс. Багі загневаліся на мяне: я аслеп. Сям'я мая распалася, сыны сышлі ад мяне. Людзі пакінулі мяне аднаго, таму што багі паслалі сюды страшыдлаў, якія пільнуюць мяне і не дазваляюць нікому памагчы мне. Голад мучыць мяне, я паміраю ад знясілення... Выратуйце мяне, Барэады!

Арганаўтам зрабілася шкада ста-

рога, яны хуценька сабралі тое, што ў іх было з сабою — хлеб, кавалак сыру і крыху садавіны,— і палажылі старому на калені.

— Бяры і еш,— сказаў Язон.— Падсілкуйся крыху, ды пойдзем з намі на «Арго», там мы накормім цябе ўдосталь.

Раптам пачуўся хрыплы і працяглы крык і лопат крылаў: птушкі на варотах прачнуліся і ўзнялі галовы. Арганаўты ўбачылі: птушкі мелі жаночыя галовы, на доўгіх голых шыях, брыдкія, кашчавыя старыя і страшныя твары. Ганарыста і прагна пазіралі яны на Фінэя і нецярпліва пераступалі лапамі з доўгімі кручкаватымі пальцамі.

Раптам яны ўзляцелі і з крыкам пачалі кружыцца над домам.

Стары спалохаўся і ўпусціў з рук ежу.

— Гэта Га́рпіі. Хутка яны прыляцяць,— прамармытаў ён.— Вось яны!

Як гнеў багоў, зляцелі няўмольныя Гарпіі на няшчаснага Фінэя, кіпцюрамі раздзіралі яму рукі і вопратку. Яны выхапілі ў яго хлеб і садавіну, у адно імгненне зжэрлі ўсё і паляцелі, апырскаўшы беднага старога смярдзючай гразёю.

Крылатыя сыны Барэя выхапілі свае мячы і паляцелі за імі. Гарпіі з крыкам памчаліся на захад, за мора. Барэады пагналіся за імі і неўзабаве зніклі ў марскім тумане. Тады з неба цераз усё мора перакінулася сяміколерная дуга, на зямлю сышла вястунка багоў багіня Ірыда і сказала Фінэю, што час яго пакарання скончыўся, багі даравалі яму і злосныя Гарпіі ніколі больш не прыляцяць да яго дома.

Убачыўшы, што Гарпіі паляцелі далёка за мора, салмідэскія жыхары пачалі выходзіць з дамоў. Хуценька вычысцілі яны двор і дом, памылі самога Фінэя і апранулі яго ў чыстае адзенне. На шпаркіх крылах сваіх вярнуліся назад Барэады і з радасцю абнялі Фінэя. Арганаўты прынеслі з карабля тлустую авечку, якую падарылі ім бебрыкі, згатавалі смачны абед, пакармілі Фінэя, елі самі і частавалі ўсіх, хто быў галодны ў Салмідэсе. А калі ўсе наеліся, паселі каля вогнішча, пілі віно, гаварылі пра тое, як ім далей плыць, пра невядомае мора, і пыталіся ў Фінэя, што чакае іх наперадзе. Удзячны Фінэй так адказаў сваім выратавальнікам:

— Я не магу сказаць вам, што з вамі будзе,— багі зноў загневаюцца на мяне. Але я магу даць вам параду. Калі вы пакінеце салмідэскую гавань і ўвойдзеце ў праліў, які злучае Прапантыду з другім морам, вы ўбачыце ў канцы праліва дзве скалы. Гэта Сімплягады. Яны не стаяць на адным месцы — увесь час то збліжаюцца, стукаючыся адна аб адну, то разыходзяцца. Ніхто з людзей смяротных яшчэ не праходзіў паміж Сімплягадамі, ні адзін карабель не праплываў паміж імі. Але вам нельга абмінуць іх: яны стаяць на вашым шляху. Зрабіце так. Вазьміце з сабою голуба і, як наблізіцеся да Сімплягадаў, пусціце наперад птушку. Калі яна паспее праляцець паміж скалаў, смела плывіце, толькі спяшайцеся, хутчэй вяслуйце — усё залежыць ад сілы і хуткасці вашых рук. Калі ж скалы раздушаць голуба, адразу ж вяртайцеся назад — значыць, няма вам далей дарогі.

Пачуўшы гэта, салмідэскія хлапчукі пабеглі, злавілі маладога голуба і прынеслі сляпому цару.

Фінэй абмацаў, ці дужыя крылы ў птушкі, і аддаў голуба Язону.

Назаўтра раніцай арганаўты раз-

віталіся з Фінэем, селі на карабель і паплылі туды, дзе чакала іх удача або пагібель.

## *Паміж рухомымі скаламі*

Арганаўты павольна плылі па вузкім, усыпаным падводнымі камянямі праліве, глядзелі ўперад і маўчалі, таму што ў час небяспекі дужы не хоча паказваць перад іншымі сваю трывогу і ў сабе самім шукае падтрымкі.

Праліў пашыраўся ў канцы; ужо віднеліся вялізныя сінія скалы, якія закрывалі выхад у мора, і чуваць было, як біліся аб іх хвалі.

— Сімплягады! — сказаў урачыста Тыфіс.

І усе ўбачылі, як скалы раптам рассунуліся, разышліся, пакідаючы праход, нібы запрашалі «Арго» прайсці паміж імі. Хвалі з шумам рынуліся ў праход, несучы карабель уперад. Але тут скалы зноў сышліся, з грукатам стукнуўшыся адна аб адну. Мора вакол зашыпела, і белая пена ўскіпела на грабянях хваль.

Хвалі неслі «Арго» проста на скалы. На носе карабля стаяў Язон і трымаў у руках голуба. Як толькі скалы разышліся зноў, Язон выпу-

сціў птушку ў праход; яна паляцела паміж скалаў, якія хутка сыходзіліся зноў, пагражаючы раздушыць маленькі белы камячок. З грукатам сутыкнуліся гмахі, і мора адкінула карабель назад. Ён закружыўся, нібы трэска. Зноў рассунуліся скалы, і арганаўты з радасцю ўбачылі, што белы голуб праляцеў Сімплягады. Яны гучна закрычалі.

Тыфіс загадаў веславаць з усяе сілы і як мага хутчэй.

Мора раптам уздыбілася пад караблём і кінула яго ў паток паміж скаламі. Насустрач «Арго» ішла другая хваля, яшчэ вышэйшая, і вёслы арганаўтаў сагнуліся ў дугу.

Тады Тыфіс загадаў: «Кіньце веславаць!» — і вёслы, узляцеўшы ўгору, спыніліся. Грозны вал пакаціўся пад кіль карабля і пачаў кідаць і круціць «Арго», а скалы ўжо сыходзіліся.

— О, царыца Алімпа, выратуй нас! — пачалі маліць арганаўты.

І вось над бурлівым морам з'явілася сама багіня Гера. Левай рукой яна спыніла скалу, якая пагражала раздушыць карабель, а праваю моцна штурхнула «Арго» ўперад, і ён нібы страла праляцеў паміж скалаў.

Быццам злуючыся, спыніліся грозныя скалы і ўжо не сышліся больш. Так і засталіся яны стаяць каля ўвахода ў мора, і з таго часу караблі свабодна праплываюць паміж імі.

## *Канец дарогі*

Арганаўты апынуліся на марскім прасторы і шумна радаваліся, што пазбеглі пагібелі.

— Цяпер нам нічога не страшна! — сказаў весела рулявы.— Мы мінулі Сімплягады, і гэта добрая прыкмета: мінуем і ўсе перашкоды, якія яшчэ нас чакаюць.

Але Язон меў збянтэжаны і сумны выгляд.

— Гэта мая віна,— гаварыў ён,— я завабіў вас у чужое страшнае мора, я прымусіў гэтак цяжка вас працаваць, праз мяне вы рызыкуеце сваім жыццём... Навошта я паклікаў вас з сабою ў падарожжа, якое пагражае небяспекаю? Сядзелі б вы спакойна дома...

Ды гэта былі толькі хітрыкі: ён хацеў упэўніцца, ці не аслабелі духам арганаўты пасля суровага выпрабавання каля рухомых скалаў. Героі адказалі смехам на хітрыя словы Язона.

— Тады паплывём далей! — усклікнуў ён весела.— У Калхіду, у Калхіду! Здабудзем залатое руно!

І «Арго» паплыў далей.

Аддаліўшыся ад Сімплягадаў, арганаўты павярнулі направа і паплылі ўздоўж берагоў, асцярожна абмінаючы скалістыя мысы і вялікія водмелі, якіх сустракалася цяпер шмат на іх шляху. Яны праплывалі міма земляў, населеных рознымі народамі, невядомымі ім раней, бачылі ваяўнічых жанчын-амазонак, якія праносіліся на дзікіх конях, бачылі высокія вежы, пабудаваныя на гарах, зарослых лесам, мінулі краіну халібаў, якія здабывалі з зямлі жалеза.

Аднойчы ўдзень «Арго» наблізіўся да невядомага вострава. Вялікая чырвоная птушка сядзела на беразе і, убачыўшы «Арго», паляцела яму насустрач.

Падарожнікі са здзіўленнем пазіралі на яе. Раптам яна скінула пяро. Яно ўпала на карабель і ўпілося ў плячо аднаго з весляроў. Палілася кроў, і ад болю вясляр выпусціў з рук вясло. Выцягнулі пяро з раны і ўбачылі, што гэта была вострая медная страла.

Прыляцела другая птушка.

Адзін з арганаўтаў схапіў свой лук і стрэліў у яе. Птушка ўпала ў мора. Пер'е яе звінела і зіхацела на сонцы.

Тады адзін са старэйшых арганаўтаў сказаў:

— Гэта Сцімфаліды — медныя птушкі бога вайны. Іх пер'е раніць, як стрэлы. Трэба надзець шлемы, прыкрыцца шчытамі, каб яны не нарабілі нам шкоды.

Арганаўты надзелі шлемы, прыкрыліся шчытамі і, падплываючы да берага, моцна крычалі і грукалі мячамі ў шчыты. Сцімфаліды ўзляцелі над востравам, асыпаючы «Арго» медным пер'ем. Пёры стукаліся аб шчыты, і ў паветры стаяў такі шум і звон, што напалоханыя птушкі ўзняліся і паляцелі прэч.

Арганаўты прычалілі да берага і знайшлі тут чатырох юнакоў, абарваных і галодных. Гэта былі сыны Фрыкса. Пасля смерці іх бацькі цар Ээт выгнаў іх з Калхіды і адправіў на караблі ў Грэцыю. Але бура разбіла карабель, і мора выкінула іх на гэты пустэльны востраў, дзе іх чакала галодная смерць.

Арганаўты ўзрадаваліся сустрэчы.

— Вы з Калхіды плылі ў Грэцыю, а мы з Грэцыі плывём у Кал-

хіду па залатое руно, якое ваш бацька пакінуў у Ээта,— сказаў юнакам Язон і прапанаваў ім: — Вяртайцеся з намі ў Калхіду, памажыце нам здабыць залатое руно, і мы адвязём вас потым у Архамен, на радзіму Фрыкса.

Але юнакі спалохана круцілі галовамі. Старэйшы сказаў:

— Вы задумалі цяжкую справу. Цар Калхіды жорсткі і злосны і не аддасць вам залатое руно. І нават калі б ён згадзіўся аддаць вам яго, вы не зможаце перамагчы дракона, які пільнуе руно ў гаі Арэса. Гэты дракон ніколі не спіць, удзень і ўночы расплюшчаны яго вочы. Ён здалёку бачыць усіх, хто хоча падысці да свяшчэннага дуба, на якім вісіць залатое руно. І гора таму, хто падыдзе занадта блізка!

Арганаўтаў збянтэжылі гэтыя словы, але храбры Пялей сказаў:

— Не палохай нас, дзіця! Мы ведаем, што такое небяспека. Ёсць сіла ў нашых руках, нашы мячы вострыя і шчыты надзейныя. Мы воіны, і нам памагаюць багі Алімпа. Ужо зусім мала засталося нам плыць да Калхіды, а там няхай будзе што будзе!

На світанні паднялі ветразі, і сыны Фрыкса сталі на карме і

памагалі рулявому кіраваць карабель да берагоў Калхіды. Плылі цэлы дзень — апошні дзень паходу — і да ночы дайшлі да вусця вялікай ракі. Гэта быў Фазіс, паўнаводная рака Калхіды.

Арганаўты згарнулі ветразі, на вёслах увайшлі ў раку і падняліся ўверх па цячэнні. Леваруч яны ўбачылі снежныя вяршыні Каўказа і на беразе горад Ээта, справа распасціралася пустое поле Арэса і цямнеў гай, дзе нядрэмны дракон пільнаваў залатое руно.

Усе арганаўты сабраліся на палубе, і Язон стаў каля пазалочанай галавы багіні — ахавальніцы «Арго», наліў поўную чашу віна і выліў у ваду — у гонар маці-Зямлі, да якой яны набліжаліся, у гонар багоў, якія памагаюць падарожнікам, і ў памяць герояў, што загінулі ў дарозе. Потым скіравалі карабель у трыснёг, што рос каля берагоў, і, схаваўшыся ў высокай траве, паснулі амаль там, куды дагэтуль плылі.

## *Язон у цара Калхіды*

На досвітку арганаўты прачнуліся і пачалі раіцца, што ім рабіць.

Асцярожны Язон парашыў: усім

заставацца на караблі і чакаць, а самому з сынамі Фрыкса і яшчэ двума арганаўтамі ісці ў палац Ээта — разведаць: ці не згодзіцца цар добраахвотна аддаць руно.

І вось Язон разам з сынамі Фрыкса, з Тэламо́нам і Аўгія́сам выправіўся да цара Калхіды Ээта. Па дарозе ў горад яны трапілі ў вялікі сад, дзе на кожным дрэве вісеў на ланцугу мярцвяк, укручаны ў шкуру вала. Яны жахнуліся. Але гэта быў звычайны калхідскі могільнік — так хавалі колхі сваіх мужчын, жанчын жа яны закопвалі ў зямлю.

Калі арганаўты ўвайшлі ў горад, густы туман апусціўся на зямлю, так што за тры крокі нельга было распазнаць сустрэчнага. Гэта заступніца Гера схавала ад вачэй колхаў прышэльцаў, каб яны без перашкод дайшлі да палаца Ээта. Тут туман развеяўся, і яны ўбачылі царскі палац з высокімі вежамі, з шырокімі варотамі, якія вялі ў вялікі чатырохкутны двор. У кутках яго білі чатыры фантаны. З аднаго струменем лілося малако, з другога — віно, з трэцяга — духмяны кветачны алей, з чацвёртага — сцюдзёная празрыстая вада. Пасярэдзіне быў вінаграднік. Двор ак-

ружалі чатыры палацы. У самым вялікім і прыгожым жыў Ээт са сваёй жонкай, а ў астатніх трох — яго сын Апсірт і дочкі Халкіопа і Медэя.

Зачараваныя гэтай прыгажосцю і багаццем, Язон і яго таварышы спыніліся каля аднаго з палацаў і моўчкі азіраліся па баках. У гэты час адчыніліся высокія дзверы, і ў двор выйшла дзяўчына ў доўгім чорным адзенні. Гэта была Медэя, малодшая дачка Ээта. Убачыўшы незнаёмцаў каля сваіх дзвярэй, яна спалохалася і закрычала. На крык выбегла з палаца яе сястра Халкіопа, жонка забітага Фрыкса. Сыны Фрыкса кінуліся да маці, і яна з плачам абняла іх. Яны расказалі Халкіопе, чаму вярнуліся ў Калхіду, і паказалі ёй на сваіх спадарожнікаў. Язон прывітаў Халкіопу і папрасіў, каб яна памагла ім. Медэя стаяла збоку і не ўдзельнічала ў размове, але яе чорныя вочы не адрываліся ад твару Язона, і тайная пяшчота да гэтага чужога чалавека раптам ахапіла яе з незразумелаю сілай.

Між тым цар, даведаўшыся, што прыехалі ўнукі і з імі нейкія чужаземцы, прыслаў слугу паклікаць усіх да сябе.

Са страхам увайшлі арганаўты ў вялікі палац, не ведаючы, што іх чакае.

У вялікай прыгожай зале за сталом на пазалочаным крэсле, пакрытым звярынай шкурай, сядзеў цар Калхіды і абедаў. Ён сустрэў арганаўтаў нявэтліва, ледзь кіўнуў галавой і сказаў:

— Будзьце гасцямі, калі прыйшлі. — І, нахмурыўшыся, спытаў у старэйшага сына Фрыкса: — Што прымусіла вас вярнуцца?

Юнак расказаў пра караблекрушэнне і пра тое, як яго і братоў выратавалі арганаўты, якія плылі ў Калхіду.

— Чаго? — было кароткае пытанне.

Сын Фрыкса збянтэжыўся, паказаў на Язона і назваў яго імя:

— Цар Іолка загадаў яму раздабыць залатое руно, якое пакінуў у цябе мой бацька.

— Выдумкі! — грымнуў у адказ Ээт.— Я вас бачу наскрозь, дзеці элінскага беглага царэвіча! Вы знайшлі сабе абаронцу сярод сваіх родзічаў і вярнуліся, каб адабраць у мяне царства! Вы прывялі сюды гэтых воінаў і пасадзілі за мой стол, як гасцей, каб я не мог забіць іх! Прэч адсюль, пакуль вы жывыя,

пакуль я не загадаў схапіць вас усіх да аднаго!

Запальчывы Тэламон усхапіўся са свайго месца і закрычаў:

— Не смей зневажаць нас, варвар![1]

Але Язон спыніў яго дужаю рукою, выйшаў з-за стала і сказаў цару спакойна:

— Мы праплылі тры моры, мінулі шмат краін. Нас прасілі застацца жыць на Лемнасе; мы перамаглі бебрыкаў; мы знішчылі веліканаў з Мядзведжай гары. Калі б нам патрэбна была зямля, навошта нам было плыць так далёка? Не хвалюйся, нам не патрэбна тваё царства. Мы прыплылі сюды па залатое руно. Але мы не жабракі і не разбойнікі. Мы ўмеем трымаць зброю ў руках і гатовы паслужыць табе за руно. Калі ў цябе ёсць ворагі, пашлі нас біцца з імі. Клянуся, мы зможам заваяваць залатое руно.

Цар задумліва слухаў Язона. Ён прыкідваў: схапіць Язона сілай зараз жа ці загубіць хітрасцю?

Потым сказаў:

— Сваіх ворагаў я забіваю сам,

[1] Варвар.— Варварамі старажытныя грэкі і рымляне называлі ўсіх чужаземцаў.

мне не патрэбна дапамога чужаземцаў. Я зусім не даражу залатым руном і мог бы падарыць яго табе, ды баюся гэтым падарункам варвара пакрыўдзіць смелых падарожнікаў. Я дам табе магчымасць зарабіць руно. У мяне ёсць два прыгожыя і магутныя валы — мне падарыў іх божы майстар Гефест, і ёсць пустое поле, дзе нічога не расце. Запражы маіх валоў, узары гэтае поле, засей яго, і, калі поле зарунее, ты атрымаеш тое, што табе належыць.

Язон здзівіўся такому простаму даручэнню і падумаў, ці няма тут якога каварства.

Ээт усміхнуўся:

— Бачу я, ты лічыш гэту работу простай і ганебнай для сябе. Дарэмна! Гэтая работа вельмі цяжкая, не кожны выканае яе. Я не ведаю, герой, ці хопіць у цябе сілы справіцца з ёю.

І ён так паглядзеў на Язона, што арганаўт задрыжаў і зразумеў, што работа не такая простая, як яму здалося спачатку.

— Ідзі цяпер на свой карабель,— гаварыў далей Ээт,— раскажы таварышам, які міласцівы да вас цар Калхіды. Заўтра раніцай прыходзь на той бераг, на поле Арэса. Валы

пасуцца там каля ракі. Я прыеду і прывязу табе насенне.

Язон развітаўся з царом, і арганаўты пайшлі. Калі яны праходзілі па двары, Язона спыніла старая — служанка Медэі:

— Мая гаспадыня просіць цябе прыйсці зараз у храм Гекаты. Яна будзе чакаць цябе там. Спяшайся, бо жыццё тваё і тваіх таварышаў у небяспецы.

Язон загадаў Тэламону і Аўгіясу вярнуцца на карабель і чакаць яго там, а сам узяў за праваднікa сына Фрыкса і падаўся ў храм Гекаты.

## *Чараўніца Медэя*

Храм Гекаты, багіні зданяў і жахаў, знаходзіўся за горадам, у гаі на пагорку. Там стаяла статуя, якая мела тры твары — у знак таго, што багіні падуладны неба, зямля і падземнае царства.

У гаі бадзяліся сабакі, прысвечаныя Гекаце, жаласна бляялі ў траве чорныя ягняты, падрыхтаваныя для ахвяраў багіні.

Калі Язон, пакінуўшы свайго юнага спадарожніка, зайшоў у гай Гекаты, Медэя выйшла яму насустрач і сказала:

— Я дачкаЭэта, Медэя. Я служу

Гекаце і ведаю шмат такога, чаго не ведаюць людзі. Я магу ажывіць забітага і зрабіць старога маладым. Магу прынесці ў дом няшчасце, наслаць страх і тугу на чалавека, пазбавіць яго спакою. Сам цар, мой бацька, баіцца мяне. Але табе я не жадаю зла. Слухай! Цар задаў табе страшную задачу. Валы, на якіх ты павінен узараць поле, насенне для пасеву і само поле — не простыя. У валоў гэтых медныя ногі, агонь вылятае з пашчы — гэта валы бога Сонца. Шалёныя яны, і звычайнаму чалавеку не справіцца з імі. Замест насення цар дасць табе зубы дракона. Калі ты пасееш іх на полі Арэса, там выростуць воіны без ліку і заб'юць вас усіх.

Так гаварыла Медэя і пазірала на Язона з жалем.

Язон апусціў галаву:

— Ну што ж... Адступаць няма куды. Мяне чакае пагібель. Але людзі не назавуць мяне баязліўцам.

Медэя сказала:

— Я не хачу тваёй пагібелі. Не ведаю чаму — мне шкада цябе, чужаземец! Мне хочацца выратаваць цябе!

— Тады памажы нам, калі ты можаш! — усклікнуў Язон. — Пама-

жы здабыць залатое руно, і я праслаўлю цябе па ўсёй Эладзе. За трыма марамі, далёка адсюль, мы будзем з удзячнасцю паўтараць тваё імя.

Тады чараўніца дала яму ракавіну з цёмнай маззю і сказала:

— Недалёка адсюль, у гарах, да скалы над морам прыкаваны тытан Праметэй. Ён выкраў у багоў іскру боскага агню і падарыў людзям. За гэта багі жорстка пакаралі яго. Кожны дзень прылятае арол і дзяўбе яго печань. Кроў капае з раны на скалу і на пясок каля мора. На пяску, палітым крывёю Праметэя, вырастае дзікая і страшная кветка. З чорнага кораня гэтай кветкі я здабыла чарадзейны сок і прыгатавала гэтую мазь. Вазьмі яе. Апоўначы апраніся ў чорнае, ідзі да ракі, пакупайся ў ціхай вадзе, а раніцай натры гэтай маззю ўсё сваё цела, і яно зробіцца дужым і непаражальным, і агонь з пашчаў валоў не пашкодзіць табе. Змаж таксама ўсю сваю зброю — меч, і кап'ё, і шчыт. Гэта мазь дае сілу на адзін толькі дзень. Але ў цябе хопіць часу, каб выканаць усё, што патрабуе цар. Калі з зубоў дракона, якія ты пасееш на полі, вырастуць узброеныя людзі, шпур-

ні адразу ж у іх каменем. Яны не ўбачаць, хто гэта зрабіў, падумаюць адзін на аднаго, пачнуць біцца між сабою — і ты зможаш адзін пазабіваць іх усіх. Цяпер ідзі, жадаю табе ўдачы. Але калі ты возьмеш залатое руно, паедзеш адсюль і будзеш шчасліва жыць на сваёй радзіме, не забывай мяне. Абяцай, што ты мяне не забудзеш!

Яна глядзела на Язона з любоўю і здалася яму ў гэту хвіліну такой добрай і прыгожай, што ён пачаў прасіць яе:

— Паедзем са мною. Я вазьму цябе на «Арго», звязу ад твайго ліхога бацькі, і ты будзеш маёй жонкаю і царыцай у Іолку.

Медэя маўчала і круціла галавою, хоць словы Язона і радавалі яе.

Доўга стаялі яны разам у гаі Гекаты і пазіралі адно на аднаго.

Сонца пачало хіліцца да захаду, і Язону пара было вяртацца на карабель.

— Заўтра, калі цар аддасць мне залатое руно, я папрашу яго адпусціць цябе са мною,— сказаў Язон.

І яны рассталіся.

## *На полі Арэса*

Раніцай цар Калхіды надзеў свае даспехі, што падарыў яму бог вайны Арэс, сеў на калясніцу і паехаў на Арэсава поле. Яго суправаджаў натоўп колхаў — усім хацелася паглядзець, як валы бога Сонца разарвуць чужаземца.

А Язон, як навучыла яго Медэя, нацёр цудоўнай маззю сваё цела і зброю і адчуў у сабе вялікую сілу. Ён быў увесь нібы выкаваны з жалеза, і ні кап'ё, ні меч не маглі прычыніць яму шкоды.

Арганаўты селі на карабель і паплылі да поля Арэса, дзе іх ужо чакаўЭэт.

Язон узяў у цара зубы дракона і адзін выйшаў у поле. На краі поля ляжалі ярмо і плуг. Тут жа быў уваход у падземны хлеў, дзе стаялі валы. Раптоўна, нібы адчуўшы, што герой ідзе да іх, яны з рыкам выскачылі са стойла і рынуліся проста на Язона. Ён прыкрыўся шчытом і стаяў спакойна, упэўнены ў сваёй цудоўнай сіле. Валы стукнулі рагамі ў шчыт і адскочылі прэч. Яны зараўлі, выпусцілі сноп агню, хацелі спапяліць героя, але полымя, даляцеўшы да яго, раздвоілася, абмінула Язона і сы-

шлося за яго галавой. Жывы і здаровы ў кальцы агню, ён смела схапіў рукою за рог аднаго вала, потым другога і надзеў на іх ярмо. З дапамогаю двух арганаўтаў Язон запрог валоў у плуг і пагнаў па полі. Арганаўты радасна закрычалі, убачыўшы гэта. Шум узняўся сярод колхаў. Сам цар Ээт здзівіўся незвычайнай сіле героя.

Шпарка імчаліся па полі валы, рэжучы плугам глыбокія барозны, і Язон кідаў на ўзаранную зямлю зубы дракона.

Шмат разоў прабеглі валы з канца ў канец Арэсава поля, і вось усё яно было ўзарана і засеяна. Скончыўшы работу, Язон выпраг валоў і кап'ём загнаў іх назад у стойла. Потым чакаючы, пакуль з зубоў дракона вырастуць воіны, ён пайшоў на бераг ракі, зачэрпнуў шлемам вады і напіўся. І адчуў, што сілы ў ім ані не паменшала. Ён глядзеў на поле і чакаў.

Нібы першыя парасткі, паказаліся з зямлі канцы вострых коп'яў, потым галовы ў шлемах, вось заблішчалі шчыты, зазвінелі, раскідваючы зямлю, мячы — і ў адно імгненне ўсё поле запоўнілася воінамі.

Язон памятаў хітрую параду Ме-

дэі. Ён падняў з зямлі вялізны камень, які чатыры дужыя чалавекі ледзь маглі б скрануць з месца, размахнуўся, шпурнуў яго ў сярэдзіну і забіў адразу некалькі воінаў. Воіны не зразумелі, адкуль прыйшла бяда, выцягнулі мячы і пачалі забіваць адзін аднаго. Тады Язон смела напаў на іх, сек і знішчаў усіх, хто яму трапляўся. Хутка ўсё поле пакрылася трупамі, і чорная кроў запоўніла да краёў баразны, якія засталіся пасля плуга.

З жахам пазіралі колхі, як расправўляўся Язон з воінамі, што выраслі з зубоў дракона. Цар Ээт ад гневу не мог вымавіць ні слова. Раз'юшаны, хваснуў ён па конях і памчаўся прэч з Арэсава поля.

— Я скончыў маю работу. Заўтра цар павінен аддаць мне залатое руно,— сказаў Язон.

Надышоў вечар. Цудоўная сіла пакідала Язона. Арганаўты акружылі яго і павялі на карабель адпачыць.

## *Выкраданне залатога руна*

Вярнуўшыся з Арэсава поля дадому, жыхары Калхіды шмат гаварылі пра страшную сілу чужаземцаў, што прыплылі на караблі

«Арго». У горадзе было неспакойна. Увечары ў палац Ээта прыйшлі знакамітыя колхі і, зачыніўшыся з царом, пачалі раіцца, як пагубіць небяспечных гасцей.

Медэя адчувала, што цар ведае, што яна памагла Язону, і са страхам чакала бацькоўскага гневу. Яна ведала, які жорсткі і няўмольны, які каварны сын Сонца, і баялася за сябе і за героя, якога пакахала. Апоўначы яна пачула за акном бразгат зброі і галасы колхаў, якія сабраліся каля палаца. Яна даведалася, што цар загадаў раніцай акружыць грэчаскі карабель і спаліць яго разам з арганаўтамі.

Тады яна вырашыла ўцячы да Язона. Яна ўзяла з сабою сонныя зёлкі і, басанож, ціхенька пракралася з палаца і патаемнымі сцяжынкамі, якімі хадзіла ўночы збіраць чарадзейныя травы, падалася да ракі. Медэя выйшла на бераг насупраць таго месца, дзе стаяў «Арго» і пачала клікаць малодшага сына сваёй сястры, які начаваў у арганаўтаў.

Язон пазнаў голас Медэі і адгукнуўся. Весляры, што былі ў той час на вёслах, пачалі веславаць, карабель хутка пераплыў раку. Язон

з сынамі Фрыкса кінуўся да Медэі.

— Усё выкрылася! — сказала Медэя.— Бацька не даруе мне... Я павінна ўцячы з вамі... Спяшайцеся, пагібель пагражае вам! Хадзем, Язон, я здабуду табе залатое руно, і хутчэй прэч адсюль, інакш мы ўсе загінем! Я выратую вас і сябе, але прысягні, Язон, што ты не пакінеш мяне ніколі, не пакінеш мяне адну ў чужой краіне!

Язон узяў яе за руку і сказаў:

— Прысягаю, што калі мне суджана жывым вярнуцца на радзіму, ты будзеш маёй жонкай і я ніколі не пакіну цябе!

Медэя загадала адразу ж плыць да Арэсава гаю, дзе захоўвалася руно. У начной цемры цячэнне ракі хутка і без шуму данесла карабель да запаветнай мясціны. Медэя і Язон адны сышлі з карабля і рушылі ў лес. Ноч была чорная, і яны ішлі, трымаючыся за рукі, каб не згубіцца ў цемры. Раптам перад імі загарэліся два чырвоныя агні.

— Гэта дракон,— шапнула Медэя.

І тут яны ўбачылі лёгенькае залацістае ззянне — ад руна, якое вісела на дубе.

Як толькі яны падышлі бліжэй, дракон звесіўся з дрэва і засіпеў,

полымя вырвалася з яго разяўленай пашчы. Але Медэя працягнула да яго рукі і ціхім голасам пачала ўсыпляць. Яна клікала на дапамогу бога сну Гіпноса, які дужэйшы за ўсіх на зямлі, яна заклінала ўсімі таемнымі сіламі: «Засні! Засні!» — і, падышоўшы зусім блізенька, пырснула ў вочы дракону сонным зеллем. Пагасла адно вока, пагасла другое, апусціліся страшныя павекі, з трэскам закрылася грозная пашча, лапы разняліся — дракон зваліўся з дуба і, бяссільны, лёг каля ног Медэі.

— Спяшайся! — сказала яна Язону.— Хутчэй здымай руно з дрэва, пакуль ён не прачнуўся.

Язон хуценька зняў з дуба залатое руно, накінуў яго на плечы замест плашча, і яны адразу ж пакінулі гай Арэса.

Арганаўты з карабля ўбачылі залатое святло руна на плячах Язона. Радаснымі крыкамі віталі яны жаданую здабычу, дзеля якой пакінулі свой дом і радзіму і зведалі столькі небяспек і нягод. Ды не было калі весяліцца. Трэба было да раніцы дабрацца да мора і пакінуць Калхіду.

Язон загарнуў дарагое руно ў свой плашч, пасадзіў Медэю на

карме карабля, дзе не было ветру, і сам перасек мячом канат, які трымаў «Арго» каля берага. Весляры-арганаўты селі за вёслы, астатнія са шчытамі і лукамі ў руках пасталі ўздоўж борта, гатовыя абараняць карабель ад пагоні. «Арго» імкліва паплыў уніз па цячэнні — да мора. Яшчэ не ўзышло сонца, а арганаўты былі ўжо ў адкрытым моры, далёка ад берагоў Калхіды.

Раніцай цару сказалі, што чужаземцы выкралі залатое руно і ўцяклі, забраўшы з сабою Медэю. Ээт страшэнна разгневаўся і паслаў вялікі атрад колхаў у пагоню за арганаўтамі. Цар загадаў абвясціць воінам, што ўсіх іх чакае смерць, калі яны не дагоняць уцекачоў і не вернуць руно і царскую дачку. Сына свайго Апсірта Ээт прызначыў начальнікам атрада.

Колхі вывелі свае судны ў мора і паплылі ўслед за «Арго».

## *Вяртанне «Арго»*

Залатое руно было здабыта, і арганаўты плылі дадому. Спадарожны вецер надзімаў ветразі, марская далячынь была чыстая, чароды дэльфінаў бесклапотна

плюхаліся вакол «Арго». Ды нявесела было на караблі. На карме залівалася слязьмі Медэя. Яна пазірала ў той бок, дзе засталіся яе дом і бацька. Заклапочана хмурыўся Язон, і арганаўты ні ўдзень, ні ўночы не выпускалі з рук зброі, чакалі пагоні.

Яны не захацелі вяртацца той самай дарогай, па якой прыплылі ў Калхіду. Сын Фрыкса, які пакінуў разам з імі Калхіду, расказаў ім, што чуў ад калхідскіх карабельшчыкаў, нібыта з таго боку мора, насупраць Калхіды, ёсць вялікая паўнаводная рака Істр. Яна бярэ свой пачатак далёка на поўначы, у краіне халоднага ветру, цячэ па шмат якіх землях і краінах і сустракаецца з другой ракой, якая ўпадае проста ў тое мора, што абмывае берагі Грэцыі.

— Плыць па рацэ карацей і лягчэй, чым вяртацца зноў праз тры моры,— парашылі арганаўты і паплылі ўздоўж берагоў Скіфіі да вусця Істра.

Але каля самага Істра яны наткнуліся на флот колхаў, які паслаў Ээт за імі ў пагоню і які апярэдзіў іх. Што рабіць? «Арго» адзін супраць многіх караблёў, купка герояў супраць цэлага войска!

Тады Язон кінуўся на хітрыкі. Ён распачаў з начальнікам колхаў Апсіртам перагаворы: ён гаварыў, што залатое руно павінна застацца ў арганаўтаў — ён жа выканаў усё, што загадаў яму цар Калхіды. Але Медэю Язон абяцаў аддаць колхам і запрашаў Апсірта прыйсці па сястру на бязлюдны востраў, у храм багіні Артэміды. Язон хацеў завабіць і ўзяць у палон Апсірта, каб пазбавіць колхаў іх камандзіра.

Апсірт быў малады і даверлівы. Ён паверыў Язону і ўночы адзін прыйшоў у храм на востраве, каб угаварыць сястру забраць у арганаўтаў руно і вярнуцца дадому. Але Медэя дала Язону меч і загадала забіць Апсірта. Цела брата яна кінула ў мора. У войску колхаў пачаўся пярэпалах, і, пакуль колхі шукалі ў моры свайго правадыра, «Арго» ўцёк ад ворагаў і заплыў далёка ўверх па Істру.

Арганаўты шчасліва праплылі Істр да таго месца, дзе ён зліваўся з другою ракой, і па гэтай другой рацэ выйшлі ў мора. Мора сустрэла іх страшэннай бураю. Быццам разгневаныя багі спусцілі з ланцугоў усе вятры, і яны сарвалі ветразі, сагнулі мачту і насілі «Арго»

па моры, і забаўляліся караблём, нібы дзеці цацкай. У роспачы кінулі арганаўты вёслы і чакалі, калі паглыне іх раз'юшанае мора.

Ды тут раптам пачуўся голас з кармы. Ён ішоў ад кавалка свяшчэннага дадонскага дуба, устаўленага ў карму «Арго». Голас гаварыў:

— Багі разгневаліся на Язона і Медэю за тое, што яны забілі Апсірта. Плывіце на востраў Эа. Там жыве сястра Ээта, чараўніца Кірка. Папрасіце яе, няхай яна даруе Медэі. Тады вы зможаце вярнуцца дадому.

Бура сціхла. Арганаўты паплылі шукаць чароўны востраў. Доўга блукалі яны па моры, пакуль знайшлі яго. Чараўніца Кірка выйшла сустракаць іх на бераг, акружаная статкам свіней — усё гэта былі людзі, якія трапілі на востраў і якіх яна ператварыла ў жывёлін. Кірка адразу пазнала Медэю па вачах: ва ўсіх дзяцей Сонца ў вачах было асаблівае святло.

Медэя так упрошвала цётку дараваць ёй і гаварыла пра сваё каханне да Язона, што Кірка даравала ёй і адпусціла арганаўтаў з мірам.

Але шмат яшчэ розных небяспек

давялося зазнаць арганаўтам, пакуль яны дабраліся да роднага краю.

У адкрытым моры карабель ганялі вецер і хвалі, але самае страшнае падпільноўвала маракоў у вузкіх пралівах.

Ім давялося праплыць паміж двума астравамі, на адным з якіх была вогнедышная гара. Дзве лютыя і прагныя пачвары пільнавалі гэты праход — Хары́бда і Сцы́ла.

Харыбда жыла ў марскіх глыбінях. Вада кіпела і віравала над ёю, і варта было жывой істоце наблізіцца, як з вады высоўвалася прагная пашча і хапала цэлыя караблі з ветразямі і мачтамі.

На адлегласці стрэлу з лука ад Харыбды ўзвышалася вастраверхая скала, гладка абчасаная морам. У ёй была пячора. У гэтай пячоры хавалася шасцігаловая Сцыла з дванаццаццю лапамі. Як толькі дэльфін, або рыбіна, або судна з плыўцамі падплывалі да скалы, Сцыла высоўвала з пячоры сваё страшнае тулава, і ўсе дванаццаць лап шпарка шнарылі навакол, лавілі ўсё жывое і запіхалі ў прагныя пашчы з трыма радамі вострых зубоў.

Арганаўтам трэба было пра-

плыць паміж Сцылай і Харыбдай, і яны, вядома, загінулі б, таму што ні смеласць, ні мужнасць, ні геройская сіла не маглі памагчы ім супраць гэтых страшыдлаў. Але зноў з'явілася іх заступніца Гера, кінула паміж Харыбдай і Сцылай свой залаты валасок, і па гэтай дарожцы, не адхіляючыся ні ўправа, ні ўлева, «Арго» пазбег небяспекі.

Аднойчы марскі вецер прынёс здалёку пах кветак, і арганаўты ўбачылі ў моры квітнеючы востраў Сірэн. Дзівосныя птушкі з жаночымі галовамі сядзелі на камянях, што тырчалі з вады каля берага, і спявалі чалавечымі галасамі. Яны клікалі стомленых маракоў адпачыць на квітнеючых лугах, абяцалі спакой і асалоду, вабілі ласкавымі словамі.

Мора вакол вострава здавалася таксама ласкавым і ціхім. Але ўвесь востраў быў акружаны вадмелямі і падводнымі скаламі. Сірэны спявалі так соладка і такая чароўная сіла была ў іх песнях, што карабельшчыкі забывалі пра ўсё на свеце, скіроўвалі свае судны да вострава, разбіваліся на падводных камянях і гінулі ў хвалях.

Апынуўшыся каля вострава Сірэн, арганаўты таксама заслуха-

ліся цудоўнымі спевамі і хацелі веславаць да берага. Самы малады з весляроў, зачараваны сірэнамі, кінуўся ў мора і загінуў на камянях. Тады Арфей узяў сваю кіфару, заспяваў гучным голасам і заглушыў спеў сірэн. Ён спяваў пра адважных маракоў, якія пераплываюць марскія прасторы і не хочуць ведаць ні ляноты, ні пяшчоты, спяваў пра родную зямлю, якая іх чакае. Арганаўты, слухаючы Арфея, апамяталіся і неўзабаве мінулі небяспечны востраў.

Каля вострава Схерыі, дзе арганаўты спыніліся, каб папоўніць запасы вады і ежы, іх карабель зноў акружылі судны колхаў, якія ў пошуках арганаўтаў блукалі па моры. Арганаўты папрасілі цара вострава абараніць іх. Хітры цар разважыў так: арганаўты павінны аддаць колхам іх царэўну Медэю, але яны не павінны аддаваць ім жонку Язона. Медэя стала жонкай Язона, і колхам давялося адступіцца. Але яны пабаяліся вяртацца ў Калхіду і пасяліліся на грэчаскіх астравах.

Адсвяткаваўшы вяселле Язона і Медэі, арганаўты паплылі далей. Доўгі час плаванне іх было спа-

койнае. Яны набліжаліся ўжо да берагоў Грэцыі, як раптам узнялася жудасная бура. Дзевяць дзён і дзевяць начэй насіў ураган іх карабель па моры і нарэшце выкінуў яго на далёкі бязлюдны бераг. «Арго» глыбока ўрэзаўся ў прыбярэжны пясок і нерухома застыў. Арганаўты сышлі на зямлю і агледзеліся. Перад імі распасціралася пустыня. Ні ракі, ні дрэў, ні людскога жылля — толькі пясок і неба. Арганаўты паспрабавалі ссунуць карабель у мора, каб пакінуць пустыню, ды не змаглі.

«Што ж нам рабіць? — гаварылі яны.— Куды занесла нас бура? Мы прападзём тут і ніколі не ўбачым роднага краю... Лепш было б нам разбіцца аб падводныя камяні або загінуць у няроўным баі, чым памерці ў пустыні ад голаду!»

Яны разышліся па беразе і блукалі да змяркання. Калі надышоў вечар, усе сабраліся каля карабля, развіталіся адзін з адным і палеглі на пяску, закруціўшыся з галавою ў плашчы. Яны ляжалі гэтак да раніцы. Раптам Язон адчуў, што нехта здымае плашч з яго твару. Ён прыўзняўся і ўбачыў перад сабою трох німф пустыні. Німфы сказалі яму:

— Не трацьце надзеі! Лёс занёс вас у Лівійскую пустыню, але і адсюль ёсць дарога для смелых і дужых. Калі царыца мора Амфітрыта выпража коней са сваёй калясніцы, зрабіце са сваім караблём тое, што ён дагэтуль рабіў з вамі, і вы будзеце выратаваны.

Язон пабудзіў сваіх таварышаў і пераказаў ім тое, што сказалі яму німфы. Арганаўты пачалі думаць, што гэта азначае: «Калі Амфітрыта выпража коней», і што трэба зрабіць ім з «Арго». Раптам да берага з шумам прылілі хвалі, з мора выбег белы конь і памчаўся цераз пустыню. Пачынаўся прыліў. Тут здагадаліся арганаўты, што ў час прыліву трэба зрушыць «Арго» з мелі, узяць яго на плечы і несці цераз пустыню, як ён насіў іх па моры.

Дванаццаць дзён пад пякучым сонцам, грузнучы ў пяску, яны неслі на плячах «Арго» і нарэшце прыйшлі на бераг вялікага возера. Зноў спусцілі карабель на ваду. Але яны ніяк не маглі знайсці выхада з возера, пакуль гаспадар яго, бог Трытон, схапіўшы рукою за борт «Арго», не вывеў яго пратокай паміж белых скалаў у шырокае мора.

Доўга зноў плылі арганаўты ў бязлюдным моры і дабраліся да гарыстага вострава, такого вялікага, што на ім магло б размясціцца шмат гарадоў. Гэта была радзіма Зеўса — Крыт. Там цараваў Мінас, якому Зеўс падарыў для абароны вострава меднага велікана. Велікан быў увесь пакрыты меддзю, і толькі на пятцы ў яго была дзірачка, заткнутая медным цвіком. Тры разы на дзень медны велікан абходзіў дазорам вакол вострава.

Калі арганаўты падышлі да Крыта, велікан не пусціў іх на бераг і пачаў шпурляць у іх цяжкія камяні. Але Медэя сваёй чароўнай сілай усыпіла велікана, вочы яго заплюшчыліся. Ён спатыкнуўся на востры камень і ўпаў. Цвік выпаў у яго з пяткі, і кроў лінула з адтуліны. Разам з крывёю велікан страціў сваю жывую сілу і ператварыўся ў вялікую медную статую.

Арганаўты прычалілі да берага і пераначавалі на Крыце, а раніцай рушылі далей.

І яшчэ раз яны трапілі ў буру. Ды гэта было ўжо апошняе выпрабаванне, і багі не далі ім загінуць.

Сам Апалон з залатога лука пасылаў у мора святлівыя стрэлы

і паказаў арганаўтам астравок, каля якога яны маглі схавацца.

Потым вецер сціх, неба ачысцілася, мора паспакайнела, і ўдалечыні паказаўся грэчаскі бераг.

Плаванне арганаўтаў канчалася. «Арго» вяртаўся дадому.

## *Смерць Язона*

Скончыліся святкаванні і банкеты ў гонар арганаўтаў, якія шчасліва вярнуліся пасля далёкага і доўгага плавання. Цудоўны карабель «Арго» адслужыў сваё — ветразі яго былі пашматаны бурамі, змылася пазалота на носе, і хвалі шматлікіх мораў стачылі яго драўляны корпус. Арганаўты выцягнулі з вады абшарпаны каркас «Арго» і паставілі на беразе на памяць людзям.

Потым адважныя героі разышліся па розных гарадах і заняліся кожны сваёй справай.

Залатое руно ляжала ў палацы іолкскага цара. Але Язону яно не прынесла шчасця.

Стары Пелій не ўзрадаваўся, што Язон вярнуўся, і не аддаў яму царскую ўладу. «Няхай вырашае народ, няхай сам народ скажа, каго ён хоча бачыць царом у Іолку»,—

гаварыў ён Язону. А народу Пелій гаварыў: «Хочаце, каб вашай царыцай была чужаземка, да таго ж яшчэ і чараўніца? Яна зачаруе вас, як зачаравала Язона».

Людзі з апаскай пазіралі на Медэю і абміналі палац Язона. Неўзабаве зусім не засталося ў яго сяброў у Іолку. Медэя бачыла гэта, ёй было горка і крыўдна, і яна парашыла адпомсціць Пелію і аддаць царства Язону.

Яна расказала іолкскім жанчынам, што багі далі ёй сілу вяртаць маладосць старым, і, каб ёй паверылі, зарэзала старога барана і зноў ажывіла яго,ператварыўшы ў ягня.

Тады дочкі Пелія пачалі прасіць чараўніцу зрабіць маладым іх старога бацьку.

Яны забілі цара, але ажыўляць яго Медэя не захацела, адмовілася.

Смерць Пелія не памагла Язону. Царом у Іолку стаў сын Пелія — Ака́ст. Ён прагнаў Язона і Медэю з горада і не дазволіў ім жыць у Фесаліі. Пеша, нібы той апошні жабрак, зганьбаваны, выгнаны з роднага краю, пайшоў Язон з Іолка шукаць прытулку на суседняй зямлі.

У гэты час у Карынфе правіў стары сябар бацькі Язона — Крэо́нт. Ён даў прытулак выгнаннікам у памяць старой дружбы.

Яны пасяліліся ў беднай хаціне на ўскраіне горада, жылі ціха некалькі гадоў, і Медэя нарадзіла Язону двух сыноў.

Але не было шчасця ў іх доме. Людзі не любілі і баяліся Медэі, чараўніцы і чужаземкі. Жанчыны не заходзілі да яе ў дом пагаманіць за прасніцай пра гарадскія навіны, пра свае хатнія справы; іх дзеці не хацелі гуляць з маленькімі сынамі Медэі, дражнілі іх і білі.

Медэя гневалася і тужыла і скардзілася Язону, але яму дакучалі гэтыя скаргі. Ён часта сыходзіў з дому і ішоў у госці да Крэонта, які заўсёды ласкава сустракаў сына свайго сябра, але ніколі не запрашаў Медэю.

У Крэонта была дачка-красуня. Яна заўсёды радасна сустракала Язона, калі ён прыходзіў у палац, сама налівала яму віна і слухала цэлымі гадзінамі яго расказы пра арганаўтаў і іх плаванне па чужых морах на караблі «Арго».

Аднойчы цар сказаў Язону:

— Я не маю сына, і наследнікам маім будзе той, хто ажэніцца з ма-

ей дачкой. Ажаніся з ёю — і ты будзеш царом у Карынфе.

Збянтэжаны Язон адказаў, што ў яго ўжо ёсць жонка — Медэя.

Але цар засмяяўся і сказаў:

— Паводле нашых законаў, гэта не жонка, а рабыня, паланянка-варварка. Кінь яе, і ты будзеш жыць у палацы, у дастатку і ў пашане. Ніхто не будзе напамінаць табе пра мінулае.

І Язон здрадзіў Медэі. Ён забыў пра сваю клятву ў страшны начны час на беразе Фазіса, калі пагібель пагражала яму і ўсім аргаўтам і дзяўчына-варварка выратавала іх. Але ён не асмеліўся сказаць Медэі праўду: выдумаў, што цар узяў яго да сябе на службу і таму ён павінен перасяліцца ў палац.

Медэя па-ранейшаму кахала Язона і ні аб чым не здагадвалася, пакуль не прыйшлі і не сказалі ёй, што ён жэніцца з царскай дачкой і што прызначаны ўжо дзень вяселля.

Медэя была зняважана, і яна вельмі разгневалася.

«Язон забыўся пра сваю клятву, забыўся, што я выратавала яму жыццё і гонар, што праз яго я пакінула родны край, парушыла

волю бацькі! Ён хоча пакінуць мяне з дзецьмі адну сярод чужых людзей, без дапамогі, без апоры!»

Ад гневу і тугі Медэя не знаходзіла сабе месца, не ведала, што рабіць. Раптам прыйшоў слуга ад цара з загадам, каб яна зараз жа пакінула Карынф — яе праганялі.

Тады яна выгукнула:

— Усё скончана! Бывай, каханне і мірнае шчасце! Прыйдзі мне на дапамогу, Геката! Памажы адпомсціць!

Медэя прыкінулася пакорлівай і ціхай. Яна папрасіла не выганяць яе з Карынфа ўсяго яшчэ адзін дзень, памірылася з Язонам, і ў знак поўнай пакоры паслала яго нявесце цудоўны падарунак — прыгожае вянчальнае пакрывала і залатую карону, якую бог Сонца калісьці падарыў цару Калхіды.

Красуня нявеста ўзрадавалася падарунку, адразу ж надзела на галаву карону і захуталася ў пакрывала. Раптам ёй зрабілася цяжка: залатая карона сціскала, пякла ёй галаву, чароўнае пакрывала душыла яе.

Яна хацела скінуць з сябе ўбранне, але адзенне на ёй у адно імгненне ўспыхнула, і агонь ахапіў яе ўсю. Яна закрычала.

Бацька прыбег ёй на дапамогу, пачаў зрываць з яе палаючае адзенне — агонь перакінуўся на яго, і яны абое, ахопленыя полымем, нібы жывыя вогнішчы, кідаліся па палацы, і ніхто не мог ім памагчы.

З жахам убачыў Язон іх абвугленыя трупы. Сэрца яго сціснулася — страшна яму зрабілася і сорамна. Ён пабег дадому, хацеў абняць сыноў. Позна! Медэя ў шаленстве забіла сваіх дзяцей, і крылатыя драконы знеслі яе з Карынфа.

Язон застаўся адзін-адзінюткі на свеце. Ніхто не хацеў жыць разам з ім, ніхто не слухаў больш яго расказаў.

Ён хадзіў з горада ў горад і нідзе не мог знайсці сабе ні занятку, ні спакою.

Аднойчы ён прыйшоў на бераг мора. Перад ім на пяску, амаль увесь разбураны, абадраны, стаяў на падпорках карабель. Язон пазнаў яго: гэта быў «Арго», гэтакі ж адзінокі і ўсімі забыты, як ён сам. Язон абышоў яго, агледзеў і, стомлены, лёг у засені карабля, пад кармой. Ён ляжаў і ўспамінаў шчаслівыя дні паходу: адважных таварышаў, далёкія чужыя землі,

і ўпершыню за шмат дзён у яго было лёгка і спакойна на душы.

Потым ён заснуў.

Пакуль ён спаў, наляцеў вецер, і стары «Арго» абваліўся і пахаваў пад сабою правадыра арганаўтаў.



у падзямелле, спусціўся ў жыллё Данаі і ўбачыў на руках у дачкі прыгожага хлопчыка.

Страх ахапіў цара. Ён пачаў думаць, як яму пазбегнуць страшнага лёсу. Нарэшце ён загадаў пасадзіць Данаю з сынам у вялікую скрыню і тайком кінуць у мора.

Вецер доўга насіў скрыню па моры і прыгнаў да вострава Серы́фа. На беразе рыбак лавіў рыбу. Ён закінуў сетку ў мора і злавіў замест рыбы вялікую скрыню. Бедны рыбак захацеў хутчэй даведацца, што гэта за ўлоў паслала яму мора, выцягнуў знаходку на бераг, сарваў са скрыні накрыўку — і адтуль выйшла красуня і з ёю хлопчык. Даведаўшыся пра тое, хто яны і што з імі здарылася, рыбак пашкадаваў іх і ўзяў у свой дом. Персей рос не па днях, а па гадзінах, вырас высокім, стройным юнаком, і ніхто ў Серыфе не мог з ім зраўняцца ў прыгажосці, спрыце і сіле.

Пачуў пра яго цар вострава Серыфа Палідэ́кт і загадаў Персею разам з маці з'явіцца ў палац. Прыгажосць Данаі зачаравала Палідэкта, ён ласкава сустрэў царыцу з сынам і пасяліў іх у сваім палацы.

Аднойчы застаў Персей маці ў слязах; яна прызналася яму, што Палідэкт прымушае яе выйсці за яго замуж, і папрасіла сына абараніць яе. Персей горача заступіўся за маці.

Тады Палідэкт вырашыў пазбавіцца ад Персея, паклікаў яго і сказаў:

— Ты ўжо вырас і ўзмужнеў і стаў такі дужы, што можаш цяпер адплаціць мне за тое, што я даў прытулак табе і маці. Выпраўляйся ў дарогу і прынясі мне галаву Медузы.

Персей развітаўся з маці і падаўся ў свет — шукаць Медузу, пра якую нічога дагэтуль не ведаў.

У сне да яго з'явілася багіня мудрасці Афіна і адкрыла яму, што Медуза — адна з трох сясцёр Гаргон, жывуць яны на краі свету, у Краіне Ночы, усе яны — пачвары страшыдлы, але самая страшная — Медуза: замест валасоў на галаве ў яе звіваюцца ядавітыя змеі, вочы палаюць нясцерпным агнём і такія злосныя, што кожны, хто зірне ў іх, адразу ператвараецца ў камень. Афіна дала Персею свой шчыт, гладкі і бліскучы, нібы люстэрка, каб ён мог закрыцца ад страшных вачэй Медузы.

Потым на дарозе дагнаў яго шпарканогі Гермес, пасланец Зеўса: ён расказаў Персею, як яму ісці, і падарыў свой меч, такі вострый, што ім можна было рэзаць, як воск, жалеза і камень.

Доўга ішоў Персей у той бок, куды заходзіць Сонца. Нарэшце дабраўся да Краіны Ночы. Уваход у гэту краіну вартавалі тры старыя бабулі — Грайі. Яны былі такія старыя, што на ўсіх трох мелі ўсяго адно толькі вока і адзін зуб. І ўсё ж такі яны добра ахоўвалі ўваход у Краіну Ночы і нікога не прапускалі туды. Па чарзе глядзелі яны адным вокам, перадаючы яго адна адной.

Персей ціхенька падкраўся да Грайяў, дачакаўся, калі адна з іх выняла вока, каб перадаць яго сястры, працягнуў руку і выхапіў у старой вельмі дарагое для іх вока. І адразу ж зрабіліся Грайі нядужымі сляпымі бабулькамі. Жаласна прасілі яны Персея аддаць ім іх адзінае вока.

— Пусціце мяне ў Краіну Ночы, скажыце мне, як знайсці Медузу, і я аддам вам ваша вока,— адказаў старым Персей.

Але старыя Грайі не хацелі пускаць Персея, не хацелі гаварыць

яму, дзе знайсці Медузу,— Гаргоны ж былі іх родныя сёстры. Тады Персей прыгразіў старым, што разаб'е іх вока аб камень,— і Грайям давялося паказаць яму дарогу.

Персей аддаў Грайям іх вока і пайшоў далей на захад.

Па дарозе трапіліся яму тры добрыя німфы. Адна падарыла Персею шлем Аіда, уладара падземнага царства,— той, хто надзяваў гэты шлем, рабіўся невідзімкай; другая дала Персею крылатыя сандалі — той, хто надзяваў іх, мог лятаць над зямлёй, як птушка; трэцяя німфа ўручыла юнаку торбу, якая магла памяншацца і павялічвацца па жаданні таго, хто насіў яе.

Персей павесіў на плячо торбу, абуў крылатыя сандалі, надзеў на галаву шлем — і, не бачны нікому, узняўся высока ў неба і паляцеў над зямлёй. Неўзабаве ён дабраўся да края зямлі і доўга ляцеў над пустыннай роўняддзю мора, пакуль унізе не зачарнеў адзінокі скалісты востраў. Персей пачаў кружыцца над востравам і ўбачыў на скале Гаргон, якія ў гэты час спалі. У іх былі залатыя крылы, пакрытыя луской, і медныя рукі з вострымі кіпцюрамі.

Персей убачыў Медузу — яна была бліжэй за ўсіх да мора. Ён апусціўся на скалу побач з ёю. Змеі на галаве Медузы засыкалі, пачуўшы ворага. Медуза прачнулася, расплюшчыла вочы. Персей адвярнуўся, каб не зірнуць у гэтыя страшныя вочы і не ператварыцца навек у мёртвы камень. Ён узняў шчыт Афіны, бліскучы, нібы люстэрка, навёў на Медузу і, пазіраючы ў яго, дастаў меч Гермеса і адсек ёй галаву.

Тут прачнуліся дзве другія Гаргоны, распасцерлі крылы і пачалі кружыцца над востравам, шукаючы ворага. Але Персей быў нябачны. Хуценька засунуў ён галаву Медузы ў сваю чароўную торбу, сапхнуў цела Гаргоны ў мора і паляцеў прэч. Ён спяшаўся дадому, хутка мінуў мора і паляцеў над Лівійскай пустыняй. Кроў з галавы Медузы капала з торбы на зямлю, і кожная кропля ператваралася на пяску ў ядавітую змяю.

Доўга ляцеў Персей, стаміўся і захацеў адпачыць. Убачыў унізе зялёныя лугі і чароды авечак, кароў і быкоў, убачыў вялікі цяністы сад, пасярод якога расло дрэва з залатымі лістамі і яблыкамі,— і апусціўся каля гэтага дрэва. Гас-

падар саду, велікан Атлант, сустрэў Персея няветліва. Яму прадказалі, што аднойчы да яго прыйдзе сын Зеўса і ўкрадзе залатыя яблыкі з яго любімага дрэва.

Персей не ведаў гэтага прадказання і сказаў велікану:

— Я — Персей, сын Зеўса і Данаі. Я забіў грозную Медузу. Дазволь мне адпачыць у тваім садзе.

Пачуўшы, што перад ім сын Зеўса, Атлант раз'юшыўся.

— Злодзей! Ты хочаш украсці мае залатыя яблыкі? — закрычаў ён і пачаў праганяць Персея з саду.

Зняважаны, Персей выхапіў з торбы галаву Медузы і паказаў яе велікану.

У адно імгненне скамянеў Атлант, ператварыўся ў каменную гару. Галава яго стала вяршыняй скалы, барада і валасы — густым лесам на вяршыні, плечы — крутымі скаламі, рукі і ногі — камяністымі выступамі. На вяршыню гэтай каменнай гары, на крутыя скалы лёг купал неба з усімі незлічонымі зоркамі. З таго часу стаіць там Атлант на краі зямлі і трымае на сваіх плячах неба.

А Персей паляцеў далей.

Ён праляцеў над Эфіопіяй і раптам на скале па-над морам убачыў

дзяўчыну такой прыгажосці, што яна здалася яму спачатку дзівоснай статуяй. Але, апусціўшыся ніжэй, ён зразумеў, што яна жывая, толькі рукі ў яе былі прыкуты да скалы. Ён наблізіўся да скалы і спытаў:

— Хто ты і завошта прыкавалі цябе тут?

Дзяўчына сказала, што яна дачка эфіопскага цара — Андраме́да і асуджана на з'ядзенне марскому страшыдлу. Яе маці, царыца Касіяпе́я, пахвалілася неяк раз, што яна прыгажэйшая за ўсіх марскіх німфаў, — за гэта бог мораў Пасейдон паслаў у іх край рыбінустрашыдлу, якая жэрла рыбакоў у моры, і плыўцоў, і карабельшчыкаў, тапіла караблі і спусташала берагі іх царства. Народ перапалохаўся і запатрабаваў, каб Касіяпея аддала ў ахвяру страшыдле сваю дачку Андрамеду, і тым самым улесціла Пасейдона.

Андрамеду прыкавалі да скалы на беразе мора і пакінулі адну. Бялейшая за марскую пену, стаяла дзяўчына каля скалы і з жахам глядзела на мора. Вось па-над вадой, з марской глыбіні, паказалася вялізная галава, заблішчаў лускавіннем хвост. Андрамеда ад страху

закрычала. На яе крык прыбеглі бацька і маці і пачалі плакаць разам з ёю.

Персей сказаў ім:

— Аддайце за мяне замуж Андрамеду, і я выратую яе.

Цар і царыца паабяцалі Персею аддаць за яго сваю дачку, а ў прыданае ёй — усё сваё царства, калі ён выратуе Андрамеду.

Між тым вялізная рыбіна ўсплыла на паверхню мора і набліжалася да берага, з шумам рассякаючы хвалі.

Персей у сваіх крылатых сандалях узняўся ў паветра і паляцеў насустрач страшыдлу. Цень героя лёг на ваду перад прагнай пашчай рыбіны. Страшыдла кінулася на гэты цень.

Тады Персей, нібы драпежная птушка, упаў з вышыні на страшыдлу і секануў яе мячом. Параненая рыбіна ў шаленстве пачала кідацца ва ўсе бакі, то ныряла ў глыбіню, то зноў усплывала наверх. Кроў яе афарбавала марскую ваду, пырскі ўзляталі высока ўгору. Крыльцы на сандалях Персея намоклі, і ён ужо не мог трымацца ў паветры. Але тут ён убачыў камень, што тырчаў з вады, стаў на яго нагою і з усёй сілы


ПЕРСЕЙ

хвасянуў мячом па галаве страшыдлы. Апошні раз пляснуў вялізны хвост, і страшная рыбіна пайшла на дно.

Цар і царыца і ўвесь народ Эфіопіі радасна вітаў героя. Царскі палац упрыгожылі кветкамі і зелянінай, усюды запалілі свяцільні, прыбралі нявесту, сабраліся спевакі і флейтысты, напоўнілі чашы віном, і пачалося вяселле.

На балі Персей расказваў Андрамедзе і яе бацькам пра свае вандраванні. Раптам пачуўся шум каля ўвахода ў палац, звон мячоў і ваяўнічыя крыкі. Гэта з натоўпам воінаў уварваўся ў палац былы жаніх Андрамеды, Фінэй. У руках ён трымаў кап'ё і цэліўся проста ў сэрца Персея.

— Сцеражыся, злодзей! — І воіны ўжо гатовы былі пранізаць коп'ямі ўсіх, хто быў на вяселлі.

Бацька Андрамеды паспрабаваў спыніць Фінэя:

— Не злодзей Персей, а збавіцель. Ён выратаваў Андрамеду ад страшыдлы. Калі ты кахаў яе, чаму не прыйшоў на бераг мора, як страшыдла прыплыло зжэрці яе? Ты ўцёк ад яе, калі яна чакала пагібелі, — чаму цяпер ты прыйшоў патрабаваць яе сабе?

Нічога не адказаў Фінэй цару і кінуў кап'ё ў Персея, але не пацэліў,— кап'ё ўпілося ў край крэсла, на якім сядзеў Персей. Персей схапіў кап'ё свайго праціўніка і кінуў назад — у твар Фінэю. Фінэй паспеў нагнуцца, кап'ё праляцела і параніла сябра Фінэя. Гэта быў сігнал для бітвы. Пачалася жорсткая, крывавая бойка. Ад страху ўцяклі з палаца цар і царыца разам з Андрамедаю. Прытуліўшыся спіной да калоны, са шчытом Афіны ў руках, Персей адзін адбіваўся ад раз'юшанага натоўпу. Нарэшце ён убачыў, што яму аднаму не адолець цэлае войска, і ён дастаў з торбы галаву Медузы.

Воін, што нацэліўся ў Персея, толькі зірнуў у твар Медузы — і раптам замёр з працягнутай рукой, і адразу ж ператварыўся ў камень. І ўсе, хто глядзеў на гэтую страшную галаву, спыніліся, замерлі, хто як быў, скамянелі навекі. Так і засталіся яны каменнымі статуямі ў палацы эфіопскага цара.

Персей з прыгажуняй Андрамедай заспяшаліся ў дарогу — на востраў Серыф. Персей жа абяцаў цару Палідэкту прынесці галаву Медузы.

Калі Персей з'явіўся на востраў Серыф, дык даведаўся, што яго маці Даная хаваецца ад Палідэкта ў храме і не асмельваецца выйсці адтуль ні ўдзень, ні ўночы.

Персей пайшоў у палац цара і застаў Палідэкта за абедам. Цар быў упэўнены, што Персей даўно ўжо загінуў дзе-небудзь у пустыні або ў акіяне, і вельмі здзівіўся, калі ўбачыў героя перад сабою.

Персей сказаў цару:

— Я выканаў тваё пажаданне — прынёс табе галаву Медузы.

Цар не паверыў, зарагатаў. Смяяліся з ім і яго сябры.

Персей выхапіў з торбы галаву Медузы і высока падняў яе.

— Вось яна — зірні на яе!

Цар паглядзеў — і скамянеў.

Персей не захацеў заставацца на Серыфе, зрабіў царом вострава старога рыбака, які калісьці вылавіў з мора скрыню з Данаяй і з ім, і падаўся з жонкай і маці на радзіму ў Аргос.

Аргоскі цар, даведаўшыся, што ўнук яго жывы і вяртаецца дадому, кінуў свой горад і схаваўся. Персей стаў царом у Аргосе. Ён аддаў Гермесу яго востры меч, Афіне — яе шчыт, добрым німфам — шлем-невідзімку, крылатыя сандалі і тор-

бу, у якой хаваў сваю страшную здабычу. Галаву Медузы ён падарыў Афіне, і багіня з таго часу носіць яе, прымацаваўшы на сваім залатым шчыце.

Аднойчы ў Аргосе было свята, і безліч народу сабралася паглядзець на спаборніцтва герояў. Патаемна прыйшоў на стадыён і стары аргоскі цар.

У час спаборніцтваў Персей з такой сілай шпурнуў цяжкі бронзавы дыск, што ён праляцеў над стадыёнам і, падаючы ўніз, трапіў у галаву старога цара і забіў яго на месцы.

Так спраўдзілася прадказанне: унук забіў свайго дзеда.

І хоць гэта было ненаўмыснае забойства, Персей ужо не мог атрымаць у спадчыну царства забітага ім дзеда і, пахаваўшы цара, добраахвотна пакінуў Аргос.



# ДЭДАЛ І ІКАР

У тыя далёкія часы, калі ў людзей яшчэ не было ні інструментаў, ні машын, жыў у Афінах вялікі мастак Дэдал. Ён першы навучыў грэкаў будаваць прыгожыя дамы. Да яго мастакі не ўмелі перадаваць людзей у руху і рабілі статуі, падобныя на спавітыя лялькі з заплюшчанымі вачамі. Дэдал жа пачаў высякаць з мармуру цудоўныя статуі, якія паказвалі людзей у руху.

Для сваёй работы Дэдал сам прыдумаў і зрабіў інструменты і навучыў людзей карыстацца імі. Ён навучыў будаўнікоў, як правяраць, — каменем на нітцы, — ці правільна яны кладуць сцены.

У Дэдала быў пляменнік. Ён памагаў мастаку ў яго майстэрні і вучыўся ў яго ўмельству. Разглядаючы неяк раз плаўнікі рыбы, ён здагадаўся зрабіць пілу; прыдумаў цыркуль, каб вычэрчваць

правільны круг; выразаў з дрэва круг, прымусіў яго круціцца і пачаў ляпіць на ім гліняны посуд — гаршкі, збаны і круглыя чашы.

Аднойчы Дэдал з юнаком узышлі на вяршыню Акропаля, каб з вышыні палюбавацца прыгажосцю горада. Задумаўшыся, юнак ступіў на край абрыву, не ўтрымаўся, упаў з гары і разбіўся.

Афіняне абвінавацілі Дэдала ў гібелі хлопчыка. Дэдалу давялося ўцячы з Афін. На караблі ён дабраўся да вострава Крыта і прыйшоў да крыцкага цара Мі́наса.

Мінас узрадаваўся, што лёс прывёў да яго славутага афінскага будаўніка і мастака. Цар даў прытулак Дэдалу і прымусіў яго працаваць на сябе. Дэдал пабудаваў яму Лабірынт, дзе было столькі пакояў і так заблытаны хады, што кожны, хто заходзіў туды, ужо не мог сам знайсці выхада.

Да гэтага часу на востраве Крыце паказваюць рэшткі гэтага цудоўнага збудавання.

Доўга жыў Дэдал у цара Мінаса палонным на чужым востраве пасярод мора. Часта сядзеў ён на марскім беразе, пазіраў у бок роднага краю, успамінаў свой прыгожы горад і сумаваў. Мінула ўжо

шмат гадоў, і, пэўна, ужо ніхто не памятаў, у чым яго абвінавачвалі. Але Дэдал ведаў, што Мінас ніколі не адпусціць яго і ні адзін карабель, які адплывае ад Крыта, не асмеліцца ўзяць яго з сабою, баючыся пагоні. І ўсё-такі Дэдал увесь час думаў аб тым, каб вярнуцца дадому.

Аднойчы, седзячы каля мора, ён зірнуў на шырокае неба і падумаў: «Няма мне дарогі па моры, але ж неба адкрыта для мяне. Хто можа перашкодзіць мне на паветраным шляху? Птушка рассякае крыламі паветра і ляціць куды хоча. Хіба чалавек горшы за птушку?»

І яму захацелася зрабіць сабе крылы, каб вызваліцца з палону. Ён пачаў збіраць пёры вялікіх птушак, адмыслова звязваў іх ільнянымі моцнымі ніткамі і змацоўваў воскам. Неўзабаве ён зрабіў чатыры крылы — два сабе і два для свайго сына Ікара, які жыў з ім на Крыце. Крылы пераввязваліся крыж-накрыж і прымацоўваліся да грудзей і рук.

І вось надышоў дзень, калі Дэдал парашыў выпрабаваць свае крылы. Надзеў іх і, плаўна ўзмахваючы рукамі, узняўся над зямлёй. Кры-

лы трымалі яго ў паветры, і ён мог ляцець у той бок, куды хацеў.

Спусціўшыся ўніз, ён надзеў крылы сыну і пачаў вучыць яго лятаць.

— Спакойна і роўна махай рукамі, не апускайся задужа нізка да хваляў, каб не намачыць крылы, і не ўзнімайся высока, каб промні сонца не апяклі цябе. Ляці за мною следам,— так гаварыў ён Ікару.

І вось на досвітку яны паляцелі з вострава Крыта.

Толькі рыбакі ў моры ды пастухі на лузе бачылі, як яны адляталі, але і тыя падумалі, што гэта крылатыя багі пралятаюць над зямлёй. І вось ужо далёка ззаду застаўся скалісты востраў, і шырока раскінулася пад імі мора.

Дзень разгараўся, сонца ўзнялося высока, і промні яго прыпякалі ўсё мацней.

Дэдал ляцеў асцярожна, трымаўся бліжэй да паверхні мора, з бояззю азіраўся на сына.

А Ікару па душы быў вольны палёт. Усё хутчэй рассякаў ён крыламі паветра, і яму захацелася ўзняцца высока-высока, вышэй за ластавак, вышэй за самога жаваранка, які спявае, пазіраючы про-

ста ў твар сонцу. І ў тую хвіліну, калі бацька не глядзеў на яго, Ікар узняўся высока ўгору, да самага сонца.

Пад гарачымі промнямі растапіўся воск, які змацоўваў крылы, пер'е распалася і разляцелася навокал. Дарэмна ўзмахваў Ікар рукамі — ужо нічога больш не трымала яго ў вышыні. Ён імкліва падаў, упаў і знік у глыбіні мора.

Азірнуўся Дэдал — і не ўбачыў у сіняве неба свайго сына. Ён глянуў на мора — толькі белае пер'е плыло на хвалях.

У роспачы апусціўся Дэдал на першы, што трапіўся яму, востраў, паламаў свае крылы і пракляў сваё майстэрства, якое згубіла яго сына.

Але людзі запомнілі гэты першы палёт, і з таго часу ў іх сэрцах жыла мара аб пакарэнні паветра, аб прасторных нябесных дарогах.



# ТЭЗЕЙ

Афінскі цар Эгей не меў дзяцей. Два разы быў ён жанаты, але жонкі не нарадзілі яму ні сына, ні дачкі. І таму ён вельмі бедаваў. Ён хацеў ведаць, няўжо яму суджана застацца бяздзетным, і спытаў пра гэта ў аракула-прадказальніка. Аракул адказаў так загадкава, што Эгей не мог зразумець яго.

У гэты час у Аргалідзе, у горадзе Тразенах, жыў стары мудры Пітфей. Эгей выправіўся да яго ў Тразены — папрасіць яго разгадаць адказ аракула. Пітфей растлумачыў прадказанне: у Эгея будзе сын, якому суджана стаць вялікім героем.

Эгей узрадаваўся і, каб хутчэй збылося прадказанне, ажаніўся трэці раз — з дачкой Пітфея — і пачаў чакаць абяцанага сына.

Але тут з Афін прыйшла вестка, што ворагі, скарыстаўшы адсут-

насць цара, намагаюцца захапіць уладу ў горадзе. Эгей вымушаны быў вярнуцца ў Афіны. Але Пітфей не адпусціў сваю дачку з мужам: старому цару хацелася, каб герой, якога пасылае лёс, нарадзіўся ў Тразенах і сваім нараджэннем праславіў горад.

Перш чым пакінуць Тразены, Эгей закапаў у царскім садзе пад вялікім каменем свой меч і сандалі і сказаў жонцы:

— Калі мой сын стане такі вялікі і дужы, што зможа зрушыць гэты камень і дастане мой меч і сандалі, няхай ён прыйдзе да мяне ў Афіны: па гэтым мячы і сандалях я пазнаю яго.

Эгей вярнуўся ў Афіны, а ў яго жонкі неўзабаве нарадзіўся хлопчык — яго назвалі Тэзе́ем. Тэзей рос у палацы Пітфея, і стары цар вучыў яго ўсяму, што павінен ведаць і ўмець чалавек, якога чакаюць у жыцці вандраванні, бітвы і подзвігі воіна.

Калі Тэзею споўнілася шаснаццаць гадоў, маці павяла яго ў сад, паказала яму камень і сказала:

— Вось тут, пад гэтым каменем, ляжыць падарунак, які пакінуў табе твой бацька. Адсунь камень і дастань тое, што пад ім закапана.

Юнак дужымі рукамі моцна абхапіў камень, адсунуў яго ўбок і знайшоў у зямлі меч і сандалі. Тады маці сказала яму, хто яго бацька, падперазала сына бацькавым мячом, надзела яму на ногі бацькавы сандалі і сказала, што па гэтым мячы і сандалях бацька пазнае яго.

Тэзей захацеў хутчэй убачыць свайго бацьку, і ў той жа дзень развітаўся з маці і дзедам і падаўся ў Афіны. Маці ўгаворвала яго сесці на карабель і дабрацца да Афін марскім шляхам — гэта было больш надзейна, чым ісці праз лясы і цераз горы, дзе вяліся драпежныя звяры і ліхія разбойнікі падпільноўвалі падарожнікаў.

Але Тэзей прагнуў подзвігаў і славы і пайшоў простаю дарогаю.

Смела мінуў ён межы дзедавых земляў і ўвайшоў у чужыя горы. Прайшоў трохі і сустрэў кульгавага веліканa, які чыкільгаў па дарозе, абапіраючыся на тоўстую жалезную булаву, якая са звонам стукалася аб прыдарожныя камяні.

Убачыўшы Тэзея, велікан закрычаў сярдзіта:

— Гэй, падарожнік, вяртайся назад!

Тэзей здзівіўся і спытаў, чаму ён павінен вяртацца, калі яму трэба ісці ўперад.

Велікан узняў над галавою сваю булаву і зароў:

— Вяртайся туды, адкуль прыйшоў, і скажы ўсім, што я, Перыфет, нікому не дазваляю тут хадзіць! Клянуся гэтай булавою, якую выкаваў мне мой заступнік — бог Гефест,— ты не ступіш ні кроку далей.

Ён гаварыў гэта і размахваў сваёю жалезнай булавою так, што вецер свістаў вакол і камяні разляталіся на ўсе бакі.

Замест таго каб павярнуцца і ўцякаць, Тэзей кінуўся насустрач велікану і сутыкнуўся з ім так хутка, што Перыфет не паспеў стукнуць юнака, а Тэзей ужо абхапіў яго рукамі за пояс і моцна сціснуў. Ад нечаканасці Перыфет выпусціў з рук сваю булаву і нагнуўся, каб падняць яе. Тэзей тут жа збіў кульгавага з ног і ўсадзіў яму ў грудзі бацькаў меч. Потым ён сцягнуў цела велікана з дарогі, падняў яго булаву і пайшоў далей, радуючыся сваёй першай перамозе.

Але гэта быў толькі пачатак яго выпрабаванняў.

На Істме, ідучы праз густы і цёмны хваёвы лес, юнак пачуў, як драпежныя птушкі з крыкам біліся ў вяршалінах соснаў, нібыта дзялілі нейкую крывавую здабычу. Раптам люты велікан Сініс напаў на Тэзея ззаду, збіў з ног, звязаў і павалок у лясныя нетры.

— Бачыш вунь тыя дзве высокія сасны, верхавіны якіх глядзяць у неба? — сказаў велікан Тэзею.— Я сагну іх уніз, да самай зямлі, прывяжу цябе да іх за рукі, за ногі — і адпушчу. Так раблю я з тымі, хто прыходзіць у мой лес, нездарма мяне завуць Згінальнік Соснаў!

Сказаўшы гэта, велікан ухапіў за макаўкі дзве бліжэйшыя сасны і пачаў прыгінаць іх да зямлі, не звяртаючы ўвагі на свайго палоннага.

Тэзей зубамі выцягнуў бацькаў меч з ножнаў, перарэзаў вяроўкі на руках і нагах, ціхенька падкраўся і стаў за спіною велікана разбойніка. Як толькі верхавіны соснаў паслухмяна дакрануліся да зямлі і велікан наступіў на іх нагамі, Тэзей моцна схапіў яго за рукі, аблытаў іх вяроўкамі, прывязаў да галін і, адступіўшы, пусціў сосны на волю. Са страшэннай сі-

лай выпрасталіся высокія дрэвы і разарвалі Згінальніка Соснаў напалам.

А Тэзей узяў свой меч і булаву і, не азіраючыся, заспяшаўся прэч з гэтага страшнага лесу.

Ён ішоў усё далей і далей і прыйшоў на бераг мора. Тут на скалістым выступе над морам сядзеў велікан Скіро́н, які прымушаў усіх падарожных мыць яму ногі.

Тэзей зірнуў уніз і ўбачыў мноства чалавечых касцей на беразе, а з вады высоўвала прагную пашчу вялізная марская чарапаха. Юнак зразумеў, што яму пагражае; ён прыкінуўся, нібыта хоча выканаць патрабаванне велікана, і нагнуўся, быццам хацеў зачэрпнуць вады з мора. Велікан падняў нагу, каб сапхнуць юнака ў мора, як спіхваў усіх дагэтуль. Тэзей тут жа схапіў велікана за нагу і скінуў яго самога ў ваду на з'ядзенне марскому страшыдлу. Перамогшы і гэтага разбойніка, Тэзей рушыў далей.

Недалёка ад Элеўсі́на давялося яму схапіцца з асілкам Керкіё́нам, якога яшчэ ніхто ніколі не мог перамагчы. Тэзей быў малады, спрытны, і прыёмам барацьбы яшчэ з маленства вучыў яго мудры Пітфей, а Керкіён быў няўклюдны і

прывык перамагаць слабых,— і Тэзей хутка адолеў яго.

Задаволены сваімі перамогамі і думаючы пра блізкую сустрэчу з бацькам, Тэзей заспяшаўся далей і ішоў, не спыняючыся, аж да змяркання.

У цемры спыніў яго на дарозе чалавек і пачаў угаворваць зайсці да яго ў дом адпачыць і пераначаваць.

— Уночы небяспечна ісці аднаму па бязлюднай дарозе,— гаварыў чалавек,— зайдзі ў мой дом, падсілкуйся разам са мною і адпачні на маім ложку. Мяне завуць Пракру́ст, дом мой заўсёды адчынены для падарожнікаў, і мой ложак гатовы для цябе.

Пракруст запрашаў так ласкава, што Тэзей ахвотна згадзіўся і зайшоў да яго ў дом.

Але чалавек той быў каварны і люты разбойнік: ён заваблівау падарожнікаў і ўкладваў іх на свой ложак; каму ложак быў малы — таму адсякаў галаву або ногі, а каму ложак быў завялікі — таго выцягваў так, што падарожнік паміраў у пакутах. Пракруст хацеў загубіць і Тэзея. Ды юны герой, убачыўшы акрываўлены Пракрустаў ложак і чалавечыя абрубкі

вакол яго, так разгневаўся, што схапіў самога разбойніка і шпурнуў яго на страшны ложак. А паколькі пасцель была кароткай, ён адсек Пракрусту яго доўгія ногі. Пакінуўшы яго на праклятым ложку, Тэзей выйшаў з дома разбойніка і заспяшаўся да свяшчэннай крыніцы, каб адмыцца ад пралітай крыві.

Нарэшце ён убачыў перад сабою Афіны і ўвайшоў у горад свайго бацькі.

Жыхары Афін пазіралі на яго са здзіўленнем, калі ён ішоў па вуліцах: яго доўгая вопратка, доўгія да плячэй валасы былі незвычайныя для афінян, і яго палічылі за дзяўчыну. Рабочыя, што будавалі храм на плошчы, пачалі смяяцца з яго. Тэзей узлаваўся, схапіў пустую калясніцу і шпурнуў яе ў жартаўнікоў з такой сілай, што яна заляцела на дах храма. Усе ўбачылі, што перад імі не кволая дзяўчына, а юны герой, які валодае вялікаю сілаю, і як мага хутчэй правялі яго да палаца цара, куды ён ішоў.

Эгей быў тады ўжо стары. У яго доме ўсім распараджалася чараўніца Медэя, якая раней была жонкай арганаўта Язона, а потым

уцякла з Карынфа і папрасіла прытулку ў афінскага цара, паабяцаўшы вярнуць яму маладосць.

Медэя адразу ж здагадалася, што юнак, які прыйшоў у палац,— сын Эгея. Прыход Тэзея ў Афіны абяцаў шмат змен, і яна зразумела, што яе ўлада над царом скончыцца. Медэя вырашыла звесці са свету маладога царэвіча. Калі Эгею сказалі, што ў палац прыйшоў чужаземец і хоча пабачыцца з царом, Медэя пераканала старога цара, што госць гэты — злачынец, якога падаслалі ворагі, і ўгаварыла Эгея атруціць яго.

Тэзей сядзеў побач з Эгеем за царскім сталом і з хваляваннем чакаў выпадку, каб паказаць цару, што ён яго сын. І вось, калі Медэя, падаўшы знак цару, з кашарнай усмешкай падала юнаку чашу з атручаным віном, Тэзей дастаў з ножнаў бацькаў меч — нібыта для таго, каб адкроіць сабе лусту хлеба. Эгей пазнаў свой меч і зразумеў, хто гэты юнак, што прыйшоў да яго. Ён вырваў у яго з рук і кінуў вобземлю атручаную чашу і абняў свайго сына. Убачыўшы гэта, Медэя адразу ж выбегла з палаца і ўцякла з Афін.

Эгей загадаў апавясціць усіх

афінян, што прыйшоў яго сын, іх будучы цар, і наладзіў баль, каб адсвяткаваць сваю сустрэчу з Тэзеем.

Але ворагі Эгея, якія даўно хацелі адабраць у яго Афіны і толькі чакалі смерці старога цара, каб захапіць горад, былі вельмі незадаволены, што з'явіўся малады наследнік. Яны парашылі сілай перашкодзіць яму і паслалі ў Афіны атрад воінаў; меншую яго частку накіравалі да гарадскіх варотаў, а другая — большая — павінна была тайком абысці горад і напасці на афінян з тылу. Тэзей разгадаў хітрыкі ворагаў, знянацку сам напаў на тых, што былі ў засадзе, у тыле, і перабіў усіх воінаў да адзінага. А тыя, што падышлі да варотаў, даведаўшыся пра пагібель другога атрада, разгубіліся і кінуліся наўцёкі. Так Тэзей пазбавіў бацьку ад даўніх яго ворагаў і спадзяваўся, што ніхто больш не парушыць спакою і міру ў Афінах.

Ды аднойчы раніцай яго пабудзілі крыкі людзей. У горадзе быў пярэпалах. Тэзею расказалі сумную гісторыю.

Было неяк раз свята ў Афінах. З'ехаліся госці з розных гарадоў. Юнакі спаборнічалі ў сіле і спры-

це, у бегу і барацьбе. Сын крыцкага цара Мінаса перамог у спаборніцтве ўсіх афінскіх байцоў. Эгей не мог сцярпець гэтага. Ён прапанаваў пераможцу паказаць сваю сілу — утаймаваць раз'юшанага быка, з якім ніхто не мог справіцца. Бык забіў крыцяніна.

Тады Мінас сабраў свае караблі, пайшоў вайною на Афіны і асадзіў горад. Афіняне не вытрымалі цяжкай асады — голад прымусіў іх здацца. Мінас запатрабаваў з Афінаў страшную даніну: кожныя дзевяць гадоў яны павінны пасылаць сем дзяўчат, самых прыгожых, і сем юнакоў, самых дужых, на Крыт. Там на беразе мора стаяў вялізны змрочны палац — Лабірынт. Яго пабудаваў калісьці вядомы грэчаскі дойлід Дэдал, калі жыў у палоне ў Мінаса на Крыце. У гэтым палацы было столькі пакояў і залаў, столькі дзвярэй і пераходаў і так хітра быў заблытаны план яго, што той, хто трапляў у палац, бясконца кружыў па ім і не мог знайсці з яго выхаду. Нібы вялізная пастка быў Лабірынт: пасярэдзіне яго, куды вялі ўсе заблытаныя хады, жыў людаед Мінатаўр — страшыдла з галавою быка. Казалі, што Мінатаўра нара-

дзіла Пасіфая, жонка Мінаса, і цар загадаў пабудаваць Лабірынт, каб схаваць у ім сваю ганьбу. На з'ядзенне Мінатаўру аддаваў Мінас афінскіх юнакоў і дзяўчат.

І вось зноў надышла страшная часіна. У афінскай гавані рыхтавалі карабель і ў знак смутку падымалі на ім чорныя ветразі. Плач чуўся з дамоў асуджаных.

Афіняне натоўпам прыйшлі ў палац. Яны сказалі Эгею:

— Мы аддаем страшыдлу сваіх дзяцей, а твой сын застаецца з табою, і ты не падзяляеш з намі нашага гора.

Тэзей не мог слухаць гэтыя папрокі.

— Я гатовы,— адказаў ён афінянам,— замяніць аднаго з вашых сыноў і паехаць на Крыт разам з іншымі. Але, прысягаю вам, мы не загінем! Я заб'ю крыважэрнага Мінатаўра і назаўсёды вызвалю вас ад цяжкай даніны.

Эгея ахапіў жах, калі ён пачуў гэтыя словы. Ён упрошваў Тэзея застацца ў Афінах, угаворваў афінян не аддаваць страшыдлу свайго будучага цара. Але Тэзей пераконваў бацьку, што не загіне і вернецца пераможцам. Ён абяцаў засмучанаму бацьку: калі застанецца

жывы, дык па дарозе назад загадае ўзняць на караблі белыя ветразі замест чорных, каб бацька ўбачыў яшчэ здалёк гэты светлы знак перамогі.

Надышоў дзень ад'езду. Сем юнакоў і сем дзяўчат падняліся на карабель і паплылі да вострава Крыта, ахопленыя страхам і тайнай надзеяй.

Калі афінскі карабель прыплыў да Крыта і спыніўся каля прыстані, Мінас загадаў адразу ж прывесці асуджаных у свой палац. Яны ішлі па беразе мора, і крыцяне глядзелі на іх і гаварылі пра іх страшны лёс. Тэзей ішоў наперадзе ўсіх, смелы і прыгожы, і падбадзёрваў таварышаў. Калі іх прывялі да цара, Мінас пачаў насміхацца з іх і зняважыў адну з дзяўчат. Тэзей горача заступіўся за яе.

— Хто ты такі, каб пярэчыць мне, цару Крыта, сыну вялікага Зеўса? — пагардліва спытаў Мінас.

— Я таксама царскага роду, я сын цара, і бог мора Пасейдон — мой заступнік і абаронца з маленства,— адказаў цару Тэзей.

Гэтую спрэчку са страхам слухала дачка Мінаса, прыгажуня Арыядна. Яна адразу вылучыла Тэзея сярод афінскіх юнакоў — ён

зачараваў яе сваёй мужнай прыгажосцю, бясстрашшам і тым, як горача заступіўся за сваю сяброўку. Арыядна ў глыбіні душы пазайздросціла дзяўчыне, яна адразу пакахала афінскага царэвіча. Таму яна вельмі спалохалася, калі Мінас сказаў, злосна ўсміхаючыся:

— Калі гэта праўда, што Пасейдон — твой заступнік, няхай ён паможа табе дастаць гэты пярсцёнак.

І, зняўшы з пальца залаты пярсцёнак, цар шпурнуў яго ў мора.

Тэзей смела кінуўся ў хвалі.

Крык замёр на вуснах Арыядны, палонныя ад страху прытуліліся адно да аднаго. Усе моўчкі пазіралі на мора і чакалі. Мінаў час, і ніхто не спадзяваўся, што юнак можа вярнуцца.

Але, як толькі хвалі сышліся над галавою Тэзея, слуга Пасейдона Трытон узяў юнака на рукі і занёс яго ў палац марскога цара. Там Пасейдон і царыца мораў Амфітрыта ласкава сустрэлі юнага героя і аддалі яму пярсцёнак Мінаса. І зноў Трытон падхапіў яго і вынес з глыбіні мора на бераг, дзе людзі чакалі яго.

І вось ужо Тэзей стаіць перад Мінасам і падае яму пярсцёнак. Раднымі воклічамі віталі афіняне

свайго смелага таварыша, і дзівіліся з гэтага здарэння крыцяне, што сабраліся на беразе.

Цар Мінас загадаў зараз жа завесці палонных у Лабірынт і замкнуць там.

Тады Арыядна вырашыла выратаваць Тэзея.

Калі сямёра дзяўчат і сямёра юнакоў падышлі да Лабірынта, Арыядна была ўжо там, каля ўвахода. Яна дала Тэзею клубок нітак і навучыла, каб ён замацаваў канец ніткі каля ўвахода і, ідучы па Лабірынце, паціхеньку размотваў клубок, каб нітка цягнулася праз усе пакоі, па якіх яны пройдуць. Тэзей паслухаўся, увайшоў у Лабірынт, і таварышы з ім; размотваючы клубок, яны дайшлі да логава Мінатаўра. Убачыўшы страшыдлу з бычынай галавой, юнакі і дзяўчаты спалохаліся і адступілі назад. Тэзей адзін пайшоў да яго і ў жорсткім паядынку перамог і забіў Мінатаўра, на вялікую радасць сваіх таварышаў, якія, прыціснуўшыся ад страху да сцяны, чакалі зыходу барацьбы. Убачыўшы забітага Мінатаўра, юнакі гучна ўславілі Тэзея, а дзяўчаты абдымалі адна адну і плакалі ад радасці. Потым, трымаючыся за вы-

ратавальную нітку Арыядны, яны вярнуліся назад па заблытаных хадах і шчасліва выбраліся з Лабірынта.

Арыядна чакала іх каля ўвахода. Выратаваныя рушылі ў гавань, дзе стаяў іх карабель, і Арыядна пайшла за імі. Яна ведала, што бацька яе вельмі загневаецца, калі даведаецца пра перамогу Тэзея і ўцёкі афінян, і пашле за імі ў пагоню караблі. Яна навучыла Тэзея і яго таварышаў прарэзаць днішчы крыцкіх караблёў, што стаялі ў гавані. Потым афіняне падняліся на свой карабель і як мага хутчэй адплылі ад Крыта. І Арыядна плыла разам з імі — яна спадзявалася, што, у знак удзячнасці за выратаванне, Тэзей пакахае яе.

Па дарозе яны прычалілі да вострава На́ксасу, каб пераначаваць на зямлі і добра адпачыць, таму што даўно яны не спалі і стаміліся.

Уночы ў сне Тэзей пачуў голас, які загадваў яму пакінуць Арыядну на востраве і плыць дадому без яе. Тэзей пабудзіў таварышаў, і яны ціхенька адплылі ад Наксаса, калі Арыядна яшчэ спала.

Прачнуўшыся раніцай, Арыядна ўбачыла, што афіняне кінулі яе. З крыкам пабегла яна да мора і

прагна глядзела ўдалячынь і клікала Тэзея. У роспачы ўпала яна на зямлю і прасіла сабе смерці ў багоў.

Але замест чорнага бога смерці да яе з'явіўся вясёлы бог Дыяніс, супакоіў і суцешыў яе. Яна стала яго жонкай і бяссмертнай багіняй. Дыяніс падарыў Арыядне вянок з зіхатлівых зорак. Арыядна паклала свой вянок на неба,— і там ён зіхаціць і свеціць сярод іншых сузор'яў.

Тэзей вяртаўся ў Афіны. Спадарожны вецер надзімаў чорныя ветразі, і марскія хвалі падганялі карабель. Тэзей сядзеў на борце карабля і пазіраў туды, дзе ў тумане знік Наксас, і раскаянне мучыла яго. Ён успамінаў прыгажосць Арыядны і яе дапамогу яму і яго таварышам, калі вывела іх з Лабірынта,— і каяўся, што пакінуў яе адну на востраве. Змрочныя думкі ахапілі Тэзея, і ён забыўся на абяцанне, якое даў бацьку: не памяняў чорныя ветразі на белыя на сваім караблі.

Эгей чакаў, калі вернецца сын. Стары цар сядзеў на беразе і глядзеў на мора: ці не мільгануць ўдалечыні белыя ветразі, ці не вяртаецца дадому любы сын. На-

рэшце далёка ў моры паказаліся ветразі, але — чорныя. Чорныя ветразі — знак смерці!

У вачах Эгея пацямнела. Ад роспачы кінуўся ён з высокага берага ў мора.

Калі карабель падплыў да горада і Тэзей урачыста сышоў на родную зямлю, яго стрэла вестка пра смерць бацькі. Гэта была помста. І сумным быў пачатак яго царавання ў Афінах.

А мора, у якім бедны бацька знайшоў сабе магілу, з таго часу людзі называюць Эгейскім.



# АРФЕЙ І ЭЎРЫДЫКА

На поўначы Грэцыі, у Фракіі, жыў спявак Арфей. Ён валодаў цудоўным дарам, і слава пра яго ішла па ўсёй зямлі грэкаў.

За спевы пакахала яго прыгажуня Эўрыдыка. Яна стала яго жонкай. Ды шчасце іх было нядоўгае. Аднойчы Арфей і Эўрыдыка былі ў лесе. Арфей іграў на сваёй сям囊струннай кіфары і спяваў. Эўрыдыка збірала кветкі на палянах. Непрыкметна яна адышлася далёка ад мужа, у лясны гушчар. Раптам ёй здалося, што нехта бяжыць па лесе, ломячы сукі, гоніцца за ёю, яна перапалохалася і, кінуўшы кветкі, пабегла назад, да Арфея. Яна бегла, не разбіраючы дарогі, па густой траве і раптам ступіла ў змяінае гняздо. Змяя абвілася вакол яе нагі і ўкусіла. Ад болю і страху Эўрыдыка моцна закрычала і ўпала на траву. Арфей пачуў здалёку жаласны крык жонкі і

пабег да яе. Але ён паспеў толькі ўбачыць, як паміж дрэў мільганулі вялікія чорныя крылы,— гэта Смерць панесла Эўрыдыку ў падземнае царства.

Вялікае было гора Арфея. Ён пайшоў ад людзей і цэлыя дні блукаў адзін па лясах, у песнях выказваючы свой смутак. І такую сілу мелі гэтыя жалобныя песні, што дрэвы сыходзілі са сваіх месцаў і акружалі спевака. Звяры вылазілі з нораў, птушкі пакідалі свае гнёзды, камяні пасоўваліся бліжэй да Арфея. І ўсе слухалі, як ён тужыў па сваёй каханай.

Міналі ночы і дні, а Арфей не мог суцешыцца, гора яго ўсё расло і расло.

— Не, не магу я жыць без Эўрыдыкі,— гаварыў ён.— Не мілая мне зямля без яе. Няхай і мяне возьме Смерць, няхай хоць у падземным царстве буду разам з маёй каханай!

Але Смерць не прыходзіла. І Арфей парашыў сам пайсці ў царства мёртвых.

Доўга шукаў ён уваход у падземнае царства і, нарэшце, у глыбокай пячоры Тэна́ра знайшоў ручаёк, які цёк у падземную раку Сцікс. Па рэчышчы гэтага ручая Арфей спусціўся глыбока пад зямлю і

дайшоў да берага Сцікса. За гэтай ракой пачыналася царства мёртвых.

Чорныя і глыбокія воды Сцікса, і страшна жывому ступіць у іх. Стогны і ціхі плач чуў Арфей за сваёй спіной — гэта цені нябожчыкаў чакалі, як і ён, пераправы ў краіну, адкуль ніхто не вяртаецца.

Вось ад процілеглага берага адплыла лодка: перавозчык мёртвых, Харо́н, плыў па новых прышэльцаў. Моўчкі прычаліў Харон да берага, і цені пакорліва селі ў лодку. Арфей пачаў прасіць Харона:

— Перавязі і мяне на той бераг!

Але Харон адказаў:

— Толькі мёртвых перавожу я на той бераг. Калі ты памрэш, я прыеду па цябе!

— Злітуйся! — прасіў і маліў Арфей.— Я не хачу больш жыць! Мне цяжка аднаму заставацца на зямлі! Я хачу ўбачыць маю Эўрыдыку!

Суровы перавозчык адпіхнуў яго і ўжо хацеў быў адплыць ад берага, але жаласна зазвінелі струны кіфары, і Арфей заспяваў. Пад змрочнымі скляпеннямі Аіда пачуліся сумныя і пяшчотныя гукі. Спыніліся халодныя хвалі Сцікса,

і сам Харон, абапёршыся на вясло, заслухаўся песняй. Арфей сеў у лодку, і Харон паслухмяна перавёз яго на другі бераг. Пачуўшы дзівосную песню жывога пра неўміручае каханне, з усіх бакоў зляталіся цені мёртвых. Смела крочыў Арфей па маўклівым царстве мёртвых, і ніхто не спыніў яго.

Так дайшоў ён да палаца ўладара падземнага царства — Аіда і апынуўся ў вялікай і змрочнай зале. Высока на залатым троне сядзеў грозны Аі́д і побач з ім яго прыгожая царыца Персефо́на.

З бліскучым мячом у руцэ, у чорным плашчы, з вялізнымі чорнымі крыламі, стаяў за спіной Аіда бог Смерці, а вакол тоўпіліся яго прыслужніцы, Ке́ры, што лятаюць на полі бою і адбіраюць жыццё ў воінаў. Збоку ад трона сядзелі суровыя суддзі падземнага царства і судзілі нябожчыкаў за іх зямныя справы.

У цёмных кутках залы, за калонамі, хаваліся Успаміны. У іх у руках былі бізуны з жывых змей, і яны балюча кусалі тых, што сталі перад судом.

Шмат розных страшыдлаў убачыў Арфей у царстве мёртвых: Ла́мію, якая выкрадае начамі ма-

ленькіх дзяцей у маці, і жудасную Эмпу́зу з аслінымі нагамі, якая п'е кроў людзей, і лютых сцігійскіх сабак.

Толькі малодшы брат бога Смерці — бог Сну, юны Гі́пнас, прыгожы і вясёлы, лятаў па зале на сваіх лёгкіх крылах, перамешваючы ў сярэбраным розе сонны напітак, перад якім ніхто на зямлі не можа ўстаяць,— нават сам вялікі Грамавержац Зеўс засынае, калі Гіпнас пырскае ў яго сваім зеллем.

Аід грозна зірнуў на Арфея, і ўсе навокал задрыжалі.

Але спявак наблізіўся да трона змрочнага ўладара і заспяваў з яшчэ большым натхненнем: ён спяваў пра сваё каханне да Эўрыдыкі.

Не дыхаючы слухала песню Персефона, і слёзы каціліся з яе прыгожых вачэй. Грозны Аід схіліў галаву на грудзі і задумаўся. Бог Смерці апусціў уніз свой бліскучы меч.

Спявак змоўк, і доўга панавала маўчанне. Тады ўзняў галаву Аід і спытаў:

— Што ты шукаеш, спявак, у царстве мёртвых? Скажы, чаго ты хочаш? І я абяцаю табе выканаць тваю просьбу.

Арфей сказаў Аіду:

— Уладар! Кароткае наша жыццё на зямлі, і ўсіх нас калі-небудзь спатыкае Смерць і прыводзіць у тваё царства,— ніхто са смяротных не можа пазбегнуць яе. Але я, жывы, сам прыйшоў у царства мёртвых прасіць цябе: вярні мне маю Эўрыдыку! Яна яшчэ так мала пражыла на зямлі, так мала паспела пацешыцца, так нядоўга кахала... Адпусці, уладар, яе на зямлю! Дай ёй яшчэ крыху пажыць на свеце, дай ёй пацешыцца сонцам, цяплом і святлом і зялянінай палёў, вясновай прыгажосцю лясоў і маім каханнем. Усё роўна ж пасля яна вернецца да цябе!

Так гаварыў Арфей і прасіў Персефону:

— Заступіся за мяне, прыгажуня царыца! Ты ж ведаеш, якое цудоўнае жыццё на зямлі! Памажы мне вярнуць маю Эўрыдыку!

— Няхай будзе так, як ты просіш! — сказаў Аід Арфею.— Я вярну табе Эўрыдыку. Ты можаш забраць яе з сабою наверх, на светлую зямлю. Але ты павінен паабяцаць...

— Усё, што загадаеш! — усклікнуў Арфей.— Я гатовы на ўсё, каб толькі ўбачыць зноў маю Эўрыдыку!

— Ты не павінен бачыць яе, пакуль не выйдзеш на святло,— сказаў Аід.— Вяртайся на зямлю і вядай: следам за табою будзе ісці Эўрыдыка. Але не азірайся назад і не спрабуй паглядзець на яе. Азірнешся — страціш яе навекі!

І Аід загадаў, каб Эўрыдыка ішла следам за Арфеем.

Шпарка пакрочыў Арфей да выхада з царства мёртвых. Нібы дух, мінуў ён краіну Смерці, і цень Эўрыдыкі ішоў за ім. Яны селі ў лодку Харона, і ён моўчкі перавёз іх зноў на бераг жыцця. Крутая камяністая сцяжынка вяла ўгору, на зямлю.

Павольна падымаўся па ёй Арфей. Цёмна і ціха было вакол і ціха было ў яго за спіной, быццам ніхто і не ішоў за ім. Толькі сэрца яго стукала: «Эўрыдыка! Эўрыдыка!»

Нарэшце наперадзе пачало святлець, выхад на зямлю быў ужо блізка. І чым бліжэй быў выхад, тым святлей рабілася наперадзе, і вось ужо ўсё стала добра відаць навокал.

Трывога сціснула сэрца Арфея: ці тут Эўрыдыка? Ці ідзе за ім? Забыўшы пра ўсё на свеце, Арфей спыніўся і азірнуўся.

— Дзе ты, Эўрыдыка? Дай зірнуць на цябе!

На імгненне, зусім блізка, ён убачыў мілы цень, дарагі, прыгожы твар... Але толькі на імгненне. Адразу ж цень Эўрыдыкі адляцеў, знік, растаў у цемры.

— Эўрыдыка?!

З роспачным крыкам пачаў Арфей спускацца назад па сцяжынцы і зноў прыйшоў на бераг чорнага Сцікса і клікаў перавозчыка. Але дарэмна ён прасіў і клікаў: ніхто не адазваўся на яго просьбы. Доўга сядзеў Арфей на беразе Сцікса адзін і чакаў. Ён не дачакаўся нікога.

Давялося яму вярнуцца на зямлю і жыць. Але ён не мог забыць сваю адзіную каханую — Эўрыдыку, і памяць пра яе жыла ў яго сэрцы і ў яго песнях.



# ГЕРАКЛ

## *Нараджэнне героя*

Калі надышоў час нарадзіцца Гераклу, багі на Алімпе балявалі. Уладар свету Зеўс абвясціў багам, што ў гэты час на зямлі сярод людзей народзіцца найвялікшы герой, які будзе адораны магутнай сілай, здзейсніць вялікія подзвігі і праславіцца на ўсе часы.

— Ён будзе маім любімым сынам, я дам яму ўладу над усёй Грэцыяй, і іншыя героі будуць служыць яму,— сказаў Зеўс.

Гера, жонка Зеўса, пакрыўдзілася, што такую сілу і славу Зеўс хоча даць сыну звычайнай жанчыны. Адразу ж у яе ўзнік хітры план. Яна сказала Зеўсу:

— Пакляніся, што той, хто першы народзіцца ў гэтую часіну, атрымае ўладу над усёй Грэцыяй і астатнія героі павінны будуць служыць яму!

Калі б Зеўс зірнуў у гэты момант на багіню, ён зразумеў бы, што яна задумала нядобрае, бо ні ў кога на зямлі і на небе не магло быць таямніц ад уладара свету ні ў справах, ні ў думках. Але ў гэтую хвіліну Ата, багіня падману, адцягнула яго ўвагу, і Зеўс не прыкмеціў хітрасці Геры. Ён падняў сваю залатую чашу і сказаў:

— Клянуся! Так будзе!

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзве жанчыны на зямлі чакалі ў той час дзіцяці: у Фівах царыца Алкме́на, якую Зеўс выбраў у маці вялікаму герою, і ў Мікенах аргоская царыца. Тады Гера сваёй уладай затрымала нараджэнне аднаго і паскорыла з'яўленне другога. І вось спачатку нарадзіўся на свет з жаласным плачам кволы і слабы аргоскі царэвіч Еўрысфе́й, а пасля яго ўжо сын Алкмены. Як толькі нарадзіўся Еўрысфей, Гера сказала Зеўсу:

— Радуйся, Грамавержац: толькі што на зямлі нарадзіўся той, каго ты абяцаў зрабіць гаспадаром усёй Грэцыі!

Зеўс зразумеў, што Гера змахлявала. Твар яго пацямнеў ад гневу. Усе змоўклі, са страхам чакаючы грозы.

Тады Грамавержац накінуўся на багіню падману Ату. Ён скінуў яе з Алімпа на зямлю і назаўсёды забараніў з'яўляцца сярод багоў у яго светлым нябесным доме. З таго часу багіня падману жыве сярод людзей на зямлі і сваімі злоснымі выдумкамі сее варожасць паміж імі.

Потым уладар свету звярнуўся да Геры і сказаў ёй:

— Я ведаю, цяпер ты будзеш праследаваць сына Алкмены, рабіць усё, каб ён трапіў у небяспеку. Але ён вытрымае ўсе выпрабаванні, пераадолее ўсе перашкоды, а твае намаганні перашкодзіць яму толькі павялічаць яго славу. Ён здзейсніць подзвігі, якіх да яго не здзяйсняў ніхто, і даб'ецца шмат слаўных перамог. А калі ён закончыць свае зямныя справы, я падыму яго на Алімп, і ты сама прымеш яго ў круг бессмяротных. І няхай будзе імя яму Геракл, што азначае «праслаўлены Герай».

## *Гера хоча загубіць Геракла*

Амфітрыён, цар Фіў, вярнуўся з паходу і адпачываў пасля ваенных бітваў. Востры меч яго мірна вісеў на сцяне над пасцеллю. А ў

глыбокім шчыце яго, нібы ў калысцы, спалі Іфікл і Гера́кл, два маленькія сыны Алкмены. Яна заслала шчыт кучаравай шаўкавістай шкурай белага барана, каб дзецям было мякка спаць.

Была цёплая ціхая ноч, і месяц свяціў у прачыненыя дзверы. Усе ў палацы спалі — і цар, і царыца, і служанкі, і воіны цара.

Апоўначы пачуўся шоргат на каменных плітах тэрасы, і ў спальню з саду ціха ўпаўзлі дзве змяі,— ліхія пасланніцы багіні Геры. Яны прапаўзлі міма пасцелі царыцы і гайданулі шчыт, у якім спалі дзеці. Круглыя змяіныя галовы ўзняліся над краем шчыта, змяіныя вочы загарэліся, увесь пакой напоўніўся зеленаватым святлом. З лёгкім свістам пагойдваліся змеі над дзецьмі, высунуўшы доўгія чорныя языкі.

Хлопчыкі раптам прачнуліся. Іфікл спужаўся, закрычаў, перакуліўся цераз край шчыта і папоўз з плачам, клічучы маці. Змеі не кранулі яго; яны запаўзлі ў калыску і абвілі маленькага Геракла халоднымі слізкімі кольцамі. Геракл засмяяўся, працягнуў рукі, нібы гуляючы, і схапіў змей за шыі. Злосныя гадзіны звіваліся ў

руках дзіцяці, стараючыся ўкусіць яго, а ён усё мацней сціскаў іх, пакуль не задушыў зусім. Сціхла сіпенне, і святло ў змяіных вачах пагасла.

Плач Іфікла пабудзіў Алкмену. Яна спалохана ўсхапілася з пасцелі і паклікала на дапамогу. Амфітрыён схапіў свой меч і прыбег у пакой царыцы. Збегліся служанкі і воіны, прынеслі свяцільні і пры святле іх усе ўбачылі: маленькі Геракл ляжаў жывы і здаровы ў сваёй калысцы, трымаючы ў руках задушаных змей, і смяяўся.

Гераклу было ў той час не больш года.

## *Выбар дарогі*

Калі Геракл крыху падрос, Амфітрыён пачаў вучыць яго ўсяму, што павінен ведаць і ўмець воін: страляць з лука, валодаць мячом, кідаць кап'ё, біцца кулакамі, кіраваць коньмі. Цар хацеў таксама, каб Геракл вырас адукаваным чалавекам і разбіраўся ў навуках і мастацтвах. Але Геракл не паказваў стараннасці ў гэтым, і настаўнікі часта былі незадаволены ім.

Неяк раз настаўнік музыкі ўзлаваўся на Геракла і стукнуў яго. Хлопчык раз'юшыўся і з такой сі-

лай шпурнуў у настаўніка кіфараю, што той упаў мёртвы.

Амфітрыён разгневаўся і загадаў судзіць Геракла. Але юны Геракл горача абараняўся:

— Ён першы стукнуў мяне! На ўдар трэба адказваць ударам. Я не хацеў забіваць яго. Я не ведаў, што мой удар такі моцны.

Тады Амфітрыён пачаў асцерагацца сілы Геракла і, каб ён не натварыў яшчэ чаго-небудзь, паслаў яго ў горы пасвіць статкі. Там на высокіх горных лугах і ў лесе Геракл правёў некалькі гадоў, жыў як звычайны пастух, працаваў і загартоўваў сваё здароўе.

У дваццаць гадоў ён вярнуўся ў Фівы, гатовы да подзвігаў. Ён прагнуў выпрабаваць свае сілы.

Тым часам у Мікенах, у Аргосе, нарос царэвіч Еўрысфей, які нарадзіўся раней за Геракла. Ні прыгажосцю, ні розумам, ні сілаю, ні адвагай ён не вызначаўся. Але паводле слова Зеўса, якое выкрала Гера, ён павінен быў атрымаць уладу над усёй Грэцыяй, уладу, якая прызначалася Гераклу. І сам Геракл павінен быў служыць яму.

Калі Еўрысфею споўнілася дваццаць гадоў, памёр яго бацька, і Еўрысфей стаў царом у Мікенах.

Яго заступніца Гера адразу ж загадала яму паклікаць да сябе Геракла.

Пасланец Еўрысфея выправіўся ў Фівы і сказаў, што яго гаспадар патрабуе, каб Геракл, выконваючы волю багоў, з'явіўся служыць яму. Дванаццаць разоў павінен Геракл зрабіць тое, што загадае яму Еўрысфей,— тады цар абяцае адпусціць яго.

Сябры Геракла, з якімі ён бавіў час, угаворвалі яго не слухацца Еўрысфея і застацца ў Фівах.

Геракл ведаў, што сілаю нельга прымусіць яго служыць Еўрысфею, але думка пра подзвігі, якія мог ён здзейсніць, хвалявала яго.

У глыбокім роздуме вяртаўся ён аднойчы дадому і на дарозе ўбачыў дзвюх жанчын, якія ішлі да яго з двух бакоў.

Адна была ў простым белым адзенні, гладка прычасаная. Вочы яе пазіралі ясна і прама, усе рухі яе былі спакойныя і свабодныя. Не спяшаючыся, з пачуццём уласнай годнасці ішла яна да Геракла і, спыніўшыся перад ім, па-сяброўску прывітала яго.

Другая жанчына была вельмі прыгожая. Яркае, квяцістае ўбранне падкрэслівала яе прыгажосць.

Твар яе быў набелены і нарумянены, бровы падведзены і губы падмаляваныя, валасы заплецены ў мноства тоненькіх косак і адмыслова ўкладзены на галаве. На голых руках жанчыны звінелі залатыя бранзалеты, і яна ішла, быццам танцавала.

Лёгка падбегла яна да Геракла, узяла яго ласкава за рукі і сказала, зазіраючы ў вочы:

— Ты сумняваешся і думаеш, твар твой змрочны, бровы насуплены... Кінь, не тлумі галаву думамі, паглядзі на мяне і хутчэй усміхніся! Жыццё цудоўнае, і ў ім столькі радасцей! Жыві для сябе. Жыццё — вясёлае свята, і адзіны клопат у ім — мець як мага больш асалод: смачна есці, соладка спаць, прыгожа апранацца і нічым не стамляць сябе. Шчаслівы той, хто можа пражыць усё жыццё, як госць на вяселлі: без турбот і клопатаў! Хадзем са мною, і ты будзеш шчаслівы!

Так гаварыла прыгажуня і цягнула Геракла за сабой.

Зачараваны, збянтэжаны, ён ужо быў гатовы ісці за ёю, але другая жанчына спыніла яго.

— Пасаромейся! — сказала яна з пагардаю.— Багі далі табе такую

магутную сілу, а ты хочаш гультайнічаць і баляваць, карыстаючыся працай іншых, як бездапаможнае дзіця. Дужы распараджаецца жыццём, як гаспадар, ён сам робіць яго цудоўным — ён змагаецца з ліхам і ачышчае зямлю ад страшыдлаў і ворагаў. Сіла і розум даюцца чалавеку для барацьбы. Чым дужэйшы чалавек, тым цяжэйшае яго жыццё.

— Чуеш? — сказала Гераклу, смеючыся, красуня.— Пайдзі за ёю, і ты не спазнаеш радасці, не будзеш мець ні спакою, ні адпачынку.

— Адпачываць добра пасля работы,— запярэчыла першая жанчына,— спакой чалавеку дае спакойнае сумленне. А самая вялікая радасць для героя — ведаць, што ты зрабіў штосьці добрае і не дарэмна жыў на зямлі. Паслухайся мяне, дружа! Сёння свята, заўтра баль — і душа чалавека апустошаецца, нудота завалодвае домам. Калі многа яды, прападае жаданне есці, ад лішняга сну чалавек робіцца слабым і вялым. Незайздросны лёс чалавека, які ўсё жыццё толькі госць на чужым банкеце. Калі-небудзь скончыцца баль, слугі праганяць тых, што заседзеліся, і ён застанецца адзін на бяз-

людней вуліцы. Каму ён будзе патрэбны, хто паклапоціцца пра яго? Толькі той, хто папрацаваў у маладыя гады, заслужыць пашану і бесклапотную старасць. У бітвах, у паходах, у далёкіх дарогах, у адзінаборстве са страшыдламі, у бітвах з ворагамі шчасце героя!

Пры гэтых словах твар жанчыны засвяціўся незвычайным святлом, і Геракл, пакінуўшы красуню, ускліннуў:

— Багіня, я іду за табою!

У тое ж імгненне зніклі з вачэй абедзве жанчыны, нават слядоў не засталося на пыльнай дарозе, быццам усё гэта прымроілася Гераклу. Але цяпер ён весела і рашуча заспяшаўся дадому — ён ведаў, што яму рабіць.

— Я іду ў Мікены,— сказаў ён раніцай родным і сябрам.— Я павінен выканаць волю багоў і здзейсніць дванаццаць подзвігаў, якія патрабуе ад мяне Еўрысфей.

Ніхто не асмеліўся яго адгаворваць, а самы блізкі яго сябар, Іалай, падахвоціўся ісці з ім.

Геракл зрабіў сабе лук і стрэлы, выламаў у лесе моцную дубінку і падаўся да цара Еўрысфея.

ПЕРШЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл забівае Нямейскага льва*

Ужо даўно жыхары Нямеі скардзіліся, што нельга пасвіць жывёлу на лугах каля лесу, што ў лесе ні прайсці ні праехаць і нават у дамах нельга спаць спакойна: вялізны леў жыў у Нямейскім лесе, і кожны дзень то авечка з чарады, то дзіця, то мірны падарожнік з дарогі знікалі бясследна.

Нават смелы воін з мячом і шчытом не выходзіў жывым з Нямейскага лесу, таму што зброя была бяссільная супраць лютага льва — ні кап'ё, ні стрэлы не маглі прабіць яго шкуру, і нават востры меч не мог пашкодзіць яму.

— Гора нам! — гаварылі нямейскія сяляне.— Хутка ўвесь наш край будзе спустошаны.

Багіня Гера, заступніца цара Еўрысфея, навучыла яго, каб ён загадаў Гераклу забіць Нямейскага льва.

Геракл прыйшоў у Нямею і пачаў распытваць людзей, што жылі каля лесу, ці далёка логава льва і як яго знайсці.

Але ніхто не хацеў паказаць яму

дарогу, ніхто не адважваўся ісці разам з ім.

— Леў сам знойдзе цябе, варта табе толькі зайсці ў лес,— гаварылі людзі і з жалем пазіралі на маладога героя — яны не верылі, што ён зможа перамагчы страшнага звера.

Геракл адзін падаўся ў лес. Высокія дрэвы абступілі яго з усіх бакоў і здзіўлена гайдалі вяршалінамі, кусты чапляліся за яго, каб затрымаць, птушкі крычалі, каб напалохаць яго, але ён ішоў уперад і шукаў на зямлі сляды звера.

Ішоў ён нядоўга і раптам пачуў непадалёку глухі рык ільва і пайшоў проста на яго. Леў таксама пачуў ворага і зароў так, што ўвесь лес задрыжаў. Леў зрабіў некалькі скачкоў і апынуўся перад Гераклам. Велічна спыніўся ён насупраць героя, злосна зіркаючы вачыма, б'ючы сябе хвастом па баках і дзіка равучы. Геракл не разгубіўся, хутка падняў лук і пусціў стралу проста ў вока льву. Леў злосна матнуў галавой і лапай змахнуў стралу, нібы саломінку. Потым прысеў, як кот, і скочыў, узняўшы лапу, каб раздушыць смельчака. Геракл ухіліўся і цяжкай дубінкай з усяе сілы стукнуў ільва па калматай галаве. Але дубінка адско-

чыла, не зрабіўшы нават драпіны льву, і выпала з рук Геракла. Леў зноў паматаў галавой, працягла і моцна пазяхнуў і раптам, нібыта яму ўсё абрыдла, павярнуўся, пабег назад у глыб лесу і знік.

Геракл пайшоў за ім.

Неўзабаве ён убачыў уваход у пячору. Геракл кінуў лук і стрэлы і зайшоў у пячору. Там было цёмна, і Геракл вобмацкам прабіраўся наперад. Раптам леў скочыў яму на грудзі і хацеў разарваць яго, але Геракл схапіў звера абедзвюма рукамі за горла, сціснуў яго шыю, быццам жалезнымі абцугамі, і задушыў.

Леў быў такі вялікі і цяжкі, што Геракл не мог падняць яго.

Тады ён злупіў з льва шкуру разам з галавою, надзеў яе на сябе і пайшоў у Мікены.

Людзі з крыкам разбягаліся, убачыўшы Геракла з ільвінай галавою на плячах. Сам цар Еўрысфей схаваўся ад яго ў далёкі куток палаца.

— Вось я прынёс цару шкуру Нямейскага льва,— сказаў Геракл.

Але палахлівы Еўрысфей баяўся нават мёртвага льва і не адважыўся зірнуць на яго шкуру.

— Няхай Геракл возьме яе сабе,— загадаў цар.

— Дзякуй,— сказаў Геракл і забраў ільвіную шкуру з сабою.

Ён пачаў насіць яе замест плашча, і яна добра ўкрывала яго, бо ні меч, ні стрэлы не маглі прабіць яе.

Захутаўшыся ў шкуру Нямейскага льва, Геракл падаўся выконваць другі загад цара Еўрысфея.

## ДРУГІ ПОДЗВІГ

## *Геракл знішчае Лярнейскую гідру*

Непадалёку ад Аргоса распасціралася вялікае Лярнейскае балота. Чыстая і светлая крынічка выцякала тут з-пад зямлі, ды слабы ручаёк не мог прабіцца да ракі або мора і расцякаўся наўкол у нізіне. Вада застойвалася, зарастала мохам і балотнымі травамі, і вялізная даліна ператварылася ў балота. Яркая зеляніна, што заўсёды ўкрывала балота, вабіла да сябе стомленага падарожніка, але як толькі ён ступаў на зялёны лужок, з сыканнем і свістам выпаўзала з дрыгвы дзевяцігаловая пачвара— гідра. Яна абвівалася сваім змяіным хвастом вакол чалавека, зацягвала ў балота і прагна з'ядала.

Увечары, калі гідра, наеўшыся,

засынала, ядавітае дыханне яе дзевяці пашчаў ахутвала туманам балота і атручвала паветра. Той, хто дыхаў гэтым паветрам, занядужваў, доўга хварэў і паміраў. Таму людзі баяліся набліжацца да балота і сяліцца каля гэтай страшнай мясціны.

І вось цар Еўрысфей загадаў Гераклу знішчыць Лярнейскую гідру.

Геракл выправіўся ў Лерну на калясніцы, якой кіраваў яго сябар Іала́й. Калі яны даехалі да балота, Геракл пакінуў Іалая з калясніцай каля дарогі, а сам запаліў факел і смела рушыў на балота.

Гідра тым часам была сытая і драма́ла. Геракл пачаў падпальваць канцы стрэл факелам і пускаць іх у гідру. Расцвяліўшы гідру, ён прымусіў яе выпаўзці з балота. Халодным слізкім хвастом яна абвіла левую нагу Геракла, і ўсе дзевяць галоў засіпелі вакол яго. Геракл шчыльней захутаўся ў ільвіную шкуру, якая надзейна ахоўвала яго і ад звярыных зубоў і змяінага джала, дастаў меч і пачаў сячы адну за адной страшныя галовы гідры.

Але як толькі сцякала з раны чорная кроў, на месцы адсечанай галавы вырасталі дзве другія,

яшчэ больш злосныя, яшчэ страшнейшыя. Неўзабаве Геракла акружалі, быццам жывы куст, сіпучыя галовы, і ўсе яны цягнуліся да яго, разяўляючы крывавыя пашчы.

Ён не мог скрануцца з месца — нага яго была ў кальцы змяінага хваста, рука стамілася сячы ўсё новыя і новыя галовы гідры. Раптам ён адчуў боль у левай назе і, нахіліўшыся, убачыў рака, які клюшняй учапіўся ў яго пятку.

Геракл засмяяўся:

— Двое супраць аднаго? Гэта несумленна! Бой няроўны. Цяпер і я маю права паклікаць сябра на падмогу!

І ён паклікаў Іалая, які чакаў яго ля калясніцы.

Геракл аддаў яму факел і загадаў паліць агнём рану як толькі меч адсячэ галаву гідры. І там, дзе пёк агонь, ужо не выраслі новыя галовы. Неўзабаве апошняя галава гідры пакацілася ў балота. Але яна не хацела паміраць нават пасля таго, як была адсечана, і, лежачы на траве ў крыві, зыркала злоснымі вачамі і раз'юшана разяўляла пашчу. Гераклу давялося вынесці яе з балота і закапаць у зямлю, каб яна не нарабіла каму шкоды.

У чорнай крыві Лярнейскай гід-

ры Геракл намачыў канцы сваіх стрэл, і яны сталі смяртэльнымі — нішто не магло вылечыць таго, у каго пацэліла такая страла.

## ТРЭЦІ ПОДЗВІГ

## *Геракл даганяе Керынейскую лань*

Дрывасекі, што збіралі ламачча ў лесе на схілах Арка́дскіх гор, убачылі неяк раз прыгажуню лань з залатымі рагамі. Яна стаяла высока на крутой скале і, згледзеўшы людзей, памчалася, нібы віхор, толькі галіны дрэў загайдаліся ды зазвінелі на камянях сярэбраныя капытцы.

Чуткі пра дзівосную лань разышліся па паселішчах, і шмат паляўнічых не раз выпраўляліся шукаць яе. Але, убачыўшы іх, лань імгненна знікала ў нагорным лесе. Лес быў густы, непралазны, гара здавалася непрыступнай для людзей. Паляўнічыя вярталіся ў даліну і гаварылі, што на свеце не знойдзецца чалавека, які мог бы высачыць і дагнаць гэтую лань.

Трэці раз паклікаў Еўрысфей Геракла і загадаў яму злавіць Кerýнейскую лань і жывую прывесці ў Мікены.

Геракл са сваім сябрам Іалаем падаліся ў Аркадскія горы. Ён пакінуў дома свой лук і атрутныя стрэлы, а замест зброі ўзяў з сабою сякеру, рыдлёўку і нож.

Яны працярэблівалі прасекі ў густым лесе, рабілі прыступкі на камяністых кручах, пратоптвалі сцежкі ў высокай траве. Спілаваўшы дрэвы, героі перакідвалі іх, нібы масты, цераз ручаі і горныя рэчкі і звязвалі галінамі і моцнай карой. Па гэтых вісячых мастах яны пераходзілі прорвы, па прыступках і сцежках падымаліся ўсё вышэй і вышэй у горы. Часам лань на імгненне з'яўлялася перад імі: паблісквaючы залатымі рагамі і нібы вабячы іх за сабою, яна тут жа знікала. Геракл з Іалаем цярпліва ішлі па яе слядах. Яны перабіраліся цераз горныя вяршыні, пакрытыя снегам, спускаліся ў цясніны, пераходзілі ўброд ручаі і рэчкі. Снежныя лавіны, спадаючы з кручаў, асыпалі іх ледзяным пылам, над імі грукаталі горныя навальніцы. Яны сустракалі ўсход сонца на вяршынях, начавалі ў дуплах вялікіх дрэў і ў густым хмызняку, сілкаваліся ягадамі, арэхамі, салодкімі каранямі, пілі ваду з горных крыніц—і нястомна,

ґадзіна за гадзінай, усё вышэй падымаліся ў непрыступныя горы.

Лань усё часцей паказвалася перад імі, быццам пачынала прывыкаць да людзей,— яна спынялася і пазірала на іх без боязі і ўцякала ўжо не так імкліва, як раней. Цяпер забіць яе было б лёгка, але ж яны павінны былі злавіць яе жывой — такі быў загад цара.

Нарэшце ім удалося загнаць лань на вяршыню і абысці. На вузкай сцяжынцы над прорвай яе чакаў Іалай. Убачыўшы яго, лань павярнулася, хацела бегчы назад, але тут Геракл перагарадзіў ёй дарогу. Яна замітусілася, не ведаючы, куды ўцякаць, і раптам замерла на краі прорвы. У тое ж імгненне Геракл накінуў ёй на рогі сплеценую з паўзучых раслін вяроўку і моцна трымаў, пакуль не прыйшоў Іалай. Удвух яны павялі злоўленую лань па пракладзенай ужо дарозе ўніз з гары.

Раптам на павароце сцяжынкі, у лесе, перад імі з'явілася прыгожая жанчына ў кароткім адзенні, з паляўнічым лукам у руках, з калчанам за плячамі. Твар яе быў разгневаны, вочы палалі. Уладным узмахам рукі яна спыніла паляўнічых, а лань адразу ж падбегла

да яе і пачала церціся галавой аб яе рукі.

Маладая паляўнічая пагладзіла яе і сказала:

— О прагныя людзі! Хіба вам мала дарог і палёў у шырокіх далінах там, унізе? Навошта вы парушылі цішыню майго горнага лесу? Ніколі яшчэ не ступала тут нага чалавека... Цяпер вы паказалі дарогу сюды людзям, і на маіх запаведных вышынях загрукаюць сякеры і рыдлёўкі, а стрэлы паляўнічых распудзяць маіх звяроў і птушак. Навошта вы зрабілі гэта?

Геракл пазнаў дачку Зеўса — Артэміду-паляўнічую.

— Не гневайся на нас, багіня! — адказаў ён ёй.— Мы прыйшлі сюды па волі твайго бацькі, вялікага Зеўса, які паслаў нас служыць людзям. Мы праклалі дарогу на вяршыні, таму што зямля ўся павінна стаць набыткам чалавека. Але толькі смелыя і дужыя змогуць падымацца сюды. Няхай адважныя пойдуць за намі на гэтыя вяршыні. Тут цудоўна, тут вольна дыхаецца, і адсюль далёка відаць усё вакол. Тут чыстае паветра, і сам чалавек, падняўшыся сюды, робіцца чысцейшым і лепшым.

Позірк багіні палагаднеў. Яна па-

гладзіла прыгожую лань і сказала ёй:

— Ідзі! Ты хутка вернешся да мяне! — і схавалася паміж дрэвамі.

Геракл з Іалаем пайшлі далей, ведучы за сабою злоўленую лань.

Дарога назад была хутчэйшая і лягчэйшая, бо яны ішлі па сваіх слядах і зарубках. Неўзабаве яны спусціліся да падножжа гары. Геракл рушыў у Мікены і прывёў у палац Еўрысфея цудоўную лань.

Але цар, баючыся Артэміды, аддаў лань Гераклу.

Геракл успомніў словы красуні паляўнічай: «Ты вернешся да мяне!» Каб выканаць пажаданне багіні, ён вярнуў лань Артэмідзе.

## ЧАЦВЁРТЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл вызваляе зямлю ад Эрыманфскага вепра*

І ўлетку і ўвосень, калі на палетках даспявае гародніна і збажына, сяляне, што жылі каля гары Эрыма́нф, з трывогай аглядалі раніцай свае палі і кожны раз то тут, то там знаходзілі сляды страшнага спусташэння: зямля была парытая, пасевы здратаваны, вырваны з коранем і шмат пладоў, патрэбных

людзям, без карысці былі падушаны нейкай грубай сілай.

Людзі гаварылі, што ў дубовым гаі на горных схілах жыве дзікі вепр, які ўночы спускаецца з гары і спусташае палеткі. Але такія страшныя былі яго іклы і капыты, што ніхто не адважваўся пайсці ў лес і забіць злоснага драпежніка.

Цар Еўрысфей загадаў Гераклу ўпаляваць Эрымапфскага вепра.

Геракл здзівіўся, што дагэтуль не знайшлося ў паселішчы меткага стралка, таму што забіць дзіка не так ужо цяжка, і адзін пайшоў на Эрыманфскую гару.

Узбіраючыся ўгору па крутым схіле, ён пачуў конскі тупат, і раптам міма яго прамчаўся ў даліну табун дзікіх коней. Але, прыгледзеўшыся добра, Геракл убачыў, што гэта былі не коні. Нібы палова чалавека зраслася з палавінай каня — на конскім крыжы чалавечае тулава з галавою і рукамі. Здалёк здавалася, што раз'юшаныя коннікі імчацца на шпарканогіх конях.

— Кентаўры! — усклікнуў Геракл.

Нібы бура, пранесліся кентаўры паўз Геракла, крышачы ўсё на сваім шляху, і памчаліся проста ў па-

селішча, што знаходзілася пад гарой.

«Гэта страшней за дзікага вепра!» — падумаў Геракл і зразумеў цяпер, чаму Еўрысфей паслаў яго сюды на паляванне.

Але ён не спалохаўся і пайшоў далей. Неўзабаве ён убачыў пячору, перад якой стаяў на варце малады кентаўр.

Геракл смела падышоў да яго і сказаў дружалюбна:

— Я царскі паляўнічы. Цар загадаў мне высачыць і забіць дзікага вепра, што жыве тут на гары. Ці не падкажаш мне, як яго знайсці?

Кентаўр ахвотна адказаў:

— Гэты вепр дапякае і нам, жыхарам гэтага лесу. Праз яго я павінен ахоўваць пячору, каб ён не спустошыў наша жытло. Добра, калі ты заб'еш яго. Я пакажу табе яго след. Але спачатку будзь маім госцем.

І ён прывёў Геракла ў пячору, расклаў агонь і пачаў частаваць паляўнічага мясам і садавінай.

— Я прывык ежу запіваць віном,— сказаў Геракл,— ды ў вас, мабыць, няма віна.

— Як гэта няма! — закрычаў з пахвальбой кентаўр.— Сам Дыяніс, бог віна і весялосці, падарыў нам

нядаўна цэлую бочку маладога віна. Так і быць, пачастую цябе, але няхай пра гэта не ведаюць мае таварышы.

І ён адкрыў запаветную бочку, зачэрпнуў віна сабе і Гераклу, і яны пілі і весяліліся.

Раптам каля пячоры пачуўся стук капытоў — пах віна прывабіў кентаўраў, і яны прымчаліся, змучаныя смагай. Дазнаўшыся, што нехта чужы прабраўся ў іх жытло і п'е іхняе віно, яны ўзлаваліся і з дзікім крыкам акружылі пячору.

Геракл з глыбіні пячоры пачаў кідаць у іх палаючыя галавешкі. Спалохаўшыся агню, кентаўры ўцяклі.

Геракл выйшаў з пячоры і хацеў падацца ў лес. Але кентаўры пільнавалі яго і, убачыўшы, што ён адзін, падбадзёрыліся і напалі на яго зноў. Тады ён пачаў пускаць у іх стрэлы, атручаныя крывёю Лярнейскай гідры, і адзін за адным яны мёртвыя падалі на зямлю.

Тут з пячоры выйшаў малады кентаўр, які частаваў Геракла, і са здзіўленнем пазіраў на мёртвых кентаўраў, што ляжалі вакол.

— Як! Гэты маленькі кавалачак дрэва забівае насмерць? — спытаў ён.— Гэтая тонкая палачка можа

забіць? — І ён выцягнуў стралу з цела аднаго з кентаўраў.

— Асцярожна! — крыкнуў Геракл.

Ды ўжо было позна: кентаўр выпусціў стралу з рук, і яна ўпілася яму ў нагу. Кентаўр нават не войкнуў, не крыкнуў і ўпаў мёртвы.

Геракл перанёс целы забітых кентаўраў у пячору, заваліў яе вялікім каменем, нібы грабніцу, і пайшоў далей.

Ён лёгка высачыў у лесе вепра, параніў яго ў нагу, звязаў і, ускінуўшы сабе на плечы, вярнуўся ў Мікены і прыйшоў у палац Еўрысфея.

Дзікі вепр вішчаў на ўвесь палац, і цар Еўрысфей са страху залез у вялікі медны чан для вады, што стаяў на двары.

Геракл усё ж знайшоў яго. Але як толькі цар убачыў над краем чана страшную морду вепра, ён замахаў рукамі і закрычаў тонкім голасам:

— Ідзі, ідзі адсюль хутчэй!

Геракл пасмяяўся, пайшоў і загадаў закалоць вепра і наладзіць баль для народа.

## ПЯТЫ ПОДЗВІГ

### *Геракл разганяе Сцімфальскіх птушак*

Бог вайны Арэс меў чараду дзікіх птушак. Кіпцюры і дзюбы ў іх былі жалезныя, а медныя пёры іх, выпадаючы з цела, ляцелі ўніз і забівалі, як стрэлы. Птушкі жылі ў гарах, у цясніне каля Сцімфальскага возера. Вада з гэтага возера цякла ў падземную пячору, а адтуль струменіў ручай у глыб зямлі, у царства мёртвых. У возеры нішто не жыло, і яго акружалі голыя скалы. Толькі на востраве пасярод возера рос высокі трыснёг, і тут жылі птушкі бога вайны. Яны харчаваліся чалавечынай і адсюль вылятали чарадой на крывавае паляванне.

Цар Еўрысфей загадаў Гераклу ісці да Сцімфальскага возера і прагнаць птушак Арэса далёка за мора.

Геракл паклікаў з сабой Іалая, узяў свой лук з атручанымі стрэламі і падаўся ў горы. Доўга яны блукалі па кручах, нарэшце прыйшлі ў цясніну, на дне якой ляжала Сцімфальскае возера.

Пуста і дзіка было вакол: голыя камяні, ні травы, ні кветак, ні дрэў.

Вецер не маршчыніў гладкую паверхню возера, рыбка не плёскалася ў вадзе, яшчаркі не грэліся на сонейку паміж камянёў. Мёртвая цішыня панавала над возерам. Геракл і Іалай селі на камяні каля самай вады і пазіралі на нерухомае возера. Сум агарнуў іх, стома скавала цела, стала цяжка дыхаць.

— Са мной творыцца штосьці нядобрае,— сказаў Геракл сябру,— цяжка дыхаць, сэрца замірае, і лук выпадае з маіх рук...

Чарадзейны сон агарнуў іх.

Тады з астраўка пасярод возера са звонам узняліся адна за адной вялізныя чырвоныя птушкі. Яны кружыліся над возерам, над цяснінай і неўзабаве, нібы хмара, закрылі ўсё неба, і барвовы цень лёг на ваду.

Раптам штосьці ўпала каля Геракла, загрымела на камені, і ён прачнуўся.

Каля яго ног ляжала звычайная драўляная бразготка, якой сяляне праганяюць птушак з садоў і агародаў. Яе паслала герою багіня Афіна, мудрая настаўніца і памочніца людзей.

Геракл усхапіўся, пабудзіў Іалая, даў яму бразготку і загадаў трэсці яе. Яна бразгацела і грымела

над сонным возерам, і горнае рэха ў сто разоў памнажала шум. Напалоханыя незвычайнымі гукамі, птушкі мітусіліся і разляталіся ў розныя бакі, губляючы пёры. Геракл схапіў лук і пускаў у птушак стралу за стралой. Падбітыя птушкі падалі ў возера, і цяжкае апярэнне цягнула іх на дно.

Накрыўшыся шкурай Нямейскага льва, якую не маглі прабіць ніякія стрэлы, Геракл бязлітасна страляў страшных Сцімфальскіх птушак. Шмат іх патанула ў чорных водах возера. Цяпер яно ўжо не было спакойнае: вада ў ім бурліла і віравала; белая пара падымалася да неба.

Птушкі, што засталіся жывымі, узняліся высока над возерам, сабраліся ў чараду і паляцелі прэч. Яны пакінулі Грэцыю і апусціліся далёка-далёка, на бязлюдным востраве ў бурным моры.

— Хутчэй хадзем адсюль,— сказаў Геракл,— пакуль нас не ахапіў смяротэльны сон.— І, кінуўшы ў ваду бразготку Афіны, сябры пайшлі ад мёртвага возера.

## ШОСТЫ ПОДЗВІГ

### *Геракл ачышчае Аўгіевы канюшні*

Невыказна багаты быў цар Эліды Аўгій. Незлічоныя статкі яго валоў і авечак і табуны коней пасвіліся ва ўрадлівай даліне ракі Алфея. Трыста коней з белымі як снег нагамі меў ён; дзвесце — чырвоных, нібы медзь; дванаццаць коней былі белыя, нібы лебедзі, а ў аднаго з іх блішчала на лбе зорка.

Аўгій столькі меў скаціны, што слугі не паспявалі чысціць хлявы і канюшні, і за шмат гадоў у кожнай з іх назбіралася гною пад самы дах.

Цар Еўрысфей хацеў удружыць Аўгію і зняважыць Геракла. І ён паслаў героя чысціць Аўгіевы канюшні.

Геракл прыйшоў у Эліду і сказаў Аўгію:

— Калі ты аддасі мне дзесятую частку сваіх коней, я вычышчу канюшні за адзін дзень.

Аўгій засмяяўся: ён думаў, што іх зусім немагчыма вычысціць. Таму цар сказаў Гераклу:

— Я аддам табе дзесятую частку маіх коней, калі ты за адзін дзень вычысціш мае канюшні.

Геракл папрасіў, каб яму далі рыдлёўку, і Аўгій, усміхаючыся, загадаў прынесці яе герою.

— Доўга ж табе давядзецца працаваць гэтай рыдлёўкай! — сказаў ён.

— Адзін толькі дзень,— адказаў Геракл і пайшоў на бераг Алфея. Паўдня ён старанна працаваў рыдлёўкай. Зямля ляцела з-пад яе і лажылася высокім валам. Геракл запрудзіў рэчышча ракі і адвёў яе проста ў царскія канюшні. Воды Алфея імкліва пацяклі праз іх, зносячы з сабою гной, стойлы, кармушкі, нават струхлелыя сцены.

Абапёршыся на рыдлёўку, Геракл глядзеў, як добра працавала рака, і толькі зрэдку памагаў ёй. Да захаду сонца канюшні былі чыстыя.

— Не гневайся, цар,— сказаў Геракл,— я ачысціў твае канюшні не толькі ад гною, але і ад усяго, што струхлела і даўно згніло. Я зрабіў больш, чым абяцаў. Цяпер ты аддай мне тое, што абяцаў.

Але сквапны Аўгій заспрачаўся, пачаў сварыцца і адмовіўся аддаць Гераклу коней. Тады Геракл зазлаваў, пачаў з Аўгіем біцца і забіў яго.

## СЁМЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл утаймоўвае Крыцкага быка*

Шэсць разоў прыходзіў ужо Геракл у Мікены і па загаду цара Еўрысфея выпраўляўся ў небяспечную і цяжкую дарогу. Шэсць подзвігаў ён здзейсніў: забіў Нямейскага льва, знішчыў Лярнейскую гідру, злавіў Керынейскую лань, прынёс у Мікены Эрыманфскага вепра, прагнаў з Грэцыі Сцімфальскіх птушак і за адзін дзень вычысціў Аўгіевы канюшні. І вось зноў паклікаў героя Еўрысфей і загадаў яму плыць цераз мора на востраў Крыт і ўтаймаваць раз'юшанага быка, з якім ніхто з крыцян не мог справіцца.

Гэты бык прыплыў калісьці да вострава Крыта, і крыцкі цар Мінас абяцаў богу мораў Пасейдону прынесці быка яму ў ахвяру. Але беласнежны бык з залатымі рагамі так спадабаўся Мінасу, што цар пакінуў яго сабе, а Пасейдону ахвяраваў другога быка. Бог мора ўгневаўся і наслаў шаленства на прыгожага быка. Бык ашалеў, вырваўся са стойла, уцёк з царскага двара і стаў гразой усяго вострава.

Геракл падаўся на бераг мора, сеў на фінікійскі карабель і паплыў на Крыт. Наляцела бура, доўга насіла карабель па бурным моры, нарэшце разбіла яго, і хвалі выкінулі абломкі на бераг чужой, незнаёмай краіны.

Тут раслі дрэвы, падобныя на пучкі вялікіх пёраў: проста са ствала выходзілі тоўстыя сцяблíны, на якіх гайдаліся лісты, такія вялізныя, што пад кожным мог схавацца чалавек.

Геракл і яго спадарожнікі, што засталіся жывыя, адпачылі ў засені гэтых дрэў і пайшлі ўздоўж берага па гарачым жоўтым пяску. Доўга ішлі яны і нарэшце прыйшлі ў вялікі горад каля мора. У гавані было шмат караблёў, а на беразе стаялі высокія палацы і храмы.

— Вы ў Егіпце,— сказалі ім жыхары, якія спяшаліся ў храм на свята,— а кіруе Егіптам вялікі Бусірыс, магутны і грозны цар.

Геракл папрасіў адвесці яго да цара. Але толькі чужаземцы ўвайшлі ў палац, як іх схапілі і звязалі ланцугамі.

— Вы прыйшлі якраз у пару,— сказаў ім жорсткі ўладар Егіпта,— сёння свята ў Егіпце, і я ахвярую вас багам.

— Багі не прымаюць чалавечых ахвяр,— адказаў Геракл.

Але Бузірыс, смеючыся, адказаў:

— А вось мы праверым! Ты першы будзеш заколаты жрацом — паглядзім, ці пажадаюць цябе багі.— І загадаў адвесці палонных у вялікі храм пасярод горада.

Геракла і яго спадарожнікаў прывялі ў храм, які быў поўны народу. Але як толькі запалілі агонь каля ахвярніка і стары жрэц узяў свой востры і доўгі нож, Геракл з усяе сілы напружыўся і разарваў ланцуг, якім быў звязаны. Абрыўкам ланцуга ён ударыў жраца і забіў яго. Потым у гневе расшпурляў царскую варту, адабраў у Бузірыса меч і закалоў ліхога цара. Уражаныя сілай героя, егіпцяне не адважыліся падступіцца да яго. Геракл вызваліў сваіх таварышаў і заспяшаўся з імі на бераг мора. Там яны знайшлі карабель, які мог завезці іх на Крыт.

Хутка даплылі яны цяпер да берагоў Крыта. Геракл развітаўся са сваімі спадарожнікамі і адзін пайшоў па беразе. Неўзабаве ён убачыў шалёнага быка. Бразгаючы парваным ланцугом і злосна равучы, з налітымі крывёю вачамі, імчаўся на яго бык. Белая пена пада-

ла камякамі з разяўленай пашчы. Геракл схаваўся за дрэва і чакаў. Бык спыніўся, нагнуў галаву і пачаў рыць нагамі зямлю. Тады Геракл схапіў канец ланцуга, які цягнуўся па зямлі, і ўскочыў быку на спіну. Бык задрыжаў, пачаў брыкацца, стараючыся скінуць са спіны нечаканую ношу. Але Геракл абвіў яго рогі ланцугом і моцна трымаў яго. Бык жаласна зароў і памчаўся да мора. Ён кінуўся ў хвалі і паплыў. У моры шаленства пакінула яго, ён зрабіўся ціхмяны, нібы рабочы вол на полі, і паслухмяна прыплыў з Гераклам у Мікены.

Геракл сам адвёў яго на скацінны двор цара Еўрысфея. Але пастухі баяліся злоснага быка і не маглі ўтрымаць яго ў хляве. Ён уцёк ад іх і пачаў гуляць па ўсім Пелапане́се, нікому не даючыся ў рукі, пакуль яго не злавіў сябар Геракла, Тэзей, і не прынёс у ахвяру багам.

## ВОСЬМЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл здабывае коней Дыямеда*

Зноў загадаў Еўрысфей Гераклу выпраўляцца ў дарогу — здабываць коней фракійскага цара Дыяме́да.

Першы раз за ўвесь час сваёй службы цару Геракл разгубіўся. Ён не спалохаўся ні льва, ні гідры, ні доўгіх вандровак, ні цяжкай работы, ні крывавай бітвы, ні людскога каварства. Але заданне, якое цяпер даваў яму цар, здавалася яму ганебным для героя. Раздабыць у другога тое, што яму належыць па праву,— значыць, адабраць сілай або ўкрасці тайком, а Геракл не хацеў быць ні разбойнікам, ні злодзеем.

З цяжарам на сэрцы выправіўся ён у дарогу, парашыўшы, што шлях да Фракіі доўгі і ён паспее абдумаць, што яму рабіць.

Ён прыйшоў у Фесалію, у горад Феры, дзе караваў шчаслівы і добры цар Адмет, любімец бога Апалона.

Бог святла калісьці ў гневе ўчыніў забойства, і за гэта Зеўс загадаў яму цэлы год служыць чалавеку.

Апалон прыйшоў да цара Адмета і цэлы год пасвіў яго статкі. І шчасце прыйшло да Адмета: шчодра радзіла зямля, статкі яго памнажаліся без ліку, мір і дастатак панавалі ў Ферах і ў палацы цара.

Але самым дарагім з усіх багаццяў была маладая царыца Алкеста,

якую Апалон памог Адмету ўзяць сабе за жонку.

Бацька яе, Пелій, аб'явіў, што аддасць дачку толькі за таго, хто зможа запрэгчы ў калясніцу льва і мядзведзя разам і на іх прыедзе па нявесту. Апалон утаймаваў дзікіх звяроў, яны паслухмяна ўпрэгліся ў калясніцу Адмета і адвезлі яго да бацькі Алкесты. Алкеста стала жонкай Адмета; яны жылі шчасліва і мелі дзяцей.

Калі скончыўся час службы Апалона ў Адмета, бог святла, адыходзячы, захацеў зрабіць яшчэ штонебудзь добрае для цара. Па жаданню Апалона, Мо́йры, багіні лёсу, якія трымалі ў сваіх руках нітку кожнага чалавечага жыцця, згадзіліся адтэрмінаваць Адмету смерць, калі ў гэты час знойдзецца чалавек, які захоча яго замяніць.

І вось надышла часіна, калі ўладар царства мёртвых паслаў па Адмета Смерць, і Мойры спыталі:

— Хто хоча замяніць Адмета і памерці замест яго?

Ні сябры, ні верныя слугі, ні нават старыя бацькі цара — ніхто не хацеў развітвацца са сваім жыццём і паміраць за другога. Тады прыгажуня Алкеста сказала мужу:

— Мой мілы, я з радасцю пайду

за цябе на смерць. Усё роўна мне не жыць без цябе на свеце. Няхай памру я, жыві ты. Толькі аб адным прашу цябе: не прыводзь у наш дом другой жанчыны. Абяцай мне гэта, і я памру спакойна.

Адмет паабяцаў ніколі не прыводзіць у дом другой жонкі.

Алкеста прыбралася ва ўсё чыстае, легла на пасцель і пачала чакаць Смерць, якая павінна была прыляцець па яе. Моўчкі стаялі вакол яе дзеці, муж і ўсе блізкія і з сумам пазіралі на яе апошні раз. І вось чорны цень упаў на твар царыцы, вочы яе заплюшчыліся, замерла дыханне.

Плач і стогны запоўнілі палац і горад. Жыхары Фер у знак жалобы астрыглі коратка свае валасы і грывы сваіх коней. За горадам пабудавалі прыгожую грабніцу і прызначылі дзень пахавання.

Якраз у гэты дзень Геракл, нічога не ведаючы, прыйшоў у палац Адмета і, як падарожнік, папрасіўся пераначаваць. Адмет, хоць і смуткаваў па жонцы, не мог адмовіць Гераклу ў гасціннасці; ласкава сустрэў яго, загадаў падрыхтаваць яму пакой у палацы і добра пачаставаць героя, а сам пайшоў на пахаванне Алкесты.

Стомлены Геракл адпачываў у чыстым пакоі, а падсілкаваўшыся і выпіўшы віна, развесяліўся, пачаў шумець, а потым зазлаваў, што няма з кім яму пагутарыць.

Стары слуга, які прыслужваў яму за сталом, глядзеў на яго сурова і не мог прыхаваць свой смутак.

Геракла ўзлаваў яго змрочны выгляд.

— Чаго ты пазіраеш на мяне гэтак строга? — спытаў ён. — Твой гаспадар сустрэў мяне як сябра, а добры слуга павінен прывеціць таго, каго ласкава сустракае гаспадар. Падыдзі да мяне, выпі са мной, каб мне не было сумна піць аднаму. Выпі са мной і развесяліся!

Але стары слуга з дакорам паківаў галавой і сказаў:

— Нядобра смяяцца і піць, калі ў доме гора.

— Гора? — здзівіўся Геракл. — А што здарылася ў гэтым шчаслівым доме?

І пачуў у адказ, што жонка Адмета памерла і якраз цяпер яе хаваюць.

Загарэлася сэрца Геракла, і ён адважыўся на небывалы подзвіг.

Хутка накінуў ён на плечы свой плашч і заспяшаўся на магілу ца-

рыцы. Там ён спыніўся воддаль і пачаў чакаць.

Калі родныя, сябры і землякі беднай Алкесты разышліся ў жалобе, Геракл падышоў да магілы і схаваўся за дрэвам каля ўвахода. І як толькі Смерць з'явілася на магілу, каб аднесці ў падземнае царства бледны цень нябожчыцы, Геракл выйшаў з засады і рынуўся ў бой са Смерцю. З такой сілай напаў ён на яе, што Смерць разгубілася і ўпусціла свой меч на зямлю. Геракл схапіў Смерць за плечы сваімі магутнымі рукамі і не адпускаў да таго часу, пакуль яна не згадзілася аддаць яму Алкесту.

Адзінока сядзеў Адмет у сваім апусцелым доме. Раптам шумна і весела ўвайшоў Геракл, ведучы за сабою жанчыну пад доўгім пакрывалам.

— Годзе, Адмет,— сказаў Геракл цару,— чаго табе сумаваць? Суцешся! Паглядзі, я прывёў табе гэту жанчыну. Я адваяваў яе для цябе ў баі. Яна суцешыць цябе. Развесяліся ж і будзь шчаслівы, як і раней.

Адмет адказаў Гераклу:

— Я абяцаў сваёй каханай, што ніколі не вазьму сабе другую жонку. Вывядзі гэту жанчыну з майго

дома. Я не хачу глядзець на яе.

Тады Геракл зняў з жанчыны пакрывала, і Адмет убачыў Алкесту. Ён кінуўся да яе і спыніўся, бо страшна спалохаўся: яна ж памерла, ён сам пахаваў яе!

— Не бойся,— супакоіў яго Геракл.— Яна жывая, Смерць аддала яе мне, і я вяртаю табе тваю сяброўку. Жывіце і будзьце шчаслівыя доўгія гады!

Радасныя, цар і царыца абняліся.

Дзівосная чутка імгненна разнеслася па палацы і па ўсім горадзе. Весялосць змяніла жалобу, жыхары Фер надзелі на свае астрыжаныя галовы ўборы, прыгожа аздобілі сваіх коней і наладзілі вясёлы баль.

А Геракл ужо крочыў далей, задаволены, што яму ўдалося прынесці радасць людзям.

Ён дайшоў да мора, сеў на карабель і паплыў у Фракію. Маракі, якія вандруюць па ўсім свеце і ведаюць больш за іншых людзей, расказалі Гераклу ўсё, што ведалі пра фракійскага цара Дыямеда і яго коней.

Гэты цар быў жорсткі і люты і не любіў чужаземцаў. Ён пабудаваў каля мора крэпасць з высокімі мураванымі сценамі і глыбокім ро-

вам вакол яе і жыў там сярод воінаў, якія ахоўвалі яго.

Калі незнаёмы карабель паказваўся каля берага, Дыямед пасылаў сваіх слуг, каб яны запрасілі прыезджых у госці. Ён частаваў іх у сваім палацы і выхваляўся сваімі конямі.

Чацвёра дзікіх коней меў цар Дыямед. Ніхто не мог ні ўтаймаваць іх, ні запрэгчы ў каляснiцу. Жалезнымі ланцугамі яны былі прыкуты да стойлаў. Агонь і дым вылятапі з іх пашчаў. Кармілі іх не травою, не збажынай, а свежай чалавечынай. Але пра гэта Дыямед не гаварыў гасцям. Калі ж госці выказвалі жаданне паглядзець на дзівосных коней, цар заводзіў чужаземцаў у канюшню і аддаваў іх на з'ядзенне сваім любімцам.

Вось што расказалі маракі Гераклу.

Цяпер Геракл больш не вагаўся: пазбавіць свет ад страшыдлаў коней і ад жорсткага цара Дыямеда было справай, вартай героя.

Калі Геракл падплываў да Фракійскай зямлі, ён сабраў самых смелых маракоў і, сышоўшы на бераг, загадаў цару Дыямеду аддаць яму коней. Цар паслаў супраць Геракла войска, але Геракл з тава-

рышамі перамог яго, забіў Дыямеда і кінуў цела ліхога цара яго коням-людаедам.

Потым ён пагрузіў коней на карабель і завёз цару Еўрысфею. Еўрысфей загадаў адвесці коней у Аркадзію, у Лікейскія горы, і выпусціць у лесе. Там іх разарвалі дзікія звяры.

## ДЗЕВЯТЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл заваёўвае пояс Іпаліты*

У цара Еўрысфея была юная дачка Адмета. Аднойчы яна прыйшла да бацькі і сказала:

— Кажуць, далёка на ўсходзе ёсць царства, дзе пануюць жанчыны. Там жанчына — галава і апора сям'і і гаспадыня ў доме. Жанчыны там кіруюць гарадамі, гандлююць і судзяць, прыносяць у храмах ахвяры багам і вырашаюць дзяржаўныя справы. Узброеныя, імчацца яны на баявых конях і храбра ваюють з ворагам. Яны называюць сябе амазонкамі, пагарджаюць мужчынамі і выхваляюцца, што яны непераможныя. Мая заступніца Гера, жонка вялікага Зеўса, адкрыла мне, што ўся сіла ваяўнічых амазонак у скураным

поясе, які бог вайны Арэс падарыў царыцы Іпаліце. Пакуль яна носіць гэты пояс, ніхто не можа перамагчы яе, а з ёю і ўсіх амазонак. Бацька! Я хачу быць непераможнай, як гэта жанчына, і цараваць, ні з кім не дзелячы ўлады. Я хачу мець пояс Іпаліты!

Цар загадаў Гераклу выпраўляцца ў краіну амазонак і здабыць пояс царыцы Іпаліты.

Царства амазонак было далёка на ўсходзе, у Малой Азіі.

Геракл падрыхтаваў у дарогу карабель, паклікаў з сабой сваіх верных сяброў — Іалая, афінскага царэвіча Тэзея і іншых. Яны паплылі той дарогай, якая была адкрыта для ўсіх мараплаўцаў адважнымі арганаўтамі. Доўга плылі яны; нарэшце па бурным Чорным моры прыплылі да ракі Фермадонту, падняліся па цячэнню і даплылі да горада Феміскіры — сталіцы амазонак.

Каля варот стаялі ўзброеныя жанчыны, скураныя шлемы былі на іх, кароткія кашулі і вузкія доўгія штаны да шчыкалатак; цераз плячо ў амазонак віселі шчыты ў выглядзе месяца, а ў руках яны трымалі сякеркі з двума лязамі.

Варта не пусціла Геракла з та-

варышамі ў горад, і яны размясціліся на беразе ракі, што цякла паблізу гарадской сцяны.

Неўзабаве да іх прымчалася на цудоўным кані сама царыца Іпаліта з атрадам узброеных дзяўчат. Сярод іх была прыгажуня Анціо́па, любімая сяброўка царыцы.

Яе прыгажосць аднойчы ледзь не загубіла амазонак. Даўно задумвалі амазонкі паход у Грэцыю і вось, пераплыўшы мора, апынуліся пад сценамі Афін і асадзілі цудоўны горад. Афіняне не былі гатовыя да асады. Яшчэ крыху, і горад быў бы ў руках ваяўнічых жанчын. Але сярод афінскіх воінаў Анціопа ўбачыла царэвіча Тэзея, і ў сэрцы яе загарэлася любоў да яго. Тэзею таксама спадабалася красуня амазонка; з яе дапамогай ён спадзяваўся выратаваць родны горад.

Уночы ён пракраўся ўпотай у лагер амазонак — пабачыцца з Анціопай.

Іпаліта здагадалася пра каханне сваёй сяброўкі і, баючыся здрады, загадала зараз жа зняць асаду. Амазонкі адступілі ад Афін і вярнуліся ў сваю краіну. Анціопа была разлучана з Тэзеем. Але яна не забыла яго і цяпер, убачыўшы сярод таварышаў Геракла Тэзея, узрада-

валася, і каханне яе разгарэлася яшчэ мацней.

Тэзей таксама пазнаў яе, непрыкметна наблізіўся і дамовіўся пра тайнае спатканне.

Іпаліта спытала Геракла, чаго ён прыехаў у краіну амазонак.

Геракл адказаў, што яму загадалі здабыць пояс царыцы Іпаліты.

— Толькі ў баі, толькі пераможцу аддам я свой пояс,— сказала царыца.— Біцеся з намі, і, калі вы пераможаце, пояс будзе ваш!

Так гаварыла Іпаліта, ведаючы, што, пакуль пояс на ёй, ніхто не зможа яе перамагчы.

Абодва атрады разышліся — рыхтавацца да бою. Амазонкі памчаліся ў горад, а спадарожнікі Геракла размясціліся на начлег у сваім лагеры каля ракі.

Тэзея ўсю ноч не было ў лагеры. Раніцай ён прыйшоў радасны і аддаў Гераклу чароўны пояс.

— Як? Ты здабыў яго без бою? — здзівіўся Геракл.

— Анціопа выкрала яго ў царыцы і аддала мне,— сказаў Тэзей.

Геракл не захацеў карыстацца здабычай, якая дасталася яму падманам, і бой пачаўся.

На дзікім кані, шпаркім, як вецер, памчалася на Геракла Аэла,

самая імклівая з амазонак. Геракл на ўсім скаку выбіў у яе з рук сякеру. Яна кінулася наўцёкі, спадзеючыся выратавацца, але страла Геракла дагнала яе. І другая амазонка, Пратóя, якая перамагала ў паядынках сем разоў, была забіта Гераклам.

Тады выйшлі наперад тры дзяўчыны, тры самыя лепшыя паляўнічыя, якіх сама багіня Артэміда брала з сабою на паляванне,— не было ім роўных у кіданні кап'я. Адначасова ўсе разам імкліва кінулі яны свае коп'і, але не пацэлілі. А кап'ё Геракла прасвістала і перабіла ўсім тром рукі.

Страх ахапіў амазонак, калі яны ўбачылі паражэнне сваіх лепшых ваяўніц.

— Гора нам! Гора нам! Дзе ж твой пояс, Іпаліта? — крычалі яны.

Туга сціснула сэрца Анціопы, якая здрадзіла сваім сяброўкам, але ў натоўпе элінаў яна ўбачыла Тэзея, і каханне перамагло ў ёй усе іншыя пачуцці.

Грозная з выгляду, з роспаччу ў сэрцы, выехала наперад Іпаліта. Толькі яна і Анціопа ведалі пра тое, што чароўны пояс — у руках ворага. Ваяўнічая царыца не хацела выдаваць сяброўку злосным амазон-

кам і парашыла лепш памерці ў баі.

Адважна кідалася яна ў самыя небяспечныя месцы бітвы, сама шукала смерці і раптам упала, смяротна параненая стралою.

Убачыўшы гібель сваёй царыцы, амазонкі разгубіліся і кінуліся наўцёкі. Шмат іх узялі ў палон, другіх забілі.

Палонную Анціопу Геракл аддаў Тэзею, і яна стала яго жонкай.

Геракл вярнуўся ў Мікены, да цара Еўрысфея, і прынёс яму пояс Іпаліты. Цар падарыў яго сваёй дачцэ, але яна не асмелілася насіць яго і аддала ў храм Геры як дар багіні.

## ДЗЕСЯТЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл адкрывае дарогу да акіяна і прыганяе статак Герыёна*

Усё далей і далей пасылаў Еўрысфей Геракла. Калі герой вярнуўся з паходу ў краіну амазонак, цар загадаў яму выпраўляцца на край свету, туды, дзе заходзіць сонца, на Барвовы востраў пасярод акіяна, дзе трохгаловы велікан Герыён пасвіў статак чырвоных валоў. Цар

загадаў Гераклу прыгнаць гэтых валоў у Мікены. Геракл рушыў на захад сонца.

Ён прайшоў усю Грэцыю, доўга ішоў па розных краінах, адпачываў каля ракі Эрыдана, нарэшце падышоў да высокіх гор на краі зямлі і пачаў шукаць выхад да акіяна. Але горы стаялі суцэльнай непраходнай сцяной. Тады Геракл расхістаў дзве вялізныя скалы і рассунуў іх. Паміж імі хлынула вада, і гэта была вада акіяна.

Мора, якое знаходзілася пасярод зямлі і якое людзі называюць Міжземным, злучылася з акіянам. І дагэтуль стаяць там на берагах праліва, нібы два каменныя вартаўнікі, вялізныя Гераклавы Слупы.

Геракл перайшоў цераз горы і ўбачыў бязмежныя воды акіяна, які абмывае зямлю. Там недзе пасярод акіяна ляжаў востраў — мэта яго падарожжа. Але як пераплыць акіян?

Цэлы дзень прасядзеў Геракл на беразе ў роздуме. Спёка пачала спадаць, і вецер з акіяна прынёс на зямлю халадок. Раптам Геракл убачыў зусім блізка вогненную калясніцу Геліёса — бога Сонца, якая спускалася з неба. Геракл усхапіўся і пачаў чакаць, калі Геліёс на-

блізіцца. Залатым бляскам зазіхацела паверхня акіяна, і каля самага берага Геракл убачыў залатую, круглую, як чаша, лодку, у якой бог Сонца, злезшы з калясніцы, кожны дзень пераплываў акіян. Геракл падумаў, што Геліёс можа перавезці яго ў сваёй лодцы на Барвовы востраў. Герой замахаў рукою і закрычаў Геліёсу:

— Стой, а то буду страляць!

І, напяўшы цеціву лука, чакаў. Але Геліёс нават не азірнуўся.

Геракл раззлаваўся і крыкнуў зноў:

— Я не жартую, і стрэлы мае смяртэльныя!

Геліёс усміхнуўся, спыніў каня і, сышоўшы з калясніцы, спытаў:

— Хто ты, дзёрзкі, і чаго ты хочаш ад мяне?

Геракл расказаў яму, хто ён, куды і чаго яго паслалі, і папрасіў Геліёса перавезці яго на Барвовы востраў.

Усміхаючыся, Геліёс узяў героя ў сваю залатую лодку. Яны паплылі па акіяне. Начная цемра ахутала зямлю. Кожны вечар пераплываў Геліёс з захаду на ўсход, каб, адпачыўшы ў сваім высокім доме на ўсходзе, зноў з'явіцца раніцай на небе.

Калі яны былі ўжо на палове дарогі, штосьці зачарнелася ўперадзе — гэта быў жаданы востраў.

Залатая лодка падплыла да берага. Геракл выйшаў, і бог Сонца пажадаў герою ўдачы.

Было цёмна, і Геракл нічога не мог разгледзець вакол сябе. Задаволены, што дабраўся да мэты, ён лёг пад скалою, закруціўся ў ільвіную шкуру і моцна заснуў.

Раніцай яго пабудзіў зацяты і хрыплы брэх. Геракл прачнуўся і ўбачыў, што ён сапраўды на Барвовым востраве: усё вакол было чырвонага колеру — скалы, пясок, дарога. І нават вялізны кудлаты сабака, што стаяў перад героем і злосна брахаў на яго, таксама быў барвова-чырвоны.

Убачыўшы, што Геракл прачнуўся, сабака рынуўся на яго, учапіўся зубамі за яго вопратку. Геракл схапіў сваю дубінку, аперазаў сабаку, і той, заенчыўшы, пакаціўся на зямлю з прабітай галавою.

Тады з ускраіны барвовага лесу, што рос непадалёку, прыбег вялізны чырвоны пастух: і валасы, і барада, і твар, і вопратка — усё ў яго было чырвонае. Размахваючы сваім кіем і крычучы незразумелыя словы, ён накінуўся на Геракла.

Геракл спрытна выбіў кій з рук чырвонага пастуха і так моцна выцяў велікана ў грудзі, што той расцягнуўся побач з забітым сабакам.

Геракл падаўся ў лес і ўбачыў на ўзлеску два статкі: адзін чырвоны, як усё на востраве, другі чорны, як ноч, і вартаваў яго чорны пастух у чорнай вопратцы, з чорнымі валасамі і чорным тварам.

Убачыўшы Геракла, чорны пастух з крыкам уцёк у лес. Потым з лесу тройчы пачуўся страшны рык, і з-за дрэў паказаўся велікан Герыён. Тры тулавы, што зрасліся разам, крочылі на шасці нагах, тры галавы пазіралі грозна на Геракла, шэсць рук пагражалі яму. Геракл узняў свой лук — страла засвістала і ўпілася ў грудзі велікана. Адразу ж бяссільна схілілася адна галава, дзве рукі павіслі, як цявінкі, уздоўж цела, дзве нагі перасталі рухацца і валакліся за астатнімі, замінаючы ім. Але велікан быў ужо гэтак блізка, што Геракл не паспеў стрэліць другі раз. Ён узняў сваю дубінку і апе     разаў Герыёна па другой галаве. І гэта абвяла таксама, і яшчэ дзве рукі апусціліся, і ўжо чатыры нагі матляліся ўнізе і заміналі Герыёну ісці. Тады Геракл адкінуў дубінку і схапіўся з

веліканам урукапашную. Магутнымі рукамі ён абхапіў яго, і яны пачалі дужацца. Два мёртвыя целы перашкаджалі велікану, лішнія рукі матляліся бездапаможна па баках, лішнія ногі штурхаліся паміж нагамі — і неўзабаве прыйшлі Герыёну канцы.

Цяпер Геракл мог гнаць чырвоны статак. Чорны пастух уцёк. Чырвоны пастух забіты, і сам велікан валяўся на зямлі вялізнай мёртвай глыбай. Але статак не хацеў слухацца героя, валы не краналіся з месца. Геракл пачаў шукаць вакол, чым можна было б іх пагнаць, і знайшоў каля забітага пастуха чырвоную дудачку. Ён прыклаў яе да вуснаў, дудачка заспявала, і чырвоныя валы паслухмяна ўсталі з зямлі і пайшлі за Гераклам. Акружаны чырвоным статкам, стаяў Геракл на беразе акіяна і чакаў.

Увечары прыплыла залатая лодка, і Геракл папрасіў Геліёса перавезці яго са статкам на зямлю.

— Што скажуць людзі, калі ўбачаць, што Сонца вяртаецца назад? — сказаў Геліёс.

Але смелы герой спадабаўся богу Сонца, ён аддаў яму сваю лодку, а сам застаўся начаваць на востраве.

У залатой лодцы Геліёса Геракл давёз чырвоны статак да краю зямлі і пагнаў яго цераз горы, цераз чужыя краіны — у Грэцыю.

Па дарозе здарылася з імі шмат прыгод. Каля ракі Тыбра велікан Как украў у яго некалькі валоў. Гераклу давялося з ім біцца, і герой забіў велікана.

Потым адзін вол зваліўся ў мора; хвалі аднеслі яго ў Сіцылію, і Гераклу трэба было, пакінуўшы статак на Гефеста, плыць на востраў і біцца з царом Сіцыліі, які не хацеў аддаваць вала.

Нарэшце, ужо непадалёку ад Аргоса, Гера, якая ўсяляк старалася перашкодзіць Гераклу, напалохала валоў, і яны разбегліся. Ледзьве сабраў іх Геракл і прывёў у Мікены. А цар Еўрысфей падарыў увесь чырвоны статак сваёй заступніцы Геры.

## АДЗІНАЦЦАТЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл даходзіць да краю свету і здабывае яблыкі Гесперыд*

Даўным-даўно, калі на светлым Алімпе багі спраўлялі вяселле Зеўса і Геры, Гея-Зямля падарыла ня-

весце чароўнае дрэва, на якім раслі залатыя яблыкі.

Гэтыя яблыкі вярталі чалавеку маладосць, і той, хто змог бы іх дастаць, ніколі б не састарыўся.

Але ніхто з людзей не ведаў, дзе знаходзіцца сад, у якім расла дзівосная яблыня.

Пакуль Геракл, па загаду цара, хадзіў па зямлі і змагаўся са страшыдламі, Еўрысфей у сваім палацы старэў і з кожным днём рабіўся ўсё больш слабым і баязлівым. Ён пачаў ужо баяцца, што Геракл, перамогшы ўсіх на свеце, перастане яго слухацца і сам захоча стаць царом над усёй Грэцыяй. Еўрысфей вырашыў паслаць Геракла так далёка, каб ён не вярнуўся назад. Цар загадаў герою здабыць тры залатыя яблыкі з дрэва маладосці.

Геракл выправіўся ў свет шукаць залатыя яблыкі. Ён зноў абышоў усю Грэцыю з канца ў канец, пабываў у халоднай паўночнай краіне гіпербарэяў[1] і прыйшоў да ракі Эрыдану, дзе ўжо быў адзін раз. Німфы пазналі яго, пашкадавалі і навучылі, каб ён папрасіў парады ў марскога цара Нерэя, які бачыў

---

[1] Так старажытныя грэкі называлі народ, што жыў на самай поўначы Грэцыі.

усё, што схавана ад вока людзей. Геракл пайшоў да мора і пачаў клікаць марскога цара. Хвалі хлынулі на бераг, і на шустрых дэльфінах усплылі наверх вясёлыя Нерэіды, дочкі марскога цара, а за імі паказаўся ўдалечыні стары Нерэй з доўгай сівой барадой. Геракл завабіў яго на бераг, абхапіў сваімі магутнымі рукамі і сказаў, што не выпусціць яго, пакуль ён не скажа, дзе расце чароўная яблыня Геры. Нерэй раптам перакінуўся ў вялікую рыбіну, і яна выслізнула з рук Геракла. Ён хуценька наступіў ёй на хвост — рыбіна засыкала і ператварылася ў змяю. Герой схапіў змяю і хацеў задушыць — змяя перакінулася ў агонь. Геракл зачэрпнуў вады з мора, каб заліць агонь,— агонь ператварыўся ў ваду, вада пацякла ў мора. Герой перагарадзіў ёй дарогу і выкапаў ямку сваёй дубінкай — вада ўзнялася з ямкі і стала дрэвам. Геракл выцягнуў меч і хацеў ссекчы дрэва — яно перакінулася ў белую птушку. Геракл узлаваўся, схапіў свой лук і ўжо напяў цеціву. Тады Нерэй прыняў свой першапачатковы выгляд і расказаў Гераклу, што дрэва маладосці расце на краі свету, у садзе німф Гесперыд, дачок тытана

Атланта, што пільнуе яго стовокі дракон, а Гесперыды сочаць, каб ён не заснуў ні ўдзень ні ўночы, і што дарога на край свету ляжыць цераз Лівійскую пустыню. Геракл загадаў, каб Нерэй перанёс яго цераз мора ў Лівію, і пайшоў шукаць край свету.

Доўга ішоў ён па сыпучых пясках пустыні і сустрэў велікана ростам з карабельную мачту.

— Стой! — закрычаў велікан.— Што табе трэба ў маёй пустыні?

— Я іду на край свету, шукаю сад Гесперыд, дзе расце дрэва маладосці,— адказаў Геракл.

— Тут я гаспадар,— сказаў велікан.— Я — Антэй, сын Зямлі. Я нікога не прапускаю цераз пустыню; ты павінен дужацца са мною. Калі пераможаш мяне — пойдзеш далей. Калі не — застанешся тут.— І ён паказаў на кучу чарапоў і касцей, напалову засыпаных пяском.

Нічога не зробіш, давялося Гераклу дужацца з сынам Зямлі.

Спачатку яны кружыліся адзін вакол аднаго, нібы звяры, потым разам напалі адзін на аднаго, сашчапіліся рукамі і сціскалі адзін аднаго з усяе сілы. Антэй быў вялізны, цяжкі і моцны, як камень, але Геракл быў дужэйшы — ён па-

валіў велікана на зямлю. Антэй адразу ж усхапіўся і рынуўся на Геракла. Зноў дужаліся яны, і другі раз Геракл паваліў Антэя. І зноў, дакрануўшыся да зямлі, Антэй хуценька ўсхапіўся і, смеючыся, адбіваў удары Геракла. Трэці раз паваліў герой велікана, і Антэй зноў лёгка падняўся, быццам ад таго, што ён упаў, у яго пабольшала сілы...

Геракл здзівіўся сіле велікана. Раптам ён успомніў, што Антэй — сын Зямлі, і зразумеў, што Зямля-маці падтрымлівала свайго сына і кожны раз, як ён дакранаўся да яе, давала яму новую сілу. Тады Геракл імкліва напаў на Антэя, схапіў яго, падняў угору і трымаў над зямлёй — і адразу Антэй страціў сілу і задыхнуўся ў магутных руках героя.

Геракл без перашкод пайшоў далей.

Нарэшце дабраўся ён да краю свету, дзе неба апускаецца да зямлі. Там, на самым краі, стаяў тытан Атлант і трымаў на сваіх плячах нябесны купал. Ён стаяў гэтак ужо шмат гадоў, таму што ўладар свету Зеўс прызначыў яго на гэту работу і ніхто за ўвесь час не падмяніў яго.

— Хто ты і чаго прыйшоў на край свету? — спытаў Атлант Геракла.

— Мне патрэбны тры залатыя яблыкі з дрэва маладосці, што расце ў садзе Гесперыд,— адказаў Геракл.

— Табе не дастаць гэтых яблык. Іх пільнуе стовокі дракон, ён не спіць ні ўдзень ні ўночы і нікога не падпускае да дрэва,— сказаў Атлант.— Ды я магу памагчы табе: Гесперыды — мае дочкі.

Геракл узрадаваўся і пачаў прасіць тытана памагчы яму.

— Стань на маё месца,— сказаў Атлант,— і патрымай неба, а я пайду ў сад Гесперыд і прынясу табе тры залатыя яблыкі.

Геракл палажыў на зямлю сваю зброю і львіную шкуру, стаў побач з тытанам і падставіў плечы пад нябесны купал. Атлант расправіў стомленую спіну і пайшоў у сад Гесперыд. І пакуль ён хадзіў па яблыкі, Геракл стаяў на краі зямлі і трымаў на плячах неба. Нарэшце Атлант вярнуўся і прынёс тры залатыя яблыкі.

Геракл пачаў дзякаваць яму, але тытан сказаў:

— Каму трэба аддаць гэтыя яблыкі? Скажы, я пайду і аддам. Мне

хочацца пагуляць па зямлі. Абрыдла стаяць нерухома тут, на краі свету, і трымаць гэтае цяжкае неба. Я рады, што знайшоў сабе замену. Бывай!

І ён хацеў пайсці.

— Пачакай,— сказаў Геракл.— Дай я толькі падлажу сабе на плечы львіную шкуру, каб нябесны купал не намуляў мне шыю. Пакладзі яблыкі на зямлю і вазьмі на хвілінку неба, пакуль я ўладкуюся зручней.

Атлант паклаў на зямлю залатыя яблыкі і зноў узваліў неба сабе на спіну. Геракл падняў з зямлі свой лук і калчан, узяў тры залатыя яблыкі, захутаўся ў ільвіную шкуру, пакланіўся Атланту і пайшоў. Ён ішоў шпарка і ні разу не азірнуўся. Але зоркі падалі дажджом, і ён здагадаўся, што Атлант злуецца і моцна трасе неба.

Схаваўшы залатыя яблыкі на грудзях пад плашчом, Геракл спяшаўся ў Мікены і радаваўся, што выканаў і гэты загад цара.

— Вось я прынёс табе яблыкі Гесперыд — цяпер ты зноў можаш стаць маладым! — сказаў Геракл Еўрысфею.

Але цар быў так уражаны, убачыўшы перад сабою Геракла жыво-

га і здаровага, што не ўзяў залатыя яблыкі і прагнаў яго прэч.

Геракл падаўся дадому і па дарозе думаў, што яму рабіць з залатымі яблыкамі. Раптам перад ім з'явілася багіня розуму і мудрасці Афіна.

«Мудрасць даражэй за маладосць»,— падумаў Геракл і аддаў Афіне тры залатыя яблыкі.

А яна вярнула іх у сад Гесперыд на дрэва Геры.

## ДВАНАЦЦАТЫ ПОДЗВІГ

## *Геракл спускаецца ў царства мёртвых і перамагае Кербера*

Усю зямлю з усходу да захаду абышоў Геракл, ваяваў і працаваў, змагаўся са страшыдламі і са злымі людзьмі, пракладваў дарогу на вяршыню гары, разам з Сонцам пераплываў акіян, дайшоў да края свету — і вярнуўся пераможцам.

Тады Еўрысфей, страціўшы надзею пазбавіцца ад Геракла, вырашыў паслаць яго туды, адкуль ніхто са смяротных яшчэ ні разу не прыходзіў назад,— у краіну мёртвых, у падземнае царства Аіда.

Каля медных варот Та́ртара — каля ўвахода ў царства мёртвых —

дрэмле на варце страшны трохгаловы сабака Ке́рбер. У яго на шыі замест поўсці выгінаюцца чорныя змеі, хвост у яго — жывы дракон, а з разяўленых пашчаў вылятаюць тры языкі полымя. Калі адчыняюцца вароты і ў царства Смерці заходзіць бледны цень чалавека, Кербер ветліва віляе хвастом і ад лютай весялосці стараецца лізнуць прышэльца сваімі вогненнымі языкамі. Але гора таму, хто захоча вярнуцца!..

Апошні раз паклікаў да сябе Геракла цар Еўрысфей і сказаў яму:

— Прывядзі да мяне Кербера з царства Аіда, і гэта будзе твая апошняя служба мне!

Геракл нічога не адказаў і рушыў у дарогу.

Ён знайшоў пячору Тэна́ра, адкуль па русле падземнай ракі трэба было спускацца ў глыб зямлі.

Страшна жывому па сваёй ахвоце ісці ў царства смерці!

Геракл спыніўся каля ўвахода ў пячору, паглядзеў на зямлю ў квецені, на сіняе мора, на ўвесь цёплы сонечны свет, і сумна і страшна зрабілася яму. Але ён перасіліў сум і страх і адважна ступіў у цемру. І адразу пачуў за сабой лёгкія крокі. Гэта даганяў яго Гермес,

крылаты вястун Зеўса, якога ўладар свету паслаў правесці Геракла да Аіда. Гермес узяў героя за руку, і ўдвух яны пачалі спускацца ў падземнае царства.

Неўзабаве ў змроку забялела высокая скала: пад ёю ледзь чутна сонна струменіла ціхая рака, зарослая высокай травою без колеру і паху. Геракл нагнуўся да ракі, каб напіцца.

— Не пі,— спыніў яго Гермес,— гэта Лета, рака Забыцця. Хто нап'ецца вады з яе, той забудзе ўсё на свеце.

Яны пайшлі далей, і Геракл убачыў свайго старога настаўніка і свайго юнага сябра, што памёр у паходзе. Геракл радасна кінуўся да іх, працягваючы ім рукі, але яны глядзелі на яго нежывымі вачамі, не пазнаючы, быццам не бачачы яго, і, як цені, слізганулі міма.

— Яны не пазнаюць цябе,— сказаў Гермес.— Яны пілі з ракі Забыцця і ўсё забылі.

Але адзін цень раптам спыніўся, наблізіўся. Геракл пазнаў калідонскага цара Мелеа́гра.

— Геракл,— сказаў ціха цень цара,— памажы мне. На зямлі я пакінуў сястру Дэяні́ру, юную і безабаронную. Думкі пра яе трыво-

жаць мяне і тут. Прашу цябе: вазьмі яе да сябе ў дом, ажаніся з ёю,— яна будзе табе вернаю жонкай. А я супакоюся навек.

І Геракл паабяцаў выканаць просьбу сябра.

Усё ніжэй і ніжэй спускаліся яны ў глыб зямлі і раптам убачылі чалавека, які цягнуў на самы верх падземнай гары вялізны цяжкі камень. Увесь спацелы і запылены, напружваючы ўсе сілы, ён аберуч старанна каціў угору камень, падпіраючы яго ўсім сваім целам. Усяго адзін крок заставаўся яму да вяршыні гары, як раптам камень вырваўся з аслабелых рук і з грукатам пакаціўся ўніз. Чалавек паспешліва спусціўся за ім да падножжа гары і зноў пацягнуў сваю цяжкую ношу. І зноў, не дасягнуўшы вяршыні, сарваўся і ўпаў камень, і зноў спусціўся ўніз і без адпачынку, без перадыху пацягнуў яго наверх чалавек.

Геракл спыніўся і пазіраў на гэтую цяжкую і марную працу.

Гэта быў Сізіф з Карынфа, асуджаны вечна цягаць гэты цяжкі камень — за сквапнасць, за тое, што пры жыцці прысвойваў сабе чужыя багацці, за тое, што пражыў на зямлі не працуючы.

Далей пайшоў Геракл са сваім спадарожнікам Гермесам і ўбачыў чалавека, які стаяў у празрыстай і чыстай вадзе. Вада даходзіла яму да плячэй, але ледзь толькі ён нагінаўся, каб прагнаць смагу, змачыць перасохлыя, чорныя губы, вада імгненна спадала, знікала, хавалася ўся ў зямлі. З берага схіляліся да чалавека галіны, якія гнуліся ад пладоў, янтарная гронка вінаграду амаль датыкалася да яго твару. Але як толькі ён працягваў руку, каб сарваць румяны яблык або сакавіты гранат, галіны ўзнімаліся высока-высока, і галодны не мог дацягнуцца да іх.

Геракл пазнаў чалавека, якога гэтак жорстка пакаралі.

Гэта быў Тантáл, цар Сіпíла, калісьці любімец багоў і самы шчаслівы са смяротных, навекі асуджаны ўладаром свету Зеўсам за падман багоў, за вераломства, за непамерную, шалёную зайздрасць.

З цяжкім сэрцам праходзіў Геракл міма страшных прывідаў падземнага царства. Нарэшце ён прыйшоў на бераг падземнай ракі Ахерóнта. Каля берага чакала чорная лодка. Змрочны і маўклівы перавозчык Харон стаяў з вяслом у руцэ на карме, і цені памёршых

нясмела працягвалі яму манету, якую клапатлівыя родныя палажылі нябожчыку ў рот пры пахаванні.

Стары Харон здзівіўся, убачыўшы жывога ў царстве мёртвых, але Гермес загадаў яму прапусціць Геракла ў лодку. Лодка паплыла ўпоперак чорнай нерухомай ракі. Цені памёршых з роспаччу пазіралі назад, быццам хацелі апошні раз убачыць тое, што яны пакінулі на зямлі. Лодка плыла цераз Ахеронт, і неўзабаве наблізіўся пустынны бераг. Геракл з Гермесам выйшлі з лодкі першыя і рушылі разам з натоўпам да медных варот Аідава царства. Цяжкія вароты былі шырока расчынены, і каля іх Геракл убачыў Кербера. Сабака ляніва памахаў сваім страшным хвастом і адышоўся, прапускаючы героя.

— Ён яшчэ не ведае, чаго ты прыйшоў сюды,— сказаў Гераклу спадарожнік,— а то ён сустрэў бы цябе інакш.

З жаласным стогнам цені памёршых увайшлі ў шырокія вароты і рушылі да палаца падземнага царства.

Там, у вялікай і змрочнай зале, перад тронам Аіда сядзелі строгія

і непадкупныя суддзі мёртвага царства: Радама́нт, Эа́к і Мі́нас. Яны судзілі кожнага за яго жыццё, за яго зямныя справы і кожнаму прызначалі па заслугах пакаранне або ўзнагароду.

Убачыўшы жывога чалавека ў палацы ўладара мёртвых, здзівіліся і суддзі і слугі Аіда. А Геракл спакойна стаяў перад тронам падземнага цара, з ільвінай шкурай на плячах, трымаючы ў руках сваю дубінку, і папрасіў Аіда дазволіць яму вывесці на святло Кербера, каб паказаць яго цару Еўрысфею.

— Я дазволю табе,— сказаў яму Аід,— узяць на нейкі час з сабою на зямлю майго сабаку, калі ён выпусціць цябе адсюль і калі ты зможаш узяць яго, не параніўшы, без мяча і без стралы, аднымі сваімі рукамі.

Геракл падзякаваў Аіду і пайшоў назад да медных варот. Цяпер яны былі зачынены, і Кербер спаў перад імі, паклаўшы ўсе тры галавы на чорную дарогу.

Пачуўшы крокі Геракла, ён прачнуўся, усхапіўся, сярдзіта загыркаў, і дракон на канцы хваста грозна разявіў пашчу.

Геракл хуценька наблізіўся да Кербера і, выставіўшы ўперад сваю

левую руку, абгорнутую ў ільвіную шкуру, правай рукой схапіў сабаку за шыю. Сабака завыў; жудаснае выццё яго разнеслася па ўсім падземным царстве. Ён ухапіўся зубамі ўсіх трох галоў за левую руку героя, лізаў яе вогненнымі языкамі, усе змеі на яго спіне ўпіліся ў ільвіную шкуру, але яе нельга было пракусіць, і Геракл не адчуваў болю. Моцна сціскаў ён шыю сабакі і цягнуў яго за сабою, на бераг ракі, да перавозу. Нарэшце напаўзадушаны Кербер захістаўся, аслабеў і лёг перад Гераклам. Герой надзеў яму ланцуг на шыю і павалок за сабою, і страшны сабака падземнага царства паслухмяна паплёўся за пераможцам.

Харон жахнуўся, убачыўшы Геракла з Кербером, але не адважыўся затрымаць іх і перавёз на другі бок.

Калі яны наблізіліся да выхада на зямлю, Кербер жаласна заскуголіў і амаль поўз за Гераклам. А калі яны выйшлі са змроку на зямны вольны прастор, сонечнае святло асляпіла падземнага вартаўніка; ён задрыжаў, закалаціўся, жоўтая пена закапала з яго пашчаў, і ўсюды, дзе яна падала на зямлю, вырастала ядавітая трава.

Геракл прывёў Кербера ў Мікены і прымусіў Еўрысфея зірнуць на яго. Але Еўрысфей затуліў твар рукамі і ад страху пачаў прасіць Геракла найхутчэй завесці страшнага сабаку назад.

— Ну, бяжы, вяртайся назад і чакай цара каля варот,— сказаў Геракл і зняў з Кербера ланцуг.

І сабака як зглездзець вокам памчаўся ў царства мёртвых.

Так закончылася служба Геракла Еўрысфею, і цар адпусціў героя.

## *Геракл у палоне*

Закончыўшы сваю службу ў цара Еўрысфея, здзейсніўшы дванаццаць подзвігаў, Геракл вярнуўся дадому. Тут яго чакалі новыя выпрабаванні.

Даверлівы і добры, Геракл часта бываў нецярплівы, запальчывы і ў гневе не памятаў сябе.

Аднойчы хлопчык-слуга падаў яму напіцца вады, якая прызначалася, каб умывацца. Геракл зазлаваў, стукнуў яго і забіў незнарок. Тады, каб навучыць героя цярплівасці, Зеўс наслаў на яго доўгую пакутлівую хваробу. Адважны герой, які не баяўся ні дзікіх звяроў, ні страшыдлаў, ні варожага войска,

не мог цярпліва пераносіць боль. Ён не вытрымаў, звярнуўся да Апалона і запатрабаваў, каб бог святла, які ведае будучае людзей, сказаў яму, калі ён паправіцца і скончацца яго пакуты. Апалон не захацеў адкрыць герою гэтую тайну. Геракл раз'юшыўся і ўзняў руку на бога святла. Грамавержац разгневаўся, паслаў хмару, каб яна разняла задзір, і загадаў Гермесу пакараць непакорнага героя.

Хітры бог гандлю прадаў Геракла лідзійскай царыцы Амфале за тры медныя манеты на тры гады ў рабства.

Вясёлая царыца Амфала не пасылала Геракла ў далёкія паходы і не патрабавала ад яго геройскіх спраў і перамог. Яна адабрала ў героя зброю — яго меч і лук са стрэламі, зняла з плеч ільвіную шкуру, апранула Геракла ў жаночае адзенне і дзеля пацехі прымушала яго, нібы служанку, прыслужваць ёй.

Яна садзіла яго за прасніцу разам з жанчынамі і весялілася, слухаючы, як казкі, яго расказы пра далёкія вандроўкі, цяжкія паходы і жорсткія бітвы.

Гэты палон у Амфалы быў для героя цяжэйшы за самыя мудраге-

лістыя даручэнні Еўрысфея. І часта Геракл так сумаваў і нудзіўся, што царыцы надакучваў яго змрочны выгляд, яна аддавала яму лук і стрэлы і дазваляла пагуляць па ваколіцах.

Аднойчы Геракл зайшоў вельмі далёка, у суседнюю з Лідзіяй краіну, стомлены лёг пад дрэва і заснуў. Праз сон ён адчуў нейкую мітусню вакол сябе, быццам маленькія звяркі бегалі па яго целе. Ён прачнуўся, працягнуў руку, злавіў аднаго.

Гэта быў не звярок, а смешны карлік — кекро́п.

Шмат іх варушылася каля героя на зямлі — ім спадабаўся лук Геракла, і яны збіраліся сцягнуць яго. Геракл пачаў лавіць іх, звязваць за рукі, за ногі, потым начапіў іх на доўгую палку і панёс у Лідзію.

Кекропы не спалохаліся: яны скакалі па палцы, спрабуючы вызваліцца, гучна пішчалі і так пагражалі Гераклу і сварыліся на яго, што Геракл смяяўся ўсю дарогу.

Гледзячы на гэты маленькі смелы народ, Геракл развесяліўся.

Ён дайшоў да мяжы іх царства, развязаў сваіх маленькіх палонных і адпусціў на волю, а сам вярнуўся

да Амфалы і пачаў патрабаваць і сабе волі. І Амфала ўрэшце адпусціла яго.

## *Геракл вызваляе Праметэя*

Шмат яшчэ подзвігаў здзейсніў Геракл, і імя яго праславілася па ўсёй Грэцыі.

Калі Язон пабудаваў быстраходны карабель «Арго» і паклікаў герояў Грэцыі, каб плыць за тры моры, у Калхіду, здабываць залатое руно, магутны Геракл выправіўся ў паход разам з адважнымі арганаўтамі.

Але па дарозе, на адной са стаянак «Арго» каля берага невядомай зямлі, Геракл зайшоў далёка ў прыбярэжны лес, не вярнуўся ў час на карабель, і арганаўты паплылі далей без яго. А Геракл па сушы падаўся ў глыб краіны і неўзабаве прыйшоў у горы.

Дзікі і велічны край адкрыўся перад ім. Градою ўзвышаліся высокія горы, каля падножжа зарослыя густым лесам, а на вяршынях пакрытыя вечным снегам. Чым вышэй падымаўся герой, тым усё больш суровыя і непрыступныя рабіліся горы. Нарэшце ён забраўся

на голую скалу, якая абрывалася па-над морам.

Раптам Геракл пачуў голас, які клікаў яго, і ўбачыў прыкаванага да скалы тытана.

Геракл пазнаў Праметэ́я — сына Феміды, багіні справядлівасці, і тытана Іапе́та, ад якога пачаўся на зямлі род чалавечы.

Калісьці, у даўнія-даўнія часы, людзей на зямлі было мала. Нібы звяры, блукалі яны па лясах, палявалі на зверыну, елі сырое мяса, дзікія плады і карані, укрываліся звярынымі шкурамі і ў непагадзь хаваліся ў пячорах і дуплах дрэў. Розум у іх быў, як у малых дзяцей; яны былі бездапаможныя ў жыцці і безабаронныя супраць драпежных звяроў і грозных сіл прыроды.

Праметэй пашкадаваў людзей і захацеў памагчы ім.

Ён пайшоў да свайго сябра Гефеста, сына Зеўса, цудоўнага каваля і майстра. На востраве Лемнас, у нетрах вогнедышнай гары, была майстэрня Гефеста. Горача палаў у вялізным горне свяшчэнны агонь, без якога немагчыма ніводнае мастацтва і майстэрства. Тры аднавокія веліканы — Кіклопы — працавалі ў майстэрні Гефеста. Дзве статуі, якія ён сам адліў з золата, ру-

халіся, нібы жывыя, па майстэрні, і кульгавы бог-каваль абапіраўся на іх, калі куды-небудзь ішоў.

Праметэй застаў Гефеста за работай — бог-каваль каваў вогненныя стрэлы-маланкі для Зеўса-Грамавержца. Праметэй стаяў і глядзеў, як па-майстэрску працуе Гефест. Калі ж Кіклопы пачалі мяхамі раздзімаць агонь у горне і палаючыя іскры разляцеліся па ўсёй майстэрні, Праметэй злавіў свяшчэнную іскрынку і схаваў у пустой трысцінцы, якую трымаў у руцэ. Гэтую трысцінку з іскрай свяшчэннага агню Праметэй прынёс людзям, і людзі запалілі ад яе ўсюды на зямлі вогнішчы, ачагі і горны. Людзі навучыліся змагацца з прыродай, здабываць схаваныя ў нетрах зямлі медзь і жалеза, золата і серабро і вырабляць з іх розныя рэчы, зброю і ўпрыгожанні. Людзі пачалі будаваць сабе жыллё з дрэва і каменя і караблі з ветразямі, каб плаваць па рэках і морах. Людзі прыручылі дзікіх жывёл і прымусілі каня насіць на сабе чалавека, а казу і карову — карміць яго, а ў авечкі пачалі браць цёплую і моцную воўну для вопраткі. Святло ад свяшчэннага агню праясніла думкі людзей, абу-

дзіла іх сонны розум, запаліла ў сэрцы імкненне да шчасця.

І яшчэ шмат чаму навучыў Праметэй людзей з дапамогай свяшчэннага агню. Ён навучыў іх гатаваць лекавы сок з раслін, якія памагаюць пры хваробах і ранах, і людзі пазбавіліся ад вечнага страху смерці. Праметэй адкрыў ім навуку лічбаў і навучыў запісваць знакамі словы, каб перадаваць свае думкі тым, хто жыве далёка.

З гордасцю глядзеў Праметэй, як людзі робяцца дужэйшыя, разумнейшыя і спрытнейшыя ў любой рабоце.

Але ўладар свету Зеўс разгневаўся на Праметэя і вырашыў жорстка пакараць выкрадальніка свяшчэннага агню. Цар багоў паслаў сваіх слуг Сілу і Уладу схапіць Праметэя і адвесці яго на край свету, у бязлюдную горную краіну, а Гефесту загадаў прыкаваць тытана да гары. Горка было Гефесту выконваць гэты загад — Праметэй жа быў яго сябар, але такая была воля Зеўса. Гефест закаваў рукі і ногі Праметэя ў жалезныя кольцы, а потым моцным ланцугом прыкаваў яго да каменнай глыбы, вострым алмазным клінам прабіў

яму грудзі і прыбіў яго да скалы.

І загадаў Зеўс, каб назаўсёды, на векі вякоў, застаўся Праметэй прыкутым да гэтай скалы.

Мінулі стагоддзі. Шмат што змянілася на зямлі. Толькі не канчаліся мукі Праметэя. Сонца пякло яго высахлае цела, сцюдзёны вецер замятаў яго калючым снегам. Кожны дзень у вызначаны час прылятаў вялізны арол, разрываў кіпцюрамі цела тытана і дзяўбаў яго печань. А ўночы раны гаіліся зноў.

Ды нездарма ён насіў імя «Праметэй», што азначае «прадбачлівы»: ён ведаў, што надыдзе часіна, і сярод людзей на зямлі з'явіцца вялікі герой, які здзейсніць шмат подзвігаў, каб ачысціць зямлю ад ліха, і прыйдзе вызваліць яго.

І вось нарэшце Праметэй пачуў крокі чалавека, які ішоў па гарах, і ўбачыў героя, якога чакаў увесь час.

Геракл наблізіўся да закаванага Праметэя і падняў ужо меч, каб збіць кайданы з тытана, але высока ў небе пачуўся крык арла: гэта Праметэеў арол у вызначаны час спяшаўся на свой крывавы баль. Геракл схапіў свой лук, пусціў стралу ў арла і забіў яго.

Геракл разбіў ланцуг, якім быў прыкуты Праметэй, выцягнуў у яго з грудзей алмазны клін, якім той быў прыбіты да скалы. І вызвалены Праметэй выпрастаўся, уздыхнуў на поўныя грудзі і яснымі вачыма зірнуў на зямлю і на героя, які прынёс яму свабоду і прымірэнне з багамі.

Зеўс загадаў Гефесту зрабіць пярсцёнак са звяна ланцуга Праметэя і ўставіць у яго камень — асколак скалы, да якой быў прыкаваны тытан. Гэты пярсцёнак Зеўс загадаў Праметэю надзець на палец і заўсёды насіць яго, каб памятаў, што не парушана слова ўладара свету і навекі Праметэй прыкуты да скалы.

## *Канец Геракла*

У бітвах, у паходах, у вандроўках па свеце праходзіла жыццё Геракла. Ён абышоў усю Грэцыю, пабываў у шмат якіх гарадах, але нідзе не жыў доўга, і доўга не меў ні сям'і, ні дома. Ды аднойчы ён успомніў, што ў царстве мёртвых абяцаў сябру Мелеагру ажаніцца з яго сястрой Дэянірай, і падаўся ў Калідон, дзе яна жыла.

У Калідоне ў гэты час ішлі спа-

борніцтвы жаніхоў — шмат іх дамагалася прыгажуні Дэяніры. Раптам сярод жаніхоў з'явіўся рачны бог Ахелой — страшыдла з бычынымі рагамі на галаве, з зялёнай барадой, па якой струменіла вада. Убачыўшы такога саперніка, усе жаніхі разбегліся. Дэяніра горка плакала ад страху.

Геракл прыйшоў ёй на дапамогу. Ён распачаў бой з Ахелоем і выламаў у яго адзін рог. Ахелой прызнаў сябе пераможаным, выпрасіў у Геракла назад свой рог, а Дэяніры падарыў узамен дзівосны Рог багацця, поўны кветак і садавіны, якія ніколі не зводзіліся ў ім.

Геракл ажаніўся з Дэянірай і падаўся з жонкай у горад Трахін, дзе яны збіраліся жыць. Па дарозе ім давялося пераходзіць цераз раку. Тут яны сустрэлі кентаўра Неса, які за плату пераносіў прахожых цераз раку на сваёй шырокай конскай спіне. Геракл пасадзіў жонку на спіну кентаўра, а сам пайшоў паперадзе. Ён ужо быў на сярэдзіне ракі, як раптам пачуў крык Дэяніры і, азірнуўшыся, убачыў, што кентаўр імчыцца па беразе, несучы выкрадзеную красуню.

Геракл хуценька схапіў свой лук,

і меткая страла ў адно імгненне дагнала кентаўра.

Нес перад смерцю парашыў адпомсціць Гераклу і сказаў Дэяніры:

— Кроў мая цячэ са смяртэльнай раны. Збяры і схавай яе — у ёй цудадзейная сіла. Калі Геракл калі-небудзь цябе разлюбіць, натры маёй крывёю яго вопратку — і каханне яго вернецца да цябе.

Дэяніра паверыла кентаўру, сабрала яго кроў і схавала.

Геракл з Дэяніраю пасяліліся ў Трахіне, жылі добра. Неўзабаве ў іх нарадзіўся сын.

Ішлі гады. Сын вырас. Геракл часта адлучаўся з дому на вайну. Аднойчы ён доўга не вяртаўся з паходу, і Дэяніра вельмі непакоілася. Яна хацела паслаць на пошукі бацькі сына, ды тут прыйшоў вястун ад Геракла і сказаў, што герой жывы і здаровы, вяртаецца дадому і пасылае ёй палонных, якіх ён захапіў у чужой краіне. Сярод палонных Дэяніра ўбачыла дзяўчыну незвычайнай прыгажосці і спытала ў вестуна, хто яна такая. Хітры вястун адказаў, што гэта не простая палонніца, а дачка пераможанага цара, якую Геракл калісьці хацеў узяць за жонку.

Дэяніра бачыла, што царэўна маладзейшая за яе і прыгажэйшая, і думала, што Геракл цяпер разлюбіць яе і пакіне адну. Яна прыгадала перадсмяротную параду кентаўра Неса: яго запечанай крывёю нацерла новае святочнае адзенне, якое сама выткала для мужа, і паслала з ганцом Гераклу.

Геракл узяў падарунак жонкі і захацеў адразу ж надзець яго. Але як толькі адзенне дакранулася да цела, атрута з крыві Неса трапіла ў Геракла і быццам агнём пачала пячы яго. Геракл ірваў на сабе праклятую вопратку, але яна прырасла да цела і прычыняла нясцерпны боль. Яго ахапіла шаленства, ён кідаўся ва ўсе бакі, крычаў і мучыўся невыказна. Калі пра гэта сказалі Дэяніры, няшчасная зразумела, што кентаўр ашукаў яе.

У роспачы, што яна загубіла мужа, Дэяніра кінулася грудзьмі на меч і памерла.

Даведаўшыся пра смерць жонкі, Геракл перастаў стагнаць і кідацца, сабраў апошнія сілы, наламаў галля ў лесе, склаў на пагорку вялікі касцёр і накрыў яго львінай шкурай. Потым ён лёг на яе, паклікаў сына і папрасіў падпаліць галлё.

Але ні сын, ні таварышы не ад-

важваліся выканаць яго просьбу.

Раптам вялікая чорная хмара закрыла сонца, бліснулі маланкі, загрымеў гром. Маланка з хмары стрэліла ў касцёр і запаліла галлё. Вогнішча разгарэлася, густы дым падняўся да неба.

Тады, нябачная ў гэтым дымным воблаку, спусцілася з неба залатая калясніца, і мудрая Афіна Палада памчала на Алімп свайго героя. Там яго сустрэла з лагоднай усмешкай прымірэння багіня Гера, узяла за руку і павяла на баль багоў.



## ЗМЕСТ



**ГЕРОИ ЭЛЛАДЫ**

Из мифов Древней Греции

Для детей младшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар *Л. М. Цяляк*. Мастак *А. К. Шэвераў*. Мастацкі рэдактар *Г. Р. Малышаў*. Тэхнічны рэдактар *Н. П. Дасаева*. Карэктар *Л. С. Зіза*.

ІБ № 57

Здадзена ў набор 20.05.82. Падп. да друку 05.03.84. Фармат 84×100 1/32. Папера высокамастацкая. Гарнітура часопісная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,70. Ум. фарб.-адб. 47,3. Ул.-выд. арк. 7,94. Тыраж 50 000 экз. (1-ы завод 1—10 000 экз.). Зак. 2606. Цана 60 к. Выдавецтва «Юнацтва». Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

